**ЗАГАДКАВЫ ВЯЗЕНЬ.** ЖАХЛІВАЯ ПОМСТА ДУШЫЦЕЛЮ ПАЎСТАННЯ КАЛІНОЎСКАГА

@Пішам добрыя тэксты ад 1906 history.nn.by

# Наша Гісторыя

№ 9(26) — 2020

ISSN 2617-2305

9 772617 230002 20009

ЗАХАПЛЯЛЬНЫЯ БІЯГРАФІІ
ЦІКАВЫЯ ЗНАХОДКІ
ВАЖНЫЯ АДКРЫЦЦІ

# САЛІДАРНАСЦЬ

## РУХ, ЯКІ ЗМЯНІЎ СВЕТ І ГІСТОРЫЮ

16+

Наша Гісторыя
9/2020
history.nn.by

**Навукова-папулярны, літаратурна-мастацкі часопіс**

Выдаецца з 2018 г.

ISSN 2617-2305

Зарэгістраваны Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Пасведчанне аб рэгістрацыі №1921 ад 11.07.2018 г.

**Галоўны рэдактар**
Андрэй Васільевіч Дынько

**Намеснікі галоўнага рэдактара**
Аляксандр Пашкевіч, кандыдат гістарычных навук
Іна Хоміч

**Дызайн і вёрстка** Уладзіслава Губіч

**Карэктура** Таццяна Кур'ян

На першай старонцы вокладкі — Лех Валенса, электрык, кіраўнік стачкама, 1980 год. Фота невядомага аўтара.

Часопіс «Наша гісторыя» выходзіць на беларускай і рускай мовах.
Перыядычнасць — 1 раз на месяц.



**Заснавальнік:** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Суродзічы».
Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» г. Мінск, вул. Калектарная, 11 код BLBBBY2X, УНП 190786828.

**Адрас рэдакцыі:** 220030, Мінск, вул. Энгельса, 34А.

**Адрас для допісаў:** 220004, Мінск, а/с 62.

**Тэлефоны:** (017) 316-48-13, (029) 613-32-32, (029) 707-73-29

**E-mail:** history@nn.by

Цана дамоўная.

**Падпісаны ў друк** 07.10.2020.
Афсетны друк. Папера лёгкакрэйдаваная.
Фармат 60×84/8.
Умоўных друкаваных аркушаў 11,16.
Гарнітура PetersburgC.
Замова 0518/20.
Наклад 4573.

Часопіс надрукаваны ў друкарні «Акварэль-прынт». Вул. Радыяльная, 40-202, 220070, г. Мінск. УНП 101282916.
ЛД 02330/78 ад 03.03.2014.
Пасведчанне аб рэгістрацыі ў Дзяржаўным рэестры выдаўцоў, вытворцаў і распаўсюднікаў друкаваных выданняў № 2/16 ад 21.11.2013 г.

## Ад рэдакцыі

Ад першага нумара нашага часопіса на яго старонках з'яўляюцца матэрыялы, прысвечаныя не толькі беларускай мінуўшчыне, але і гісторыі іншых блізкіх і далёкіх краін. Часам некаторыя з чытачоў нават звяртаюць нам увагу, што, маўляў, праз гэта ўзнікае неадпаведнасць з назвай выдання. Калі часопіс завецца «Наша гісторыя» — то хіба не мусіць у ім быць толькі пра тое, што адбывалася на нашых землях ці ў чым непасрэдна ўдзельнічалі нашы землякі?

На самай справе не. Гістарычны працэс ва ўсім свеце ўзаемазвязаны, і няма ніводнай нацыянальнай гісторыі, ізаляванай ад іншых. Тое, што адбываецца ў адным кутку свету, наўпрост ці ўскосна мае ўплыў і на падзеі ў іншых. Так было заўсёды, ва ўсе часы. Адно што толькі ў нашу эпоху глабалізацыі, з новымі сродкамі сувязі і камунікацый гэтыя ўплывы праяўляюцца куды больш хутка ды відавочна. Ды і сам гістарычны працэс дзякуючы ўсяму гэтаму несумненна паскорыўся: на што раней патрабаваліся стагоддзі ці нават тысячагоддзі, цяпер дастаткова дзесяцігоддзяў ці нават проста гадоў.

Усё гэта, аднак, не адмяняе таго, што і цяпер адныя народы і супольнасці праходзяць праз непазбежнае раней і актыўней, а іншым на гэта патрабуецца больш часу. Ды і самі формы, у якіх працэс працякае, могуць значна розніцца ў залежнасці ад мясцовых умоў.

Таму, апелюючы да гісторыі і беручы за прыклад досвед іншых народаў, няправільна і нават небяспечна механічна накладаць на сваю рэчаіснасць чужыя схемы. Кожны раз у іншым месцы ўсё адбываецца хоць крыху, ды інакш, — а часам і зусім інакш, хоць агульныя перадумовы, здавалася б, і падобныя. Бо ніколі няма таго, каб у розных выпадках стапрацэнтна супалі дзясяткі і сотні ўсіх фактараў і абставін, што непасрэдна ўплываюць на развіццё сітуацыі. У гісторыі вялікае значэнне маюць і роля асобы, і зробленыя ў ключавыя моманты памылкі ці, наадварот, нечакана ўдалыя хады. Ды і ўвогуле, нярэдка сітуацыю кардынальна змяняюць чыстыя выпадковасці і збегі абставін — для адных трыумфальныя, а для іншых фатальныя. Гісторыя ніколі да канца не прадказальная, а таму і цікавая.

Але ў той жа час ёсць у ёй і заканамернасці. Калі недзе нешта яўна аджыло і не ўпісваецца ў агульную логіку гістарычнага развіцця, то ўсё ж рана ці позна яно мусіць сысці са сцэны, саступіўшы месца жывому і сучаснаму. Запаволіць гістарычны працэс можна, часова яго скіраваць на неўласцівы шлях — таксама, а вось затрымаць увогуле — немагчыма.

Для разумення ж гістарычнага працэсу і таго, як ён увогуле ідзе, якраз і важна добра вывучаць і ведаць гісторыю не толькі сваю, але і сусветную. У ёй заўсёды знойдуцца павучальныя моманты.


4


32


50


22


52










42


28


56


84


68




84




# рух, які змяніў свет і гісторыю

**Сёлета споўнілася 40 гадоў з часу стварэння польскага прафсаюза «Салідарнасць», які неўзабаве ператварыўся ў шырокі народны рух. Піша кандыдат гістарычных навук Любоў Козік.**

## Крызіс за крызісам

Сацыялістычная Польшча (з 1952 па 1989 год яе афіцыйнай назвай была Польская Народная Рэспубліка) прайшла праз некалькі грамадска-палітычных крызісаў. Першы з іх адбыўся ў 1956 годзе і прывёў да змены лідара Польскай аб'яднанай рабочай партыі, якая мела манаполію на ўладу ў краіне. Улады змушаныя былі пайсці на гэта з-за выступленняў рабочых у Познані ў чэрвені 1956-га. Іх жорстка, з выкарыстаннем зброі задушылі, пры гэтым загінулі дзясяткі людзей.

Наступны крызіс, 1968 года, быў звязаны з пратэстамі студэнтаў і інтэлігенцыі супраць ідэалагічнага ціску. Ён стаў праявай расчаравання ў афіцыйных лозунгах і заявах аб пабудове справядлівага сацыялістычнага грамадства, якія разыходзіліся з рэальным жыццём у краіне. Маніфестацыі і мітынгі былі спробай паказаць уладзе, што перамены і дэмакратызацыя патрэбны не на словах, а на справе. Аднак задушэнне выступленняў у сакавіку 1968 года ў Польшчы, як і наступнае падаўленне Пражскай вясны ў Чэхаславакіі, падарвалі веру ў магчымасць дэмакратызацыі дзяржаўнага ладу ў краіне без змены самой сістэмы.

Пагаршэнне эканамічнай сітуацыі ў канцы 1960-х вылілася ў масавыя выступленні рабочых у снежні 1970 года. Мірных пратэстоўцаў, як і ў 1956-м, жорстка разганялі. Але партыйнае кіраўніцтва зноў змянілася, а разам з тым прыйшло і разуменне, што выступленні грамадзян выкліканыя перш за ўсё ўнутранымі, а не знешнімі фактарамі. Кіраўніцтва ПНР адважылася на перагляд сацыяльнай і эканамічнай палітыкі, пашырэнне кантактаў з краінамі Захаду. Бо тыя маглі не толькі прадаць палякам неабходныя тэхналогіі для мадэрнізацыі вытворчасці, але і даць ім крэдыты.

У першай палове 1970-х гадоў назіралася актыўнае развіццё інфраструктуры, будаўніцтва жылля і сацыяльных аб'ектаў. Жыхарам Польшчы стала лягчэй выязджаць за мяжу. Аднак увесь адносны дабрабыт таго часу быў пабудаваны на чужыя грошы, бо сутнасць эканамічнай сістэмы заставалася нязменнай. Гэта вяло да нарастання знешняй запазычанасці і эканамічных праблем унутры краіны. А таму выбух незадаволенасці быў непазбежным. Ужо ў чэрвені 1976-га адбыліся новыя выступленні рабочых.

## Салідарнасць да «Салідарнасці»

Рэакцыя ўлады на гэтыя выступленні адрознівалася ад папярэдняй. Гэтым разам супраць рабочых не выкарыстоўвалі зброі. Але найбольш актыўных дзеячаў пачалі затрымліваць, звальняць з працы, ствараць ім праблемы з працаўладкаваннем. У гэтых умовах пратэстоўцаў актыўна падтрымалі інтэлігенцыя і студэнты, якія выступалі з лістамі салідарнасці, а таксама збіралі сродкі для матэрыяльнай і юрыдычнай дапамогі рэпрэсаваным.


WIKIMEDIA COMMONS

**Польскі магазін савецкіх часоў выглядаў так.** Зрэшты, і беларускі выглядаў падобна. Цяперашняе пакаленне нават не зразумела б, што гэта крама.

Восенню 1976 года ў Польшчы паўстаў Камітэт абароны рабочых (КАР), які арганізоўваў юрыдычную, фінансавую, медыцынскую дапамогу пацярпелым ад дзеянняў улады, а таксама збор і распаўсюджванне інфармацыі аб рэпрэсіях. Галоўнай мэтай КАР стала вызваленне ўсіх затрыманых і арыштаваных і аднаўленне іх на працы. Члены камітэта вялі сваю дзейнасць адкрыта і ў межах прававога поля (напрыклад, заклікалі высылаць лісты ў Сейм з патрабаваннем стварыць надзвычайную камісію для расследавання фактаў парушэння законнасці). Але ўлада і такую актыўнасць лічыла незаконнай. Польскія спецслужбы затрымлівалі асоб, звязаных з дзейнасцю КАР, праводзіліператрусы, застрашвалі, збівалі.

З-за адсутнасці магчымасці прапагандаваць сваю дзейнасць у афіцыйных СМІ, КАР (з 1977 года пераўтвораны ў Камітэт грамадскай абароны) нелегальна выдаваў улёткі, часопісы і кнігі. На кантрасце з выпусташанымі афіцыйнымі СМІ гэтыя выданні ўспрымаліся як глыток вольнага паветра.

З 1977 года ў Польшчы пачалі ўзнікаць і іншыя ініцыятывы і грамадскія аб'яднанні. Сярод іх былі «Рух у абарону правоў чалавека і грамадзяніна», «Польскае незалежніцкае пагадненне», «Лятучы ўніверсітэт» і іншыя. У гэты ж час паўстаў і арганізацыйны камітэт Незалежных прафсаюзаў, нешматлікія дзеячы якога траплялі пад рэпрэсіі. Гэтая тканка ініцыятыў расла і расла, бо людзі былі вельмі незадаволеныя, што словы ўладаў звычайна разыходзяцца са справай.

## Мяса як апошняя кропля

Прычынамі новага крызісу ў чарговы раз сталі эканамічныя цяжкасці ў краіне. У другой палове 1970-х Польшча ўсё больш залежала ад паставак з Захаду. Дзяржаўныя прадпрыемствы заставаліся неканкурэнтаздольныя і маларэнтабельныя. Тавараў не хапала, попыт рос. Для аплаты імпарту польскае кіраўніцтва брала новыя і новыя крэдыты. Усё гэта вяло да хуткага росту знешняй запазычанасці. Пакрысе з'явіліся праблемы з забеспячэннем насельніцтва таварамі першай неабходнасці, раслі цэны, квітнелі спекуляцыя і блат. Пры гэтым афіцыйныя сродкі масавай прапаганды рапартавалі пра «поспехі і развіццё».

Чаша цярпення перапоўнілася летам 1980-га. Апошняй кропляй стала банальнае павышэнне цэн на мяса. Пры гэтым геаграфія выступленняў была занадта шырокай, каб было магчыма спісаць іх на дзейнасць варожых сілаў. Падчас забастовак пачалі вылучацца лідары, якія стваралі камітэты, фармулявалі спіс патрабаванняў ▶



WIKIMEDIA COMMONS

**Картка на малако**, 1983 год. Для маладых тлумачым: ты не мог купіць малака, колькі хочаш, а толькі вызначаную колькасць. Картачная сістэма на прадукты ў той час існавала не толькі ў Польшчы, але і ў многіх рэгіёнах СССР. А ў апошнія гады Саюза яна стала паўсюднай і тычылася літаральна ўсіх тавараў.

(першапачаткова эканамічных, а потым і палітычных), вялі перамовы з кіраўніцтвам і падпісвалі пагадненні.

Як і раней, улады імкнуліся звольніць з працы найбольш актыўных удзельнікаў пратэстаў. Аднак гэтым разам такая стратэгія дала збой.

## Звальненне кранаўшчыцы Анны Валентыновіч стала штуршком для першай забастоўкі

Інфармацыя пра звальненне з працы кранаўшчыцы Анны Валентыновіч стала штуршком для пачатку 14 жніўня 1980 года забастоўкі на суднаверфі Гданьска. Яе падтрымалі іншыя прадпрыемствы горада. Ужо праз два дні забастоўшчыкі стварылі Міжзаводскі стачачны камітэт, старшынёй якога абралі Леха Валенсу. Камітэт выступіў з патрабаваннямі, сярод якіх былі стварэнне незалежных ад партыі і працадаўцаў прафсаюзаў, гарантыя права на забастоўку, свабоду слова і друку, спыненне пераследу незалежных выданняў і рэпрэсій па палітычных матывах.

Выступленні пры гэтым мелі таксама выразна нацыянальны і рэлігійны характар. Выкарыстанне польскага сцяга і бела-чырвоных стужак, каталіцкага крыжа і партрэтаў «свайго» папы Яна Паўла ІІ, правядзенне набажэнстваў на тэрыторыі прадпрыемстваў, якія баставалі, — усё гэта было сімваламі, якія аб’ядноўвалі палякаў.


WIKIMEDIA COMMONS

**У момант, калі Лех Валенса стаў на чале прафсаюза, яму было 37 гадоў і ў яго ўжо было шасцёра дзяцей.** Ён карыстаўся аўтарытэтам сярод рабочых. Як і большасць палякаў з народу, ён быў вельмі пабожны.

У хуткім часе страйкоўцаў Гданьска падтрымалі прадпрыемствы Шчэціна і іншых гарадоў, дзе таксама стварaліся міжзаводскія стачкамы. Улады не маглі ігнараваць маштабны рух рабочых і накіравалі для перамоў з імі партыйных функцыянераў. Тыя імкнуліся дамовіцца з лідарамі, спрабавалі шляхам персанальных зменаў

на ключавых пасадах спыніць забастоўкі. Аднак дарэмна. І кіраўніцтву ПАРП урэшце прыйшлося пайсці на падпісанне пагаднення са страйкоўцамі.

Пагадненне (яго падпісалі 31 жніўня ў Гданьску) прадугледжвала магчымасць стварэння і рэгістрацыі новых незалежных прафсаюзаў, распрацоўку закона аб арганізацыі забастовак, перагляд вынесеных прысудаў, аднаўленне на працы людзей, звольненых па палітычных матывах. У верасні ў Гданьску прайшоў з'езд дэлегатаў рабочых з 30-ці гарадоў, на якім прынялі рашэнне стварыць агульнадзяржаўную «пагаджальную камісію» на чале з Лехам Валенсам і выкарыстоўваць сімвалічную назву «Салідарнасць».

**Патрабаванні рабочых былі эканамічныя і палітычныя, а іх выступленні мелі выразны нацыянальны характар**

10 лістапада 1980 года Незалежнае аб'яднанне прафсаюзаў «Салідарнасць» было афіцыйна зарэгістравана.

### Надзеі і расчараванні

«Салідарнасць» стала не столькі прафсаюзам, колькі грамадскім рухам. Ужо вясной 1981 года ў яе шэрагах было 9 мільёнаў чалавек, амаль кожны чацвёрты жыхар Польшчы.

Кіраўніцтва прафсаюза падтрымлівала сувязь з вядомымі праваабаронцамі, эканамістамі, дзеячамі культуры і навукі, карысталася падтрымкай іерархаў Каталіцкай царквы.

«Салідарнасць» адстойвала і абараняла правы рабочых, выступала з крытыкай метадаў кіравання на прадпрыемствах і краіне ў цэлым, мела свае выданні, распаўсюджвала самвыдат, арганізоўвала сустрэчы з вядомымі людзьмі і рабіла яшчэ шмат чаго. Яе заявы пра неабходнасць паляпшэння ўмоваў жыцця, захаванне дэмакратычных і выкарыстанне нацыянальных традыцый моцна кантраставалі з тым, што транслявалася ў дзяржаўнай прапагандзе.

Афіцыйныя колы Польшчы разумелі, што сітуацыя ў грамадстве ў любы момант можа выйсці з-пад кантролю. Пры гэтым яны знаходзіліся між молатам і кавадлам: з аднаго боку была «Салідарнасць», а з другога — савецкае кіраўніцтва, якое патрабавала сілавога вырашэння сітуацыі ў ПНР і пагражала сілавым умяшаннем, як у Венгрыі 1956-га і Чэхаславаччыне 1968-га.

У гэтых умовах новым лідарам ПАРП замест бляклага Станіслава Кані быў абраны генерал Войцех Ярузэльскі, які перад тым займаў пасаду прэм'ер-міністра і міністра абароны.

Восень 1981 года выдалася складанай. У «Салідарнасці» назіраўся раскол і расчараванне. Некаторым здавалася, што яна не выканала сваёй мэты — дэмакратызацыі сістэмы і паляпшэння ўмоваў жыцця, а таму неабходна пераходзіць да больш радыкальных і рашучых дзеянняў. Тым не менш «Салідарнасць» заставалася моцнай сілай, з якой нельга было не лічыцца. І кіраўніцтва краіны прадэманстравала, што ставіцца да пагрозы з яе боку сур'ёзна, прыняўшы рашэнне пра ўвядзенне з 13 снежня 1981-га ваеннага становішча.

У ноч з 12 на 13 снежня былі арыштаваныя дзеячы «Салідарнасці». У краіне забаранілі сходы, маніфестацыі і забастоўкі, узмацнілі кантроль цэнзуры, увялі каменданцкую гадзіну, абмежавалі перамяшчэнне па краіне, прыпынілі дзейнасць прафсаюзаў, грамадскіх аб'яднанняў і таварыстваў, увялі жорсткі кантроль на прадпрыемствах, прыпынілі выпуск некаторых газет. Любое парушэнне ваеннага становішча прадугледжвала пакаранне ад 3 да 10 год турэмнага зняволення, штраф ці часовае затрыманне.

### Сыход у партызаншчыну

«Салідарнасць» не была гатовая да такога рашэння ўладаў. Наяўнасць на вуліцах танкаў, узброеных патрулёў, вобшукі аўтамабіляў страшылі людзей і блакавалі магчымасць супраціўлення. На прадпрыемствы, дзе былі спробы пачаць забастоўку, накіроўвалі міліцыю (яе спецыяльныя падраздзяленні — Матарызаваная падтрымка грамадзянскай міліцыі (аналаг беларускага АМАПа) — *ZOMO*), армію, а часам і танкі. Пры спробах супраціву рабочых жорстка разганялі і затрымлівалі. У некаторых выпадках у іх стралялі. У 1982 годзе «Салідарнасць», якая і так дзейнічала ў невялікіх групах і канспіратыўна, канчаткова забаранілі.

Толькі па афіцыйнай інфармацыі, за час дзеяння ▸




**Той самы круглы стол цяпер захоўваецца ў прэзідэнцкім палацы Польшчы.** Ён, дарэчы, быў выраблены спецыяльна для тых перамоў. Рабочым на гэта спатрэбілася 20 дзён.

час. Людзі таксама масава прымацоўвалі на вопратку рэзістары замест забароненых сімвалаў прафсаюза, адмаўляліся купляць кнігі праўладных аўтараў

**За час ваеннага становішча ў Польшчы па палітычных справах судзілі звыш 13 тысяч чалавек**

▸ ваеннага становішча (1981–1983 гады) у Польшчы было арыштавана 9 736 чалавек. Людзей застрашвалі, праводзілі выхаваўчыя размовы, спрабавалі вербаваць. Па палітычных матывах судзілі звыш 13 тысяч чалавек.

Формамі пратэснага руху ў гэты час сталі байкот афіцыйных СМІ, прагулкі падчас навінаў на тэлебачанні — у тыя часы тэлеканалаў было адзін-два, і выпуск навін паказвалі адзін на ўсе каналы ў вызначаны (а часам і адсылалі ім раней купленыя кнігі). 13 дня кожнага месяца, у памяць пра дзень увядзення ваеннага становішча, грамадзяне арганізоўвалі кароткія акцыі пратэсту, а вечарам тушылі святло ў кватэрах і ставілі на падаконне запаленыя свечкі. Сярод палякаў былі папулярнымі выказванні тыпу «зіма ваша, вясна

## Тадэвуш Мазавецкі

(1927–2013) — прэм'ер Польшчы ў 1989–1991 гадах. Каталіцкі актывіст і рэдактар, ён быў прызначаны камуністычнымі ўладамі адным з «незалежных» членаў парламента ў перыяд, калі ўлады заігрывалі з грамадствам. У 1978-м быў адным з арганізатараў падпольнага «Лятучага ўніверсітэта». А ў 1980-м меў смеласць і аўтарытэт, каб узначаліць раду дарадцаў прафсаюза «Салідарнасць».
Пасля ўвядзення ваеннага становішча яго арыштавалі і год пратрымалі ў турме.
Менавіта гэты чалавек з крыштальнай рэпутацыяй і хрысціянска-дэмакратычнымі поглядамі стаў кампраміснай постаццю, абранай у якасці першага прэм'ера некамуністычнага ўрада ў 1989 годзе.




**Валенса і лідары «Салідарнасці» выходзяць з пасяджэння круглага стала 1989 года.** У цэнтры — будучы прэзідэнт Валенса ў светлым плашчы, з ім гаворыць будучы прэм'ер Мазавецкі.



WIKIMEDIA COMMONS

**Фіят «малюх», «польскі фіят» быў самай распаўсюджанай машынай у ПНР у тыя часы.** На фота: выбарчая кампанія на першых свабодных выбарах 1989 года.

наша», «варона арла не паканае» (адсылка да польскага герба — арла, і да абрэвіятуры *WRON, Войскова рада оцаленя народовэго*, створанага ў ноч на 13 снежня 1981 года Ваеннага савета нацыянальнага выратавання, які палякі пагардліва называлі «врона» — варона).

Перыядычна пратэсты ўспыхвалі з новай сілай. Вясной 1982-га ў Польшчы прайшлі маніфестацыі, якія былі брутальна разагнаныя. «Салідарнасць» заклікала байкатаваць афіцыйныя мерапрыемствы, ігнараваць афіцыйныя радыё і тэлебачанне. Людзі збіралі грошы на дапамогу палітзняволеным, масава наведвалі патрыятычныя службы ў касцёлах. Прафсаюз карыстаўся падтрымкай сваіх прыхільнікаў за мяжой (перш за ўсё эмігрантаў), выкарыстоўваў грошы заходніх фондаў, арганізоўваў кантрабандныя пастаўкі друкарскага абсталявання — тады не было інтэрнэту, і роля друкаванага слова была большая, чым у нашы дні.

Важную ролю ў падтрыманні патрыятычных настрояў у грамадстве адыграў візіт на радзіму папы Яна Паўла II у чэрвені 1983 года, а таксама прысуджэнне ў тым жа годзе Нобелеўскай прэміі міру Леху Валенсу.

### Прымус да рэформаў

Эканамічная сітуацыя ў Польшчы ў другой палове 1980-х была патавая. Спробы правесці абмежаваныя рэформы скончыліся нічым, толькі яшчэ больш раззлавалі насельніцтва. Гэтым скарысталася «Салідарнасць», якая вясной – летам 1988 года змагла арганізаваць серыю забастовак па краіне. Іх завадатарамі часта станавілася радыкальна настроеная моладзь. Кіраўніцтва краіны таксама прыйшло да разумення, што без сутнасных, глыбокіх зменаў у сістэме не абысціся, аднак у партыйна-дзяржаўных органах хапала і людзей, якія па-ранейшаму лічылі, што з «ворагамі» можна дзейнічаць толькі сілай.

І тут галоўную ролю сыграў сам генерал Ярузэльскі. Гэта ён настаяў на пошуку кампрамісу з апазіцыяй. Гэта ён настаяў на перамовах з памяркоўным крылом «Салідарнасці».

У якасці пасярэдніка-назіральніка ўлады выбралі касцёл — таму што і ўлады, і апазіцыя біскупам давяралі.

З лютага да красавіка 1989 года — амаль тры месяцы — у Варшаве доўжыўся круглы стол, у якім бралі ўдзел прадстаўнікі палітычных партый і каталіцкіх аб'яднанняў, апазіцыі і незалежныя эксперты.

Вынікам працяглых дыскусій сталі рашэнні, якія змянілі сістэму кіравання краінай. Адным з іх легалізацыя «Салідарнасці» і яе ўдзел у парламенцкіх выбарах. У жніўні 1989 года ўпершыню ў пасляваеннай Польшчы кіраўніком урада стаў не камуніст, а прадстаўнік дэмакратычных сілаў, дарадца «Салідарнасці» Тадэвуш Мазавецкі. Гэта стала кульмінацыйным пунктам барацьбы палякаў за пераўтварэнні ў краіне. ◆


WIKIMEDIA COMMONS

**Войцех Ярузэльскі (злева) і румынскі дыктатар Нікалае Чаўшэску**: першы выбраў кампраміс, другі верыў у непахіснасць рэжыму.



# ЭЛЕКТРЫК
## які стаў прэзідэнтам

**Перамены ў Польшчы сталі ўзорам мірнай трансфармацыі сістэмы, якая аджыла сваё. Піша Андрэй Дынько.**

Калі ў 1983 годзе яму была прысуджана Нобелеўская прэмія міру, Лех Валенса не наважыўся паехаць яе атрымаць. Ён баяўся, што ўлады не ўпусцяць яго назад у Польшчу. Замест яго прэмію атрымала ягоная жонка Данута.

Ён стаў першым рабочым, які атрымаў Нобеля. На той момант яго акурат выпусцілі з-пад нагляду і ён ізноў уладкаваўся на сваю суднаверф.

Тады ў іх з Данутай было ўжо сямёра дзяцей. Пасля народзіцца яшчэ і восьмы.

Нават з гэтых фактаў вы можаце зразумець, што Валенса стаў лідарам не выпадкова. Гэта чалавек харызматычны і нешараговы.

### Агент Болек

Найбольшая спрэчка вакол Валенсы ўспыхнула не ў гады падполля, а праз шмат часу пасля

таго, як ён ужо сышоў з палітыкі, у 2008 годзе. Тады ўскрыліся дакументы, што ад 1970 да 1976-га, за 4 гады да «Салідарнасці», Валенса быў стукачом польскай Службы бяспекі пад псеўданімам Болек і сачыў за калегамі па заводзе.

Валенса горача адмаўляў сваё сексоцтва, даказваў, што проста нешта падпісваў падчас допытаў. Аднак выглядае, што такі быў агентам па маладосці. Наколькі каго выдаваў — няясна, але разарваў таемныя адносіны за шмат гадоў да таго, як хваля рабочых пратэстаў вынесла яго ў лідары «Салідарнасці».

Цікавая дэталька: некаторыя дакументы пра супрацу Валенсы са спецслужбамі, якіх не было ў архівах польскага ГБ, знайшліся ва ўдавы міністра ўнутраных спраў Польшчы генерала Чэслава Кішчака (на гэтым этапе спецслужбы ПНР уваходзілі ў склад МУС) пасля яго смерці ў 2015-м. Менавіта генерал Кішчак засядаў з боку ўладаў у круглым стале, вынікам якога стала змена сістэмы.

Валенса нарадзіўся ў 1943-м. У момант, калі ён стаў на чале прафсаюза, яму было 37 гадоў і ў яго ўжо было шасцёра дзяцей. Ён ніколі не жыў у сталіцы, нарадзіўся ў вёсцы на Памор'і, а пасля перабраўся ў Гданьск. Ягоны тата вярнуўся з нямецкага канцлагера знясіленым і хворым




WIKIMEDIA COMMONS

**Фрагмент заявы аб згодзе агента Болека** на супрацу са Службай бяспекі.

і памёр праз два месяцы. А стойкасць у сыне выхавала мама.

## Пад камандаваннем Ярузэльскага

Працаваў Валенса спачатку аўтаслесарам, пасля — электрыкам. Цікава, што ў арміі ён служыў пад камандаваннем Войцеха Ярузэльскага, будучага генерала, які ўвядзе ваеннае становішча, каб задушыць «Салідарнасць». Тым не менш Ярузэльскі быў па натуры далёка не дыктатарам. З Валенсам ён першы раз сустрэўся ў сакавіку 1981-га. Тады яны прагаварылі тры гадзіны. Саветы мелі правесці ў Польшчы ваенныя манеўры, і для Ярузэльскага было важна, каб абышлося без інцыдэнтаў, якія маглі б справакаваць Маскву на інтэрвенцыю.

Ярузэльскі хоць і быў залежны ад СССР і шчырым сябрам Савецкага Саюза, усё ж думаў катэгорыямі нацыянальных інтарэсаў Польшчы.

Калі было ўведзена ваеннае становішча, Валенсу інтэрнавалі ў гарадку недалёка ад савецкай мяжы. То была не турма, а ўрадавая рэзідэнцыя, да яго ставіліся паважліва як да лідара, хоць і ворага. У інтэрнаванні ён правёў 11 месяцаў.

У Валенсы як лідара апазіцыі — і ў часы легальнай дзейнасці, і ў перыяд паўпадполля — была важная і характэрная рыса. Ён давяраў экспертам і дарадцам. І не быў прыхільнікам радыкальных крокаў. Пры «Салідарнасці» дзейнічалі камітэты экспертаў і інтэлігенцыі, Валенса таксама раіўся з кіраўніцтвам Касцёла, сам ён шчыры каталік.

За гады ваеннага становішча «Салідарнасць» амаль спыніла ▶

**Перамены ў Польшчы адбыліся мірным шляхам і сталі ўзорам мірнай трансфармацыі сістэмы, якая аджыла сваё.**
У выніку тых перамен Польшча стала рэальна дэмакратычнай дзяржавай і перажыла бурны эканамічны рост.
30 гадоў таму палякі жылі горш за беларусаў. Цяпер жа рэальныя даходы насельніцтва ў Польшчы ў 3 разы вышэйшыя, чым у беларусаў.
Палякі збудавалі моцную і стабільную дзяржаву. Так, золатавалютныя рэзервы Польшчы складаюць 113 мільярдаў долараў (у Беларусі — 7 млрд).
Акрамя таго, узровень сацыяльнай абароненасці палякаў істотна вырас. Не толькі пенсіі: напрыклад, на кожнае дзіця да 18 гадоў дзяржава выплачвае бацькам дапамогу ў памеры 140 долараў у месяц.
Гэта ўсё — заваёвы «Салідарнасці» і вынік змагання апазіцыі, якое не было ні простым, ні хуткім.



WIKIMEDIA COMMONS

**Генерал Ярузэльскі** хоць і быў залежны ад СССР і шчырым сябрам Савецкага Саюза, усё ж **думаў катэгорыямі нацыянальных інтарэсаў Польшчы.**





Людзі сабраліся каля Гданьскай суднаверфі імя Леніна падтрымаць бастуючых.

▶ сваю дзейнасць, улады нічога не дазвалялі. Тады ў некаторых гарадах актыўнічалі асяродкі арганізацыі «*Solidarność Walcząca*» («Змагарная Салідарнасць»), больш радыкальнай часткі былога прафсаюзнага руху, які ўжываў метады вулічнай барацьбы, але без аніякага гвалту (графіці, улёткі). «Змагарная Салідарнасць» адкідала ўсялякі кампраміс з уладамі.

Дарэчы, цяперашні прэм'ер-міністр Польшчы Матэвуш Маравецкі — сын кіраўніка «Змагарнай Салідарнасці» Карнэля Маравецкага, які памёр летась.

### Прафсаюзнік з прафсаюзнікам

Калі ў 1988-м савецкая сістэма пачала хістацца, погляды грамадства зноў звярнуліся да Леха Валенсы. Мінулае і Нобелеўская прэмія надавалі яму аўтарытэт. Менавіта з ім вырашылі гаварыць і ўлады, якія

# «Мур хутка рухне...»

Гімнам руху «Салідарнасць» стала песня «Муры» на мелодыю, створаную ў 1968 годзе каталонскім бардам Льюісам Льякам. У арыгінале гэтая песня звалася *«L'Estaca»* («Слуп») і была пабудаваная ў форме дыялогу аўтара са старым чалавекам па імені Сізіф (па-каталонску — Сізэт). Абодва яны даўно прыкаваныя да слупа, які прагніў, але ўсё яшчэ стаіць і не валіцца, хоць, здавалася б, варта толькі націснуць. Дзед Сізіф памёр, не дачакаўшыся волі, але аўтар перадае ягоны запавет, што трэба ціснуць на гнілы слуп далей... Паколькі ў каталонскай мове слова *«estaca»* сугучнае са словам *«estat»* («дзяржава»), то тут быў выразны намёк на шматгадовую дыктатуру Францыска Франка.

Песня стала вядомая па-за межамі Каталоніі, і на яе матыў у 1978 годзе польскі бард Яцак Качмарскі стварыў уласны шэдэўр — песню «Муры». Але гэта не літаральны пераклад каталонскага арыгінала — Качмарскі запазычыў толькі музыку, а ў тэксце ягоны твор мае цалкам самастойны сюжэт. Фактычна гэта філасофскі твор не толькі пра народнае змаганне, але і пра месца інтэлігента ў ім. Спачатку спявак сваёй песняй заклікае народ на барацьбу, той адгукаецца і выходзіць на вуліцы гарадоў шматтысячнымі калонамі, але інтэлігент усё адно застаецца ўрэшце самотным, а ягоны твор перастае яму належаць — паміж ім і народам вырастаюць новыя муры.

Песня Качмарскага з'явілася ў патрэбны час у патрэбным месцы, яе сталі масава спяваць прыхільнікі «Салідарнасці» з усіх сацыяльных груп. Праўда, песімістычны канец яны часта ці пракміналі, ці заглушалі апладысментамі, ці самастойна змянялі на больш аптымістычны.



**«Муры» па-польску ў выкананні Яцака Качмарскага**

**...і па-беларуску ў выкананні Змітра Вайцюшкевіча.**



разумелі, што старымі метадамі рэжыму доўга не пратрымацца.

На першыя публічныя дэбаты на тэлебачанне Валенсу дапусцілі ў пары з кіраўніком афіцыйных прафсаюзаў краіны. Быў такі Альфрэд Мядовіч. Старэйшае пакаленне беларусаў яшчэ памятае гэтыя імёны, бо за падзеямі ў Польшчы ў Саюзе ўважліва сачылі, а Брэст і Гродна ў савецкі час нават масава глядзелі польскае тэлебачанне, якое прымалася на самаробныя антэны. Тыя дэбаты Валенса адпрацаваў бездакорна.

## Можна мець справу!

У архівах ПАРП знойдзеныя дакументы, якія ўскрываюць, наколькі кіраўніцтва дыктатуры робіцца закладнікам уласнай прапаганды. Прапаганда — і спецслужбы таксама — доўгі час малявалі «Салідарнасць» чортам з рагамі, які хоча рэзаць камуністаў («і на джэвах, замяст лісця, бэндон вісець комунісці»). Урэшце наверсе сталі самі верыць у гэтую сваю ж прапаганду.

Толькі калі Ярузэльскі, які першы адчуў новыя павевы перабудовы з Масквы, павёў справу да круглага стала, толькі пасля першага выступу Валенсы на тэлебачанні кіраўніцтва польскіх сілавых структур і рэгіянальны актыў ПАРП пабачылі, што «з гэтай “Салідарнасцю”, аказваецца, можна мець справу!». Менавіта гэтыя фразы занатаваныя ў стэнаграме першага пасля дэбатаў Мядовіч — Валенса пасяджэння Палітбюро ЦК ПАРП.



**Цікавыя матэрыялы з архіваў ПАРП і польскіх спецслужбаў**, якія ўскрываюць механіку дзейнасці аўтарытарнага рэжыму, публікаваліся пачынаючы з 1990-х у выданні *«Zeszyty Historyczne»*, што выходзілі ў асяродку парыжскага часопіса *«Kultura»*, які выдаваў ураджэнец Мінска Ежы Гедройць, імем якога названая вуліца ў мінскім мікрараёне Брылевічы.

Валенса сваёй рэпутацыяй лідара асвяціў круглы стол уладаў і апазіцыі, у выніку якога адбылася мірная і «дамоўная», у адрозненне ад Румыніі ці ГДР, трансфармацыя ўлады ў Польшчы. У той жа час радыкальнае крыло «Салідарнасці» з часам пачало лічыць круглы стол змовай, у выніку якой былая партнаменклатура і выхадцы з дзяржбяспекі атрымалі кантроль над ласымі кавалкамі польскай эканомікі. Менавіта на неабходнасць разбіць гэты «ўклад» ціснула партыя «Права і справядлівасць» братоў Качыньскіх, якая ўжо паўтара дзясятка гадоў з пераменным поспехам змагаецца за ўладу ў асноўным з правацэнтрыстамі з «Грамадзянскай платформы», якія выраслі з памяркоўных колаў «Салідарнасці». Для Качыньскіх Валенса — палітычны праціўнік ад пачатку 1990-х.

Сам Валенса ў першых шматпартыйных парламенцкіх выбарах не ўдзельнічаў. Але на кожным плакаце кандыдата ▶

Сапраўды, аўтарская песня стала цалкам народнай, а аўтар, як і прадбачыў, страціў на яе манаполію.

Песня гэтая перакладалася і на многія іншыя мовы свету, прытым асновай для перакладчыкаў маглі рабіцца як арыгінал Льюіса Льяка, так і пераствarэнне Яцака Качмарскага. Характэрныя прыклады — пераклады на беларускую і рускую мовы. Калі створаная ў 2010 годзе беларускамоўная версія Андрэя Хадановіча — пераствараэнне польскага варыянта Качмарскага, то рускамоўная ў перакладзе Кірыла Мядзведзева (2012 год) апелюе больш да каталонскага арыгінала. Зрэшты, зусім нядаўна Хадановіч зрабіў і новае пераствараэнне — ужо на аснове арыгінала Льяка.



**Помнік каля Замкавай гары ў польскім горадзе Люблін**, пастаўлены ў памяць пра ахвяраў мірнай дэманстрацыі супраць ваеннага становішча, якая адбылася тут 31 жніўня 1982 года. Тады міліцыя ўжыла супраць дэманстрантаў зброю, тры чалавекі загінулі, а некалькі дзясяткаў былі параненыя.

WIKIMEDIA COMMONS

▸ ад Грамадзянскай платформы «Салідарнасць» было фота Валенсы побач з фота самога прэтэндэнта. На тых выбарах «Салідарнасць» здабыла ўсе месцы, якія можна было выйграць — паводле рашэнняў Круглага стала, старому рэжыму была зарэзерваваная частка мандатаў у Сейме.

Валенса не абмяжоўваўся роляй сімвала, ён на пераходным этапе адыгрываў цэнтральную ролю ў практычнай палітыцы. Менавіта ён пераканаў кіраўніцтва партый, якія раней былі «спарынг-партнёрамі» кіруючай ПАРП, утварыць кааліцыйны ўрад з «Салідарнасцю». Аб'яднаная сялянская партыя і Дэмакратычная партыя былі псеўдаўтварэннямі ўвесь час, пакуль камуністы кантралявалі грамадства. Але ў 1989-м менавіта іх галасы далі большасць ураду Тадэвуша Мазавецкага — першаму за 40 гадоў ураду без камуністаў у былым савецкім блоку. Якая гэта тады была сенсацыя! Аказалася, можна жыць без «незаменных».

## «Nie chcę, ale muszę»

У 1990-м Валенса вырашае балатавацца ў прэзідэнты. *«Nie chcę, ale muszę» — «Не хачу, але вымушаны», — так сфармуляваў ён, чаму ідзе на выбары.* Яго асноўным канкурэнтам здаваўся вылучаны ім жа раней прэм'ер Мазавецкі. Але ў выніку другое месца заняў не прэм'ер, а мутны папуліст зніадкуль Станіслаў Тыміньскі — такіх тыпаў часам выносіць хваля перамен. Праўда, у Польшчы Тыміньскі не меў шанцаў проці Валенсы ў другім туры выбараў.

Тыя першыя выбары, на вяршыні поспеху «Салідарнасці», паказалі і яшчэ адно. Ніколі не бывае, каб перамены падтрымліваліся ўсімі. Хоць савецкая сістэма рушылася, а ўлада ўжо сама ішла ў рукі былой апазіцыі, Валенса і Мазавецкі разам набралі ў першым туры выбараў толькі 58% галасоў, тады як кандыдаты-рэфармісты ад партый «старога рэжыму», Уладзімір Цімашэвіч ад Сацыял-дэмакратыі, пераемніцы ПАРП, і кандыдат ад Сялянскай партыі — аж 16%, а папуліст Тымінскі, які абяцаў «грошы з верталёта», — 23%. І тым не менш гэтыя выбары даказалі тое, што было відно няўзброеным вокам ад 1980 года: «Салідарнасць» падтрымлівалася большасцю. Пытанне было толькі часу, калі складзецца зручная замежнапалітычная, геапалітычная камбінацыя, каб улада ў краіне змянілася. У Польшчы тую змену давялося чакаць 8 гадоў.



WIKIMEDIA COMMONS

**Немудрагелісты плакат Леха Валенсы** на выбарах 1990 года.

## Чужы ў дэмакратычнай палітыцы

У 1995 годзе Валенса долі працэнта прайграе Аляксандру Кваснеўскаму, былому камсамольскаму лідару часоў ПАРП, ПНР і ваеннага становішча. Гэта будуць абсалютна сумленныя, свабодныя выбары, вынікі якіх ніхто не будзе аспрэчваць. А Кваснеўскі нічога не памяняе ў стратэгічных кірунках польскай палітыкі: курс на Еўрасаюз, НАТО, рынкавую эканоміку і свабодныя СМІ.

Валенса яшчэ застанецца ў палітыцы на некалькі гадоў, але гэта будзе ўжо дробязная дэмакратычная палітыка, дзе адзін міністр сказаў другому... партыя выйшла з урадавай кааліцыі... мэр пайшоў у адстаўку ў выніку скандалу вакол тэндара... Чалавек, які рухаў тэктанічнымі плітамі, быў у такой палітыцы чужы.

Валенса — той рэдкі чалавек, у гонар якога яшчэ пры жыцці назвалі аэрапорт. Калі вы будзеце ляцець на курорты польскага «Выбжэжа», на Хэльскую касу ці ў Сопат, то ваш самалёт прызямліцца ў *«Gdansk Lech Walesa Airport»*. ◆

### Аляксандр Кваснеўскі

(нар. 1954) — прэзідэнт Польшчы ў 1995–2005 гадах. У часы «Салідарнасці» быў функцыянерам афіцыйнага студэнцкага саюза. Падчас ваеннага становішча — рэдактар афіцыйнай маладзёжнай газеты, а пасля — міністр па справах моладзі камуністычнага ўрада. Менавіта гэты малады кадр надасць новае жыццё посткамуністам і ў 1995-м выйграе прэзідэнцкія выбары ў Леха Валенсы.

### Лех Качыньскі

(1949–2010) — прэзідэнт Польшчы ў 2005–2010 гадах. Да ўзнікнення «Салідарнасці» выкладаў права ў Гданьскім універсітэце. Калі ўтварыўся прафсаюз, Качыньскі стаў дарадцам стачкама. Яго інтэрнавалі як «антысацыялістычнага элемента».

Выйшлі з друку два абсалютна новыя для Беларусі часопісы. Адзін называецца «Дуду», а другі — «Асцярожна: дзеці!». Купіце сваім малы два: яны самі разбяруцца, каторы ім цікавейшы. Часопісы прадаюцца ва ўсіх шапіках, кнігарнях, а таксама гіпермаркетах.
«Асцярожна: дзеці!». Тут галоўныя героі — Цім, Мара, сабака Газ, кот Тормаз і Занадта Разумны Смартфон — разблытваюць розныя дэтэктыўныя гісторыі. І заадно разам з чытачамі спазнаюць свет. У часопісе — і карысная інфармацыя, і захапляльныя прыгоды, і заданні, якія трэба выканаць, і конкурсы, у якіх можна перамагчы, і QR-коды, па якіх можна будзе выйсці на старонкі ў інтэрнэце з цікавай інфармацыяй. У кожным выпуску Цім, Мара, Газ і Тормаз будуць шукаць скарбы, апынуцца ў надзвычайных сітуацыях і пры гэтым будуць карыстацца самымі сучаснымі тэхналогіямі. Купляйце і чытайце! А найлепш — выпісвайце! Гэта самы выгадны варыянт.

**Падпісны індэкс**
**«Асцярожна: дзеці!»— 75080**
(ведамасны 750802)




# Найлепшы падарунак дзецям **«Дуду» і «Асцярожна: дзеці!»**




Часопіс «Дуду» разлічаны на дзяцей да сямі гадоў, але чытаць яго могуць дзеці ад 1 да 101 года. Казкі, вершы і нават музыка ды песні (іх можна прайграць па QR-кодах), інтэрактыўныя гульні, коміксы, конкурсы, дзівосы, сюрпрызы — усё гэта будзе ў кожным нумары часопіса. А таксама заданні на развіццё логікі, увагі і памяці, дробнай маторыкі, для папаўнення слоўнікавага запасу і падрыхтоўкі да школы. Яшчэ мы будзем дапамагаць дзецям вучыцца чытаць, пісаць і лічыць. Нумары часопіса будуць тэматычнымі. Тэмы нумароў: каты і іх жыццё, метро і іншы транспарт, булачкі і цукеркі, зоркі і касмічныя караблі, сонца і хмары, любімыя святы, небяспечныя драпежнікі і пеўчыя птушкі і іншае… Героі часопіса — хлопчык Зор, дзяўчынка Лёля і падушка Дуду — стануць надзейнымі сябрамі чытачоў. Купляйце і чытайце! А найлепш — выпісвайце! Гэта самы выгадны варыянт.

**Падпісны індэкс «Дуду» — 75081** (ведамасны 750812)

# «Салідарнасць» і беларусы

Беларусы Польшчы ў 1970–1980-я гады лічыліся найбуйнейшай нацыянальнай меншасцю гэтай краіны. У Беластоцкім ваяводстве беларусы складалі каля траціны насельніцтва, а ў некаторых паветах і гмінах — большасць.

Калі ўтварылася «Салідарнасць», мясцовыя беларусы аказаліся ў дастаткова складаным становішчы. Гэтая супольнасць у большасці сваёй была лаяльная да камуністычнага рэжыму, бо ў ПНР упершыню ў гісторыі атрымала магчымасць для «авансу сполэчнэго», сацыяльнага прасоўвання. Для камуністаў не мела прынцыповага значэння веравызнанне (а беларускасць у пасляваеннай Польшчы амаль неразрыўна звязаная з праваслаўем), галоўным была вернасць уладзе і гатоўнасць да саветызацыі.

Падляшскія беларусы ў параўнанні з палякамі былі да гэтага гатовыя больш, таму ў першыя пасляваенныя дзесяцігоддзі з'яўляліся апорай новай улады на ўсходзе Польшчы. Нямала беларусаў служыла ў войску і спецслужбах, мясцовых органах улады. Такая пазіцыя была ў тым ліку і вымушанай, бо адразу пасля вайны ў Польшчы існавала моцнае антыкамуністычнае падполле з нацыяналістычнай ідэалогіяй. Яно не спынялася ў сваёй дзейнасці і перад адкрытым тэрорам, ахвярамі якога нярэдка рабіліся жыхары праваслаўных вёсак Падляшша. Абароны ад дзеянняў падполля беларусы мусілі шукаць у камуністычных уладаў, таму і самі аказвалі ім падтрымку.

У камуністычнай Польшчы беларусы мелі і пэўныя ўмовы для забеспячэння сваіх нацыянальных патрэбаў. Пасля таго, як следам за хрушчоўскай адлігай у СССР у краінах «народнай дэмакратыі» адбыліся свае адлігі, у 1956 годзе было створана Беларускае грамадска-культурнае таварыства, пачала рэгулярна выдавацца беларускамоўная газета «Ніва», дазваляліся і некаторыя іншыя формы нацыянальнай актыўнасці, калі яны не ўваходзілі ў супярэчнасць з паноўнай ідэалогіяй.




**Вядомы гісторык Алег Латышонак** быў арыштаваны ў 1982 годзе за сувязі з «Салідарнасцю» і правёў 8 месяцаў у турме.

Праўда, да 1970-х гадоў магчымасці для нацыянальнага развіцця ўсё больш змяншаліся, бо ўлады ўзялі курс на ўзмацненне асіміляцыйных працэсаў, але большасць беларускага насельніцтва ў Польшчы гэта не надта хвалявала. Як і ў тагачаснай БССР, мясцовыя беларусы не лічылі адмову ад нацыянальных каштоўнасцяў надта вялікай цаной за магчымасць падняцца вышэй па кар'ернай лесвіцы. Куды больш, чым развіццё нацыянальнай культуры, спрыяла захаванню іх адметнасці прыналежнасць да праваслаўя, адмова ад якога з пераходам у каталіцтва была куды больш балючым і траўматычным крокам, чым адмова ад роднай мовы ці культуры.

Ва ўзнікненні і развіцці руху «Салідарнасці» многія падляшскія беларусы пабачылі




**Менавіта ў часы «Салідарнасці» аднавілася традыцыя пілігрымак на праваслаўную святыню Падляшша — гару Грабарку**. Гэтаму паспрыяла сама атмасфера грамадскага абуджэння, хоць у цэлым праваслаўныя асяродкі Польшчы ставіліся да дзейнасці «Салідарнасці» калі не варожа, то прынамсі насцярожана.

для сябе небяспеку, паколькі гэта суправаджалася ўзмацненнем польскага нацыяналізму і павышэннем ролі Каталіцкай царквы. Адпаведна, і стаўленне да гэтага руху было ў большасці калі не варожым, то прынамсі насцярожаным. Тым больш што выразна адмоўную пазіцыю ў дачыненні да «Салідарнасці» заняло і кіраўніцтва Польскай аўтакефальнай Праваслаўнай царквы (якое, як пазней, калі адкрыюцца архівы, выявіцца, цалкам складалася з агентаў дзяржбяспекі).

Сітуацыю абцяжарвала і тое, што мясцовыя дзеячы з беластоцкай арганізацыі «Салідарнасці» ў прынцыпе падзялялі ўсе распаўсюджаныя ў рэгіёне нацыянальныя стэрэатыпы, а таму не рабілі ніякіх істотных крокаў на тое, каб прыцягнуць на свой бок беларускае насельніцтва. Была ініцыятыва па выданні беларускай версіі мясцовага бюлетэня арганізацыі, але яна ўрэшце нічым не скончылася. У выніку, як са скрухай пісаў у 1989 годзе адзін з мясцовых беларускіх лідараў новай генерацыі, вядомы гісторык Алег Латышонак, «просты чалавек жывіўся плёткамі пра вілы ды косы, якія збіраліся ў каталіцкіх парафіях з думкай аб разні праваслаўных, і пра ямы, якія капаліся пад Беластокам і над якімі меркавалася расстрэльваць беларусаў пасля перамогі “Салідарнасьці” над народнай уладай. Са свайго боку, палякі былі ўпэўненыя, што беларусы з надзеяй чакаюць савецкай інтэрвенцыі».

Тым не менш частка мясцовай беларускай інтэлігенцыі, асабліва малодшага пакалення, з надзеяй і спачуваннем паставілася да развіцця дэмакратычных працэсаў у Польшчы і ўключылася ў агульны працэс. Рашуча падтрымаў імкненне да зменаў найбольш вядомы з беларускіх пісьменнікаў у Польшчы Сакрат Яновіч, які на той хвалі паспрабаваў — праўда, беспаспяхова — зарэгістраваць незалежнае ад уладаў Таварыства аховы помнікаў і развіцця беларускай матэрыяльнай культуры. Была зроблена спроба стварэння і ідэйна блізкага да «Салідарнасці» Беларускага аб’яднання студэнтаў, дзейнасць якога была спынена пасля ўвядзення ваеннага становішча і адноўлена ў 1988-м. ▶

Вышэйзгаданы Алег Латышонак быў нават арыштаваны ў 1982 годзе за сувязі з «Салідарнасцю» і правёў 8 месяцаў у турме. Урэшце, вянцом беларускага дэмакратычнага руху 1980-х гадоў стала заснаванне ў 1989 годзе спачатку Беларускага клуба, а ў 1990-м на яго аснове паўнавартаснай нацыянальнай палітычнай партыі — «Беларускага дэмакратычнага аб'яднання» (існавала да 2004-га).

Развіваўся і беларускі непадцэнзурны друк. Узнікла цэлае нелегальнае «Незалежнае беларускае выдавецтва», якое выдала некалькі саматужных зборнікаў архіўных дакументаў і палітычных брашур. У канцы 1980-х польскімі беларусамі выдаваўся і часопіс «Кантакт», які служыў узаемнаму абмену палітычнай думкай беларускіх асяродкаў у Польшчы, СССР і на эміграцыі.

Варта адзначыць, што ў цэнтральным кіраўніцтве «Салідарнасці», у адрозненне ад рэгіянальнага беластоцкага аддзела, разуменне важнасці нацыянальнага пытання ў цэлым і беларускага ў прыватнасці было ад пачатку. У многіх польскіх выданнях, якія ці выдаваліся непасрэдна гэтай арганізацыяй, ці сімпатызавалі ёй, час ад часу з'яўляліся матэрыялы на гэтую тэму. А на I з'ездзе «Салідарнасці», які адбыўся восенню 1981 года, была прынята «Пастанова аб справе нацыянальных меншасцяў», дзе наўпрост адзначалася: «Наш прафсаюз выступае супраць усялякіх нацыянальных падзелаў і будзе змагацца за гарантаванне ўсіх грамадзянскіх правоў усім палякам, незалежна ад іх нацыянальнай прыналежнасці ці паходжання».

У 1983 годзе ў падпольным выдавецтве «Салідарнасці» выйшла невялікая па аб'ёме, але грунтоўная па змесце кніжка пад назвай «Беларусы, літоўцы, украінцы: нашыя ворагі ці сябры?». Яе аўтарам быў публіцыст, пісьменнік і грамадскі дзеяч Багдан Скарадзінскі (псеўданім Казімеж Падляскі). Хоць зусім блізкага краху камуністычнага рэжыму ў Польшчы і СССР тады яшчэ ніхто не спадзяваўся, Скарадзінскі загадзя паставіў пытанне: якой у выпадку змены сітуацыі мусіць быць польская ўсходняя палітыка, то-бок узаемаадносіны з гістарычна і культурна звязанымі з палякамі народамі — беларусамі, літоўцамі і ўкраінцамі?

Крытычна разгледзеўшы ранейшы гістарычны досвед гэтых узаемаадносін (не адмаўляючы ў іх негатыўным складванні віны ў тым ліку і польскага боку), аўтар заўважыў, што яны трапілі ў пэўнае заганнае кола. Спачатку палякі, узмоцніўшыся, наносяць удар па інтарэсах іншых народаў, пры змене расстаноўкі сілаў тыя народы палякам помсцяць, а пасля палякі, зноў узмоцніўшыся, помсцяць у сваю чаргу. Такое становішча магло б працягвацца да бясконцасці, і Багдан Скарадзінскі, усведамляючы, што гэты шлях вядзе ў нікуды, бачыў выхад з заганнага кола ў тым, што пры новай змене сітуацыі, калі ўсе чатыры народы цалкам ці часткова вызваляцца ад дыктату Масквы, наймацнейшы з іх (то-бок Польшча) мусіць, насуперак ранейшай логіцы, не помсціць іншым за старыя крыўды, а прапанаваць ім руку сяброўства і дапамогі.



**«Болек і Лёлек»** — культавы польскі мультсерыял тых часоў. Па к'юар-кодзе — цыкл «Лёлек і Болек у шахце», які выйшаў у 1980 годзе.



Натуральна, што пры гэтым палякі мусілі адназначна і недвухсэнсоўна прызнаць непарушнасць усходніх межаў сваёй дзяржавы, а канкрэтная палітыка адносна кожнага з народаў павінна была залежаць ад іх уласнага стану і патрэбаў. З літоўцамі палякі мусілі праяўляць салідарнасць у іх памкненні да волі, украінцам мелі прабачыць іхнія грахі, адначасова просячы прабачэння за свае ўласныя, беларусам жа павінны былі аказаць дапамогу ў правядзенні арганічнай працы, скіраванай на канчатковае дафармаванне нацыі.

Варта адзначыць, што ў цэлым такі падыход, на які відавочна аказалі вялікі ўплыў погляды аднаго з лідараў тагачаснай польскай эміграцыі, выхадца з нашага Мінска Ежы Гедройца, што пасля вайны больш за паўстагоддзя выдаваў у Парыжы часопіс «Культура», не застаўся ў сферы чыстай тэорыі — і «Салідарнасць», і польскія ўлады цягам дзясяцігоддзяў пасля краху камуністычнага рэжыму фактычна яе трымаліся, што дазволіла калі не цалкам пазбегнуць, то прынамсі мінімізаваць канфлікты на нацыянальнай глебе ў нашым рэгіёне. ◆

# Пакутнік Папялушка




Польскі народ у ягонай барацьбе супраць камуністычнага рэжыму актыўна падтрымлівала Каталіцкая царква. Большасць каталіцкіх святароў аказвала «Салідарнасці» дапамогу рознага кшталту, але найбольшую вядомасць з іх здабыў ксёндз Ежы Папялушка (1947–1984). Больш за тое, ён стаў і адным з сімвалаў змагання, бо заплаціў за сваю актыўную грамадзянскую пазіцыю жыццём.

У 1970-я гады малады ксёндз Папялушка быў пробашчам у некалькіх варшаўскіх парафіях, набыў значны аўтарытэт сярод вернікаў. А пасля пачатку ў 1980 годзе забастовачнага руху актыўна далучыўся да «Салідарнасці», стаўшы фактычна духоўнікам яе варшаўскага аддзялення. Служыў на прадпрыемствах, якія баставалі, арганізоўваў дапамогу пацярпелым ад рэжыму, адпяваў ягоных ахвяраў, ладзіў насуперак забаронам уладаў масавыя пілігрымкі ў святыя для палякаў месцы. Таксама адыгрываў адну з ключавых роляў пры рэгулярных набажэнствах за Айчыну, якія ладзіліся ў 1982–1984 гадах з розных нагодаў.

З другой паловы 1982 года ўлады пачалі аказваць моцны ціск на Папялушку, вінавацячы яго ў тым, што падчас правядзення рэлігійных мерапрыемстваў ксёндз праводзіць і палітычную антыдзяржаўную прапаганду. Не спыняліся яны і перад бруднымі правакацыямі, напрыклад, падкіданнем на кватэру ксяндза боепрыпасаў і выбуховых рэчываў. Папялушка выклікаўся на допыты, супраць яго вялася кампанія шальмавання ў дзяржаўнай прэсе. Але гэта толькі дадавала святару вядомасці і аўтарытэту.

У кастрычніку 1984 года, калі атмасфера накалілася так, што стала адчувацца пагроза жыццю Папялушкі, духоўныя ўлады прапанавалі яму выехаць на вучобу ў Рым, але ксёндз адмовіўся: ён не прымаў кампрамісаў. А ўжо праз некалькі дзён, 19 кастрычніка, калі ксёндз ехаў машынай з Быдгашча на паўночным захадзе Польшчы ў Варшаву, непадалёк ад Торуня яго перанялі супрацоўнікі Службы бяспекі, пераапранутыя ў форму дарожнай міліцыі. Папялушку доўга білі, а пасля звязанага, магчыма яшчэ жывога, выкінулі ў Віслу.

Дагэтуль невядома, на якім узроўні ўлады быў аддадзены загад аб забойстве апазіцыйнага ксяндза. Але пахаванне Папялушкі, якое прайшло ў Варшаве 3 лістапада 1984 года, ператварылася ў масавую народную дэманстрацыю, на яе сабралася каля 600 тысяч чалавек. А сама асоба ксяндза стала сапраўдным сімвалам змагання «Салідарнасці».

Для беларусаў асоба Ежы Папялушкі асабліва цікавая яшчэ і тым, што ён паходзіць з Сакольшчыны, зоны беларуска-польскага моўна-культурнага памежжа. У ягоных родных мясцінах — ён нарадзіўся ў вёсцы Акопы Сухавольскай гміны, недалёка ад сучаснай польска-беларускай мяжы — прынамсі старэйшае пакаленне дагэтуль у штодзённым жыцці гаворыць па-беларуску, хоць лічаць сябе палякамі — такую сілу мела раней наша мова.

Беларуская мова была роднай і для Папялушкі, на ёй да канца жыцця гаварылі ягоныя бацькі Уладзіслаў (1910–2002) і Марыяна (1920–2013).

Цікава таксама, што яшчэ ў першай палове XX стагоддзя з родных мясцін Ежы Папялушкі выйшлі некалькі дастаткова вядомых дзеячаў беларускага нацыянальнага руху, паводле веравызнання каталікоў. Мясцовы гмінны цэнтр Сухаволя — радзіма паэта і педагога, дырэктара Віленскай беларускай гімназіі Францішка Грышкевіча (1904–1946) і грамадскага дзеяча, рэдактара часопіса «Студэнцкая думка» Адольфа Зенюка (1895–1938). З вёскі Хадароўка Сухавольскай гміны журналістка беластоцкага радыё «Рацыя» Уршуля Шубзда — ці не адзіная з сучасных актыўных беларускіх дзеячаў у Польшчы малодшага пакалення, якая, паходзячы не з праваслаўных, а з каталіцкіх асяродкаў, усвядомілася як беларуска. ◆

# Полька

Мне даўным-даўно хацелася расказаць пра сваю жонку, з якой я на ніве жыцця крочу ўжо 64-ы год. І вось нарэшце наважыўся.

Ізабэла Марыя Маркун — яе імя і прозвішча ў дзявоцтве (у каталікоў прынята даваць двайныя імёны). Нарадзілася яна ў Беластоку. Бацькі яе былі з інтэлігенцыі: маці Францішка — настаўніца пачатковай школы, а бацька Пётр — доктар.

У свой час маці Ізабэлы накіравалі працаваць у Бязводзенскую пачатковую школку, у якой я навучаўся ў 2–4 класах (Бязводнае, цяпер Зэльвенскага раёна, у той час уваходзіла ў склад Ваўкавыскага павета Польшчы). Настаўніца да мяне добра ставілася, і я часцяком бываў у яе доме. Тады ж і пазнаёміўся з іх дачкой, дашкольніцай Ізабэлай. Дзяўчынка хутка да мяне прывязалася, заўсёды радасна вітала на парозе іх хаты.

Пры ўздзеянні Францішкі Маркун на маіх бацькоў я трапіў у Міжэрыцкую сямігодку за 5 км ад Бязводнага. Не шкадавала яна ў той год свайго адпачынку, каб падрыхтаваць мяне ў школу вышэйшай ступені — за дзякуй! Настаўніца не толькі цікава выкладала, але і знаходзіла час на выхаванне дзятвы. У вёсцы яна карысталася вельмі высокім аўтарытэтам.



З АРХІВА ВАСІЛЯ СЕМЕНЯКОВА

**Доктар Пётр Маркун.**



З АРХІВА ВАСІЛЯ СЕМЕНЯКОВА

**Ізабэла Маркун.** 1953 год.

Пётр Маркун медыцынскую адукацыю атрымаў у Рыме. У Бязводным і яго ваколіцах ён быў доктарам ад усіх хвароб. Прымаў хворых і днём, і вечарам, у будзённыя і святочныя дні, дома і падчас выездаў. За візіты пацыенты з доктарам разлічваліся хто чым мог: адны давалі яйкі, іншыя — кусок сала, нехта прыносіў масла і нават курыцу, а на вялікае свята — і гусь. Злотыя вадзіліся далёка не ва ўсіх. Але дапамагаў доктар і тым, хто не меў магчымасці з ім разлічыцца.

З Бязводнага Францішку Маркун перавялі ў вёску Манцякі колішняга Ружанскага (цяпер таксама Зэльвенскага) раёна, адкуль яе сям'я падчас нямецкай акупацыі перабралася ў Падароск Ваўкавыскага раёна. Доктар па-ранейшаму лячыў людзей і нават дапамагаў партызанам. Былі выпадкі, калі дома пры шчыльна занавешаных і днём, і ноччу вокнах ён з дапамогай жонкі выходжваў адначасова двух-трох параненых. Малая іх дачка — сведка ўсіх тых падзей — заўчасна станавілася дарослай.

Кантакты мае з Маркунамі не спыняліся. Апошняя сустрэча адбылася ў чэрвені 1944 года. Пасля гэтага я пайшоў у армію, а Маркуны, якіх добрыя людзі папярэдзілі: «Калі вы тэрмінова не выедзеце ў Польшчу, вас вывезуць у Сібір» — выехалі. Пасля заканчэння сярэдняй адукацыі Ізабэла паступіла ў Вроцлаўскі ўніверсітэт на біялагічны факультэт. Марыла пра медыцынскі, але «народная ўлада» дзяцей інтэлігенцыі тады да медыцыны не дапускала.

Скончыўшы два курсы, Ізабэла па абмене студэнтаў трапіла ў Ягелонскі ўніверсітэт у Кракаве на факультэт біялогіі і земляробчых навук. Адтуль і даслала ліст мне, на той час студэнту аддзялення журналістыкі БДУ.

Пачалася цёплая, добрая, сардэчная, частая перапіска. У 1956 годзе пяцікурсніца Ягелонскага ўніверсітэта прыехала да выпускніка Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, які па размеркаванні працаваў у высокаўскай газеце «Ленінец» у Брэсцкай вобласці.

Сустрэча пацвердзіла, што мы па-ранейшаму прывязаныя адно да аднаго, нават больш за тое. Не адкладаючы справу на доўгі час, мы пабраліся. Дзякуй маім родным, якія на хутары ў Бязводным справілі нам прыгожае вясковае вяселле!

Пасля гэтага Ізабэла вярнулася ў Кракаў канчаць вучобу, а ў наступным годзе з дыпломам магістра і ў вазку з трохмесячным бутузам прыбыла назаўсёды ў Беларусь. Забягаючы наперад, скажу, што мы вырасцілі дваіх сыноў і пусцілі іх у свет: старэйшага Леаніда з вышэйшай радыётэхнічнай адукацыяй, малодшы Андрэй стаў доктарам.

Ізабэла прывезла з сабой у Беларусь і назаўсёды захавала вялікую любоў да сваёй першай Радзімы, да яе культуры і роднай мовы. І хвала ёй за тое, што за шэсцьдзясят з гакам гадоў свайго жыцця ў Беларусі яна нічога з таго не страціла. Следам за дачкой прыехала з Польшчы і яе маці з новым мужам. Бацькі развяліся.

Пётр Маркун застаўся ў Польшчы адзін з добра дагледжаным катом, які часцяком з пагулянкі вяртаўся параненым. Доктар ратаваў яго, а кот любіў свайго ратавальніка. Калі той сядаў у мяккае крэсла, кот залазіў яму на карак, абдымаў яго шыю і добразычліва мурлыкаў на вуха.

Несалодкае жыццё толькі пачалося ў Беларусі. Пэўная катэгорыя мясцовага чыноўніцтва спрабавала не прызнаваць

дыплом Ягелонскага ўніверсітэта, не ведала, што такое магістр і з чым яго ядуць. Таму аб працаўладкаванні як па спецыяльнасці, так і не па спецыяльнасці не магло быць і размовы. А працаваць абавязкова трэба было, бо для ўтрымання сям'і з шасці чалавек аднаго майго аклада не хапала. Дзікунства з прызнаннем дыплома працягвалася, пакуль не ўмяшалася саюзнае Міністэрства асветы. Але вырашылася праблема не найлепшым чынам: з вялікім скрыпам у Высокім для магістра знайшлася праца санітаркі з мізэрным заробкам.

Лёс ўсміхнуўся, калі мы перабраліся ў Мінск, і Іза ў красавіку 1958 года ўладкавалася мікрабіёлагам на заводзе медпрэпаратаў. І ў піку галоўнаму інжынеру завода, які пры прыёме на работу выдаў маналог: «Палякі не любяць працаваць, але мы вас прымусім!» — яна працавала сумленна. Сімпатыі калег да polькі яшчэ больш узраслі, калі яна павяла адкрытую барацьбу з непрыстойнымі паводзінамі нявыхаванага галоўнага тэхнолага.

У сакавіку 1961 года не стала Пятра Маркуна. На яго пахаванне савецкая ўлада дазволіла паехаць толькі аднаму чалавеку. Дома вырашылі, каб ехаў я, бо Ізабэла яшчэ карміла грудзямі малодшага сына. Дазвол на паездку афармляўся марудна, і на пахаванне я спазніўся. Развітаўся не з цесцем, а толькі з яго катом, што, жаласліва мяўкаючы, бадзяўся каля роднага дома.

Жыццё так павярнулася, што Ізабэла ўладкавалася на санстанцыю доктарам-бактэрыёлагам. Пасля Чарнобыльскай катастрофы Ізабэла двойчы ў 1986 і 1987 гадах выязджала ў Хойнікі ў якасці ліквідатара.

Нягледзячы на ўздымы і спады, пашана да новай Радзімы, Беларусі, у Ізабэлы ўвесь час узрастала. Разам з беларусамі-патрыётамі мая жонка-полька хвалюецца за незалежнасць краіны, за росквіт яе культуры і мовы. А калі да яе прыязджаюць госці з Польшчы, яна вязе іх глядзець на нашы замкі і цікавінкі.

Грэх было б не любіць такую польку!

**Васіль Семенякоў, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, заслужаны работнік культуры, Мінск**


З архіва Васіля Семенякова

**Васіль Семенякоў са сваёй Ізабэлай.** 1956 год.

## Дзякуй Ганне Кісліцынай

Выказваю Вам шчырую падзяку за цікавы, змястоўны часопіс!

Мая сардэчная ўдзячнасць таленавітай Ганне Кісліцынай за яе матэрыял у №7 за 2020 пра маю бабулю і маці.

У дапаўненне да тэксту: мая мама вымушана была спыніць сваю кар'еру. Зрабіла гэта па просьбе мужа дзеля догляду хворай свякрові — гераіні матэрыялу Ганны Адамовіч. У Інстытуце культуры яна нават перайшла на паўстаўкі.

**Ваша прыхільніца Наталля Адамовіч**

## Пра Маргелава

Добры дзень, шаноўная Рэдакцыя!

Дазвольце мне не пагадзіцца з некаторымі вашымі высновамі наконт паходжання Васіля Маргелава. Маргелаў ніколі не лічыў сябе беларусам. Бацька яго, ветэран 1-й сусветнай, магчыма, беларус, а вось маці паходзіла са старавераў Магілёўскай (ці Смаленскай) губерні, а значыць, была руская.

Да стагоддзя з дня нараджэння расіяне ў 2008 годзе выпусцілі мастацкі серыял «Дэсантны Баця», прысвечаны Маргелаву. Кансультантам фільма з'яўляўся сын Васіля Піліпавіча Аляксандр. Дык вось, у ім даводзіцца, што генерал паходзіў з былой Наўгародскай губерні (цяперашняя Ленінградская вобласць). Тым самым аўтары даказваюць, што славуты дэсантнік не мае аніякага дачынення ні да Беларусі, ні да Украіны. Бо ўкраінцы яго лічаць сваім героем на падставе таго, што ён нарадзіўся ў 1908 годзе ў Екацярынаславе.

**Альгерд Корсак, Віцебск**

**Ад Рэдакцыі.** Шаноўны спадар Альгерд! У тым артыкуле Віталя Чырвінскага, на які Вы адрэагавалі (№ 3/2018), пытанне паходжання і нацыянальнай самаідэнтыфікацыі Васіля Маргелава ўвогуле не закраналася. Артыкул быў прысвечаны больш агульнай праблеме: спробам беларусізацыі дыслакаваных у Беларусі часцей Чырвонай арміі ў 1920–1930-я гады. Тая беларусізацыя тым ці іншым чынам закранала ўсіх вайскоўцаў, якія тады служылі на нашай зямлі, незалежна ад іх паходжання і свядомасці. Закранала і Маргелава, бо ён у той час жыў у Беларусі і вучыўся ў Аб'яднанай беларускай вайсковай школе. А як пра Базыля пра яго пісалі ў беларускамоўнай «Чырвонаармейскай праўдзе», матэрыялы якой аўтар узяў за аснову пры напісанні артыкула. Паходжанне ж яго калі нават і не цалкам беларускае, то гэта не мае асаблівага значэння. Для нас гісторыя Беларусі — гэта гісторыя не толькі этнічных беларусаў, але і ўсіх іншых народаў, якія жылі раней і жывуць цяпер на нашай зямлі.

**Ад рэдакцыі**

Дарагія чытачы, дасылайце нам тэмы ды ідэі артыкулаў, успаміны, сямейныя гісторыі (і нават рэцэпты!) на **history@nn.by**. А таксама падпісвайцеся, каб штомесяц гарантавана атрымліваць «Нашу гісторыю» ў паштовую скрыню. Падпісны індэкс **00469**.



**Замак у Любчы** (Навагрудскі раён) — ля самай мяжы гістарычнай Літвы і Русі.

ФОТА АНДРЭЯ ДЫНЬКО

# Ліцвіны *супраць* русінаў

## Як у бітве дзвюх ідэнтычнасцей у Вялікім Княстве перамагла трэцяя

**Як так сталася, што ў супрацьстаянні ліцвінскага і русінскага асіміляцыйных праектаў выйграў увогуле польскі? Адказы шукае кандыдат гістарычных навук Вячаслаў Насевіч.**

### «Подлая» і «няподлая» кандыцыя

Вялікае Княства Літоўскае аб'ядноўвала дзве істотныя па колькасці этнічныя групы жыхароў — ліцвінаў і русінаў. І адносіны між імі далёка не заўжды былі лагоднымі.

Ва ўмовах частых ваенных канфліктаў з Маскоўскай дзяржавай праваслаўнае веравызнанне альбо рускае паходжанне пэўнага арыстакрата ўспрымаліся як фактары патэнцыйнай рызыкі. І на тое былі падставы: з 1480-х гадоў буйныя праваслаўныя арыстакраты неаднаразова пераходзілі на бок Масквы. У гэтым сэнсе этнічныя ліцвіны, што вызнавалі каталіцтва, выглядалі больш надзейнымі. А таму на працягу 150 гадоў захоўвалася дыскрымінацыйная ўмова Гарадзельскага прывілея 1413 года, паводле якой найвышэйшыя дзяржаўныя пасады (віленскага і троцкага ваяводаў і кашталянаў) маглі займаць толькі каталікі.

Пра тое, наколькі напружанымі бывалі адносіны ў асяроддзі тагачаснай эліты, сведчыць красамоўны факт. Калі вялікі князь аднойчы, за выключныя заслугі, усё ж прызначыў у 1511 годзе на пасаду віленскага кашталяна праваслаўнага князя Канстанціна Астрожскага, гэта выклікала глухое абурэнне ў літоўска-каталіцкім стане. Віленскі ваявода Альбрэхт Гаштаўт гэтак выказваўся пра Астрожскага ў лісце да каралевы Боны: «чалавек новы, подлай кандыцыі, русін, сын мізэрнага княскага роду». У гэтым кантэксце слова «русін» гучыць як абраза або як мінімум прычына не давяраць — і гэта пры тым, што Астрожскі, вядомы палкаводзец і герой славутай бітвы пад Оршай, усім сваім жыццём прадэманстраваў, наколькі лаяльным да дзяржаўных інтарэсаў можа быць праваслаўны русін.

**Праваслаўнае веравызнанне альбо рускае паходжанне арыстакрата ўспрымалася як фактар палітычнай рызыкі**

Зняць напружанне магла б інтэграцыя ўсёй эліты, якой у тых умовах можна было дасягнуць толькі шляхам асіміляцыі. Але хто каго мусіў асіміляваць: ліцвіны русінаў ці наадварот? Якраз пра гэта ў першай палове XVI стагоддзя актыўна спрачаліся.

### Пошук поля бітвы

Спрэчка пачалася не з мовы. Дэ-факта на той момант роля «мовы міжнацыянальных зносін» належала тагачаснай рускай (цяпер яна звычайна завецца старабеларускай), якой выдатна валодалі абодва бакі і на якой яны вялі палеміку.

Даследчыкі даўно звярталі ўвагу, што ў прадмовах Францыска Скарыны да наноў перакладзенай ім Бібліі яшчэ не прасочваецца якой-небудзь заклапочанасці станам рускай мовы. Пры выданні ў 1529 годзе першай рэдакцыі Статута ВКЛ ніякіх пытанняў пра яго мову таксама не паўстала. Яшчэ больш паказальна, што на той самай мове запісаная і папулярная ў асяроддзі ліцвінаў легенда пра іх нібыта рымскае паходжанне. То-бок моўнае пытанне ў Вялікім Княстве да пэўнай пары не стаяла, прынамсі востра.

Больш выразна жыхароў княства адрознівала вера, але тут інтэграцыйныя магчымасці былі абмежаванымі. Не маючы глыбокіх каранёў, каталіцтва пры ўсёй дзяржаўнай падтрымцы да пачатку XVI стагоддзя не здолела перацягнуць на свой бок нават частку «прынцаў крыві» з ліку Гедымінавічаў, не кажучы ўжо пра правінцыйныя эліты. Таму канфесійная еднасць была пажаданай, але пакуль ▶

### «Рымская» шляхта

Літоўская шляхта ў XV–XVI стагоддзях прыдумала прыгожую легенду, якая дазваляла адлічваць паходжанне ад славутых рымскіх патрыцыяў.

Паводле яе, у часы аднаго з рымскіх крываўжэрных імператараў (найчасцей тут гучыць імя Нерона, але ёсць і варыянты) яго сваяк Палямон сабраў 500 рымскіх шляхецкіх сем'яў ды морам выправіўся шукаць паратунку. Плылі яны, плылі, аж пакуль не дасягнулі вусця Нёмана і яго прытокаў, высадзіўшыся ў землях, якія назвалі пабярэжнымі, або па-літоўску жамойцкімі. Адсюль і назва краю, які яны заснавалі, — Жамойць. З цягам часу нашчадкі Палямона і яго народа рассяліліся далей і заснавалі Літву.

Легенда ў разгорнутым выглядзе ўпершыню з'явілася ў летапісах XVI стагоддзя. Да гэтага польскі храніст Ян Длугаш згадваў, што літоўскія князі паходзяць ад рымскіх, але ў падрабязнасці не ўваходзіў. Можа, у яго легенда выклікала такую ж усмешку, як і ў сучасных гісторыкаў?




**Легендарны рымлянін Палямон з літоўскай «Пагоняй».** Малюнак са шляхецкага радаводу, 1675 год.

▶ недасяжнай мэтай, і глебай для інтэграцыі магла стаць толькі рэлігійная талерантнасць. Усведамляючы гэта, абодва бакі на рэлігійны фактар тады асабліва не націскалі.

У выніку вырашальным полем бітвы стала гістарычная свядомасць. Што лепш: адчуваць сябе прадстаўніком Русі, носьбітам яе старажытнай культуры, ці нашчадкам рымскіх патрыцыяў, што некалі прыплылі з Палямонам?

Супрацьстаянне гістарычных міфаў добра прасочваецца ў тым, як складаліся тагачасныя летапісныя зводы. Спярша ўсе яны, напэўна, нагадвалі Нікіфараўскі спіс, які датуецца прыблізна 1460-мі гадамі і пачынаецца з вядомай легенды пра пакліканне Рурыка, а затым змяшчае звесткі пра агульнарускія справы. Пры гэтым нават аповед пра Кулікоўскую бітву 1380 года падаецца з выразна маскоўскай пазіцыі, а тое, што *«безбожный князь Мамай»* быў на той момант саюзнікам уладара ВКЛ Ягайлы, у летапісе абыходзіцца маўчаннем. Падобны ж падыход выкарыстаны і пры стварэнні Валынскага кароткага летапісу (1510-я), Акадэмічнага і Супрасльскага (1530-я).

У той жа час ужо несумненна існаваў тэкст, які распавядаў пра рымляніна Палямона і захоп часткі Русі (сучаснай Беларусі) літоўскімі князямі. З яго пачынаюцца летапісы Яўрэінаўскі, Рачынскага, Красінскага, Румянцаўскі, Быхаўца, а месца агульнарускім звесткам на іх старонках ужо не знаходзіцца. Меркаванне, што гэты тэкст быў створаны ў атачэнні якраз вышэйзгаданага Альбрэхта Гаштаўта, выглядае цалкам верагодным.

### Асіміляцыя прабуксоўвае

Прыкметны лёс выдавецкага праекта Францыска Скарыны, распачатага ў 1517 годзе, за пяць гадоў да публікацыі Марцінам Лютэрам Новага Запавету на нямецкай мове. Намеры ў абодвух асветнікаў былі аднолькавыя — даць сваёй дзяржаўнай эліце, расколатай палітычна і канфесійна, кананічны сакральны тэкст на зразумелай («роднай») мове, які б мог паслужыць падставай для кансалідацыі.




**Берасцейская Біблія.** Рэльеф з помніка 1000-годдзю горада ў Брэсце.

## Праект Скарыны аказаўся, па сутнасці, правальным

Але калі пераклад Лютэра імгненна разышоўся пяцітысячным накладам і вытрымаў за 11 наступных гадоў яшчэ 16 дадатковых выданняў, то праект Скарыны аказаўся, паклаўшы руку на сэрца, па сутнасці, правальным — калі казаць пра ягоны ўплыў на сучаснасць, а не на далёкую будучыню. Ні Псалтыр, ні хоць бы якая з 19-ці кніг Старога Запавету, выдадзеных ім на працягу трох гадоў накладамі да 500 асобнікаў, не выклікалі патрэбы ў перавыданні. А ў 1525 годзе Скарына вымушаны быў увогуле спыніць кнігадрукаванне, каб больш ніколі да яго не вяртацца.

Прычыну трэба шукаць не толькі ў няўдалым выбары святых кніг (Новы Запавет, напэўна, знайшоў бы большы водгук і ў ВКЛ), але і ў аўдыторыі, для якой прапанаваны сродак кансалідацыі аказаўся проста незапатрабаваным. Магчыма, справа была якраз у тым, што сам Скарына не толькі не

**Міхалон Ліцвін**
аўтар трактата «Аб норавах татар, літоўцаў і маскавітаў». Гэта не сапраўднае імя, а псеўданім. Адносна таго, кім быў гэты чалавек, гісторыкі доўгі час вялі спрэчкі, але цяпер прынялі версію, што на самай справе яго звалі Венцаславам Мікалаевічам (каля 1490–1560), а быў ён паводле паходжання дробным землеўласнікам з Мэйшаголы, радавітым літоўцам-каталіком. Мікалаевіч належаў да атачэння Альбрыхта Гаштаўта і дзякуючы гэтаму зрабіў добрую кар'еру: працаваў пісарам у велікакняскай канцылярыі, а пасля ўваходзіў у пасольствы ВКЛ да крымскага хана і да маскоўскага ўладара Івана IV Жахлівага. Менавіта ўдзел у гэтых пасольствах і дазволіў яму кампетэнтна развaжаць пра норавы не толькі ўласнага народа, але і татараў ды маскавітаў.

хаваў, але і падкрэсліваў сваю русінскую свядомасць, што не магло падабацца «нашчадкам Палямона».

Зыходзячы з агульнадзяржаўных інтарэсаў, больш пажаданай выглядала перамога ліцвінскага асіміляцыйнага праекта, якая назаўжды выбіла б ідэйную зброю з рук прамаскоўскіх сепаратыстаў. Але гэты праект быў унутрана супярэчлівым: ён прадугледжваў захаванне рускай літаратурнай мовы пры адмове ад рускай гістарычнай ідэнтычнасці.

Тым часам пазначыўся і трэці варыянт, прыхільнікам якога праявіў сябе магнат Мікалай Радзівіл — славуты аматар пальшчызны, які атрымаў за гэта мянушку *Amor Poloniae*. Бадай што першым з арыстакратаў ВКЛ ён пачаў успрымаць дынастычную унію з Польшчай як факт існавання супольнай дзяржавы. З такой пазіцыі вынікала, што падставай для інтэграцыі магла выступіць не ліцвінізацыя русінаў і не русінізацыя ліцвінаў, а паланізацыя і тых, і другіх — па ўзоры самога *Amor Poloniae*. Перавагай такога падыходу было тое, што ён не патрабаваў ад аднаго з бакоў поўнай капітуляцыі на карысць другога — абодва нечым ахвяравалі і нешта набывалі ўзамен. Жыццё паказала, што менавіта такі шлях быў адзіным рэальна дасягальным, але і ён здзейсніўся далёка не адразу.

## Новая Біблія ўсё вырашае

Цікавым прыкладам эвалюцыі грамадскай думкі ў наступным пакаленні з'яўляецца лацінскамоўны трактат «Аб норавах татар, літоўцаў і маскавітаў» аўтарства Міхалона Ліцвіна. У ім упершыню робіцца адкрыты выклік панаванню ў грамадскім ужытку «русінскай» мовы: яна, маўляў, «чужая нам, ліцвінам, італійцам, што паходзяць ад італьянскай крыві». Аўтар наўмысна атаясамлівае літаратурную мову ВКЛ з «маскоўскім пісьменствам», якое «не заклікае да доблесці». Але прапанаваная альтэрнатыва — прыняць у якасці літаратурнай мовы лаціну з-за яе нібыта блізкасці да балцкай гутарковай мовы — была зусім утапічнай. Здаецца, аўтар у палемічным запале страціў мяжу паміж міфам і рэчаіснасцю.

Амаль аднaчасова з напісаннем трактата Міхалона, у 1547 годзе, адбылася і першая спроба стварэння літаратурнай мовы на падставе ўласна балцкай гаворкі. Яе здзейсніў падчас навучання ў Каралявецкім (Кёнігсбергскім) універсітэце лютэранскі пастар Марцін Мажвід (Мажвідас), на хвалі Рэфармацыі выдаўшы




**Мікалай Радзівіл Чорны**
не толькі «рэфармаваў» хрысціянства ў Вялікім Княстве, але і значна паланізаваў палітычныя эліты.

па-літоўску пратэстанцкі катэхізіс. Але гэтая спроба была запозненай — хоць літоўскамоўныя выданні ў далейшым час ад часу і з'яўляліся, але яны так і засталіся маргінальнай з'явай у культурным жыцці ВКЛ.

Тым часам пашырэнне ў 1550-я Рэфармацыі на тэрыторыі ўласна ВКЛ значна актуалізавала паланізацыйную альтэрнатыву. Берасцейская друкарня, заснаваная ў 1553 годзе пад патранажам правадыра мясцовых пратэстантаў Мікалая Радзівіла Чорнага, друкавала літаратуру выключна на польскай мове, і яна, у адрозненне ад выданняў Скарыны і Мажвіда, карысталася попытам. Асаблівы поспех меў новы польскамоўны пераклад Біблії з пратэстанцкімі каментарамі, выдадзены ў 1563 годзе. Паводле рашэння Евангельска-рэфармаванага збору ВКЛ, кожны мясцовы ►

збор павінен быў мець асобнік гэтай Бібліі. Такое рашэнне магло быць прынята толькі ў разліку на тое, што яе мова не выкліча цяжкасцяў у любой пратэстанцкай суполцы, дзе б на тэрыторыі краіны яна ні ўзнікла.

На такім фоне пратэстанцкае кнігавыданне на рускай мове выглядае з'явай амаль такой жа маргінальнай, як і літоўскамоўнае. Як спробу выправіць сітуацыю можна разглядаць выданне ў 1562 годзе ў Нясвіжы катэхізіса і невялікага палемічнага трактата Сымона Буднага на мове, значна набліжанай да мясцовай гутарковай. Фактычна мы маем такую ж спробу стварыць новую літаратурную (у сучасным разуменні — беларускую) мову, як і нядаўняя спроба Мажвіда. Але вынік быў той самы.

Сваю ўласную пазіцыю Будны выказаў у прысвячэнні Радзівілам, змешчаным у тым жа выданні: «... абы ся вашы княжацкія міласці не толькі ў чужаземскіх языцэх кахалі, але бы ся тэж, вашы княжацкія міласці, і таго здаўна слаўнага языка славенскага размілаваці і оным ся бавіці рачылі». Гэта ўжо зусім іншая танальнасць, чым у прадмовах Скарыны на нейкія 45 гадоў раней. Гаворкі пра тое, каб руская літаратурная мова заставалася асноўным сродкам зносін, ужо не ідзе. Буднага непакоіць, што яна можа знікнуць і з перыферыі моўнага ўжытку — менавіта супраць гэтага ён заклікае.

Такім чынам, ліцвінскі і русінскі асіміляцыйныя праекты загрузлі ў безвыніковым процістаянні, у той час як імкліва набіраў моц польскі. З гэтага пункту гледжання Люблінскую унію 1569 года (гл. пра яе артыкул Уладзіміра Падалінскага ў № 6/2019 «Нашай гісторыі») можна разглядаць як вырашальны крок, які расчысціў шлях да рэальнай інтэграцыі не толькі паміж часткамі паноўнай эліты ВКЛ, але і з польскай элітай. Для канчатковага замацавання на гэтым шляху спатрэбілася яшчэ толькі адно пакаленне.




**Леў Сапега** хоць прапагандаваў «сваю мову» ў Статуце ВКЛ, але ж уласны тастамент напісаў па-польску. Партрэт, што знік перад вайной з Нясвіжскага замка.

### Канчатковая паланізацыя

Апошняя спроба супраціву з боку «свядомых русінаў» звязаная з асобай канцлера ВКЛ Льва Сапегі. Шырока вядомая праграмная фраза з яго прадмовы да выдання Статута 1588 года: «А еслі каторому народу ўстыд праў сваіх не ўмеці, пагатовю нам, каторыя не обчым [= чужым — НГ] якім языком, але сваім уласным права спісаныя маем».

Але паказальная прысутнасць нават у гэтай фразе яўнага паланізму: «обчы» замест «чужы». Польскі моўны ўплыў пашыраўся непрыкметна, але няўхільна. Яшчэ больш яскрава гэта можна ўбачыць у іншых творах пісьменства таго часу: дзённіку Фёдара Еўлашэўскага і рускамоўных лістах Філона Кміты. У іх зафіксавана тая ж з'ява, якую ў наш час называюць «трасянкай» альбо «суржыкам»: фанетычная сістэма захавалася ад роднай гутарковай мовы, але лексіка ўжо ў значнай ступені запазычаная («прэмовілэм», «кроль» і г. д). Дарэчы, частка лістоў Кміты і Льва Сапегі напісана на даволі добрай польскай мове, у той час як узораў чыстай (ад паланізмаў) рускай мовы мы ў іх не знойдзем.

Патрабаванне па-ранейшаму весці справаводства «языком сваім уласным», з падачы Льва Сапегі заканадаўча замацаванае ў Статуце, на практыцы даволі хутка вырадзілася ў фармальнасць: загаловак і прэамбула дакумента пісаліся па-руску, а змястоўная частка — усё часцей на польскай мове, звыклай для ўдзельнікаў судовай справы ці аўтараў тастаментаў. Дарэчы, сам Сапега ў канцы свайго доўгага жыцця (ён памёр у 1633 годзе, пражыўшы 76 гадоў), як потым і выхаваныя ім сыны, уласныя тастаменты пісалі па-польску.

Так «нацыянальнае пытанне» ў адносінах паміж дзвюма часткамі палітычнай эліты, ліцвінамі і русінамі, было ўрэшце вырашана, але не на карысць аднаго з бакоў, не праз кампраміс паміж імі. Адбылася асіміляцыя з трэцяга боку, хоць яна і не была безапеляцыйнай. У штодзённым побыце, у камунікацыі са служкамі і сялянамі, уласнікі маёнткаў на Русі карысталіся гутарковай «рускай» (у сённяшнім разуменні — беларускай) мовай, а пры наяўнасці такіх

жа маёнткаў у этнічнай Літве і Жамойці яны, незалежна ад этнічнага паходжання, мусілі ведаць тамтэйшую гаворку — гэтаксама, як многія паны ведалі ў мінімальным памеры ідыш для зносін з яўрэямі.

Канфесійны падзел, які ніколі дакладна не супадаў з мовай і паходжаннем «па крыві», у выніку Рэфармацыі, Контррэфармацыі і Берасцейскай уніі 1596 года стаў настолькі стракатым, што амаль зусім страціў ролю дадатковага этнавызначальнага маркёра. Той, хто адчуваў сябе ліцвінам, мог вызнаваць каталіцтва ці пратэстанцкую веру, а этнічных русінаў можна было знайсці і сярод каталікоў, і сярод пратэстантаў, і сярод уніятаў. Праваслаўнае веравызнанне захоўвалася адносна шырока сярод дробнай шляхты і мяшчанства. У першыя дзесяцігоддзі пасля уніі яго працягвалі прытрымлівацца і некаторыя магнаты, але пазней іх нашчадкі перайшлі ў каталіцтва.

Русінская гістарычная свядомасць была страчана не канчаткова: нехта ж увесь час замаўляў і захоўваў летапісныя зводы накшталт вышэйзгаданых Супрасльскага і Нікіфараўскага. Але яна практычна не праяўлялася больш у актуальным літаратурным дыскурсе.

Дарэчы, шмат пацярпеў у працэсе паланізацыі і ліцвінскі гістарычны міф, які ў адукаваных палякаў выклікаў толькі кпіны. Ён таксама не знік цалкам, але быў выціснуты на ўзбочыну. На змену прыйшлі больш актуальныя ў новых умовах ідэйныя канцэпты накшталт сарматызму, які дазваляў адчуваць гістарычнае адзінства з тымі ж палякамі.

Адзінства палітычнай эліты ВКЛ, дасягнутае за кошт знікнення суверэннай дзяржавы, не вырашыла ўсе праблемы міжэтнічных стасункаў. У пэўнай ступені яно прывяло да абвастрэння сацыяльнага ў сваёй аснове процістаяння паміж панамі і сялянамі, дадаўшы яму дадатковае адценне: пан, апрача іншага, успрымаўся як «лях», носьбіт чужой культуры. Неўзабаве гэты акцэнт выразна прагучаў у казацкіх войнах на Украіне, якія закранулі і Беларусь.

Адзіным несумненным поспехам ліцвінскага асіміляцыйнага праекта стала тое, што для вызначэння саманазвы новай польскамоўнай супольнасці замацавалася слова «ліцвін». Так з таго часу называлі сябе, у адрозненне ад карэнных палякаў, прадстаўнікі шляхецкай «палітычнай нацыі» ВКЛ.

У такім сэнсе ліцвінамі адчувалі сябе ў XVII–XVIII стагоддзях даўно перамяшаныя па крыві нашчадкі Рурыкавічаў і Гедымінавічаў, полацкіх і жамойцкіх баяр. Гэтая традыцыя дажыла да XIX стагоддзя, калі свае ліцвінскія карані не раз падкрэслівалі (усё на той жа польскай мове!) і паэт Адам Міцкевіч, і даследчык Адам Кіркор, даўшы падставы для сённяшніх спроб прадставіць гістарычных ліцвінаў адзінымі продкамі беларусаў. ◆

# Загадкавы вязень

## Жахлівая помста душыцелю паўстання Каліноўскага

**Пра незвычайны выпадак карнай псіхіятрыі ў Магілёве XIX стагоддзя пішуць гісторык Аляксей Бацюкоў і судовы псіхіятр Уладзімір Дукорскі.**

Маёр рускай арміі Петражыцкі, які ўдзельнічаў у задушэнні паўстання 1863—1864 гадоў, аднойчы ехаў са свайго роднага павета ў Магілёў і па дарозе знік. Сваякі дзе толькі яго не шукалі – ні следу. Але пасля пайшла чутка, што маёр знаходзіцца ў лякарні для псіхічна хворых. Засталося гэта неяк спраўдзіць.

### Непадпісаны артыкул

Маёр Петражыцкі быў сынам праваслаўнага святара з аднаго з паветаў Магілёўскай губерні — так нам апісвае ахвяру аўтар адзінага пакуль вядомага па гэтай справе матэрыялу, сусветна вядомы псіхіятр Самуіл Штэйнберг. Надрукаваны ім артыкул «Выпадак з жыцця дома псіхічна хворых у горадзе Магілёве» ў 318-м нумары «Судовага весніка» за 1870 год не падпісаны, але аўтарства навукоўцы на падставе ўскосных звестак аддаюць менавіта Штэйнбергу.

Самуіл Штэйнберг непасрэдна перад гэтымі падзеямі сам жыў і працаваў у Магілёве, атрымаўшы ў 1862 годзе месца лектара па анатоміі ў Магілёўскай семінарыі і працу ў шпіталі. Праз тры гады, па некаторых звестках, ён ужо загадчык Пячэрскага дома для вар'ятаў (так ён афіцыйна тады называўся) і да таго ж інспектар лекарскай управы. Так што з жыццём і персаналам дома псіхічна хворых, размешчаным у прыгараднай вёсцы Пячэрск, ён быў дакладна добра знаёмы. Гэта тая самая ўстанова, дарэчы, дзе ў 1937 годзе скончыць свае дні пісьменнік і былы кіраўнік беларускага ўрада Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны).

На момант напісання артыкула ён ужо ў Магілёве не жыў і, відаць, пра апісаныя ім падзеі даведаўся з ліставання, бо некалькі разоў памыляецца ў напісанні прозвішчаў дзейных асоб.

Так, доктар Тэпфер у яго матэрыяле становіцца Тэнферам, пракурор Шэвіч — Шэнічам. Адносіцца гэта і да прозвішча галоўнага героя. Ён называе




**Псіхіятр з сусветна вядомым тады імем Самуіл Штэйнберг** апісаў загадкавае здарэнне ў Магілёўскай лякарні для псіхічна хворых.

маёра Петрахіцкім, але такога прозвішча не сустракаецца не толькі ў дакументах Магілёўскай губерні, але і, здаецца, у прыродзе. Напэўна, правільней называць гэтага чалавека Петражыцкі, паколькі Петражыцкія — агромністы і разгалінаваны

### Не ўжываў утаймавальнай кашулі

Псіхіятр Самуіл Штэйнберг быў адным з першых лекараў — вузкіх спецыялістаў у Пячэрскай псіхіятрычнай лякарні. Да гэтага за такімі пацыентамі прыглядалі дактары агульнай практыкі, а само лекаванне найчасцей зводзілася да ізаляцыі хворага ў драўляны барак.

Метады лячэння Штэйнберга, заснаваныя на прынцыпе негвалтоўнасці, на тыя часы былі вельмі прагрэсіўнымі, і адточваў іх будучы «старэйшына рускіх псіхіятраў» менавіта ў Магілёве. У 1874 годзе ён так апісваў свой досвед у справаздачы: «Для самых шалёных я не ўжываў утаймавальнай кашулі і ў мяне заўсёды атрымлівалася размяшчэннем іх у асобным пакоі і лагодным словам пазбягаць гвалту… У лячэнні найперш трэба было змясціць іх у самыя лепшыя гігіенічныя і дыетычныя ўмовы, каб ежай падтрымліваць фізічнае здароўе хворых і папярэджваць арганізм ад разбурэння».

Пасля Магілёва Штэйнберг практыкаваўся ў псіхіятрыі ў еўрапейскіх клініках, працаваў у Маскве, Пецярбургу, а завяршаў сваю кар'еру ў Саратаве, дзе заснаваў мясцовую псіхіятрычную бальніцу.

шляхецкі род, вядомы з сярэдзіны XVI стагоддзя, які паходзіць з вёскі Пятражыцы — цяпер Пятрыгі ў Чэрыкаўскім раёне на Магілёўшчыне.

## Пошукі маёра

Такім чынам, паводле Штэйнберга, пачаткам гэтай гісторыі стала загадкавае знікненне маёра Петражыцкага ў Магілёве, куды ён накіраваўся са свайго роднага павета і адкуль не вярнуўся. Адзін са святароў гэтага неназванага павета, сваяк маёра, неўзабаве аднекуль дазнаўся, што маёр утрымліваецца ў магілёўскім доме псіхічна хворых, і выправіўся ў цэнтр губерні.

Найперш святар пайшоў да наглядчыка сацыяльных устаноў, адстаўнога маёра Аляксандра Кухарскага. Але той запэўніў, што ніякі маёр Петражыцкі ў доме для псіхічна хворых не знаходзіцца. Гэта пацвердзіў і галоўны доктар сацыяльных устаноў Раман Тэпфер.

Аднак чутка, якой кіраваўся сваяк-святар, была, відаць, настолькі пераканаўчая, што ён не супакойваўся. Наступным, да каго ён прыйшоў шукаць ду, быў губернскі пракурор Анатоль Шэвіч. Святару неяк удалося пераканаць начальніка, што голым словам адказных асоб верыць нельга — трэба правесці праверку.

Да пошукаў далучыўся таксама віцэ-губернатар Іван Астравумаў. Яны разам з пракурорам наведалі Пячэрск і зноўку атрымалі ад Аляксандра Кухарскага цвёрдае запэўніванне ў адсутнасці нейкага Петражыцкага ў вар'ятні. Прычын не давяраць словам наглядчыка не было: адстаўны маёр, кавалер ордэнаў Святога Георгія і Святой Ганны быў чалавекам паважаным і шматразова ўзнагароджаным, у тым ліку за задушэнне паўстання 1863–1864 гадоў.


WIKIMEDIA COMMONS

**Пячэрскі лесапарк у Магілёве.** Абласная псіхіятрычная бальніца знаходзіцца з ім па суседстве, як і 200 гадоў таму.

Следчыя дзеянні на гэтым і завяршыліся, як раптам, ужо на выхадзе з установы, пракурору і віцэ-губернатару сустрэўся фельчар, нехта Мартынаў, які на іх пытанне адказаў станоўча: сапраўды, такі маёр у іх знаходзіцца. І павёў іх у патаемны пакой будынка.

## Тры крутыя яйкі

Дзверы патаемнага пакоя дома для псіхічна хворых адчыніліся, і ў памяшканне ўпершыню за доўгі час трапіла святло. На падлозе сутарэння — цёмнага і вільготнага памяшкання без ніводнага акна — ляжаў чалавек, што амаль не рухаўся, але быў яшчэ ▶

жывы. Ці мог ён усвядоміць, што нарэшце вольны?

Загадкавы вязень пражыве толькі тыдзень пасля свайго вызвалення, а медыцынскае абследаванне засведчыць, што ніякіх псіхічных захворванняў у яго не было. Прычынай смерці будзе крайняе знясіленне: на працягу шасці месяцаў яго трымалі ў цёмным і сырым памяшканні без свежага паветра, кормячы трыма крута зваранымі яйкамі ў дзень.



RADZIMA.ORG

**Стары галоўны корпус Магілёўскай псіхіятрычнай лякарні**, XIX стагоддзе.

**На працягу шасці месяцаў вязня трымалі ў цёмным і сырым памяшканні без свежага паветра, кормячы трыма крута зваранымі яйкамі ў дзень**

У гэты ж самы дзень раптоўна памёр і наглядчык сацыяльных устаноў Кухарскі.

### Помста бунтароў

Крыніцы Самуіла Штэйнберга, каментуючы надзвычайнае здарэнне, заявілі, што катаванні маёра Петражыцкага — справа прыхільнікаў «польскага мяцяжу», якія такім чынам адпомсцілі яму за ўдзел у задушэнні паўстання і далейшую актыўнасць на карысць «рускай справы».

Злачынства спрабавалі, па словах таго ж Штэйнберга, расследаваць, але чым тое расследаванне скончылася — невядома. Як невядома таксама, кім былі тыя адчайныя людзі, што пасля правалу паўстання працягвалі кропкавую падпольную дзейнасць. Ды яшчэ і такую нахабную — пад носам ва ўладаў, ва ўстанове, якую яны кантралююць.

Адно што толькі гэты выпадак чамусьці больш нідзе не згадваецца: ні ў далейшых выпусках «Судовага весніка», ні ў магілёўскіх перыядычных выданнях гэтага часу. Ёсць праблема і з верыфікацыяй галоўнага героя. Калі ўсе астатнія вышэйпамянёныя асобы з гэтай гісторыі знаходзяць сваё пацвярджэнне ў іншых крыніцах, напрыклад, у тых жа «Памятных кніжках» Магілёўскай губерні, то постаць маёра Петражыцкага ці Петрахіцкага пакуль нам у крыніцах не сустракалася.

Лёс і абставіны смерці замардаванага маёра, такім чынам, яшчэ застаюцца для нас загадкавымі, але, магчыма, некалі раскрыюць сваю таямніцу. ◆




WIKIMEDIA COMMONS

**Магіла Цішкі Гартнага (Змітра Жылуновіча) у Пячэрскім лесапарку.** Да дзеяча беларускага адраджэння таксама збіраліся ўжыць карную псіхіятрыю, але Гартны апярэдзіў сваіх ворагаў. Як толькі яго пакінулі без нагляду, ён лёг на падлогу і апусціў ножку цяжкага шпітальнага ложка сабе на шыю.




**Патрыярх Маскоўскі Кірыл і Патрыяршы Экзарх Беларусі Веніямін (злева)** пасля ўзвядзення апошняга ў сан.

# Чаму ў патрыярха і епіскапаў бел-чырвона-белыя стужкі на мантыях і гербах?

**Што азначае бел-чырвона-белая стужка на гербах і вензелях праваслаўных епіскапаў і нават самога Патрыярха Маскоўскага і Усёй Русі Кірыла? Чаму Патрыяршы Экзарх Усёй Беларусі Мітрапаліт Веніямін, як таксама ягоныя папярэднікі мітрапаліты Філарэт і Павел, у час сваіх урачыстых прамоў апранаюць мантыі, аздобленыя такой стужкай? Што гэта сімвалізуе і адкуль бярэ пачатак, тлумачыць кандыдат гістарычных навук Дзяніс Лісейчыкаў.**

## Замест золата і срэбра

Калі зайсці на афіцыйныя сайты епархій Беларускай праваслаўнай царквы, а таксама Рускай і Украінскай, можна пераканацца, што абавязковым элементам манаграмы, вензеля ўсіх іерархаў Царквы пачынаючы ад епіскапа з'яўляецца бел-чырвона-белая стужка. У аснову гэтых вензеляў пакладзена традыцыйная архірэйская мантыя, праз якую сапраўды ў тры шэрагі ідуць тры стужкі характэрных колераў.

Гэтыя тры стужкі маюць назву «струмені» альбо «крыніцы» (царкоўнаславянскае *«струи»*, *«источники»*). Яны сімвалізуюць сабой святло Старога і Новага Запавету, якое павінен несці архірэй.

Увогуле, форма архірэйскіх мантый ва ўсходніх цэрквах перанятая ад урачыстага адзення візантыйскіх імператараў. А імператарскія ўборы традыцыйна ўпрыгожваліся залатымі і срэбранымі нашыўкамі. Існуе меркаванне, што і на архірэйскіх мантыях першапачаткова выкарыстоўваліся «струмені»

## Струмені ў тры шэрагі

На ўрачыстых мантыях сённяшніх праваслаўных архірэяў «струмені» месцяцца ў тры шэрагі: над ніжнімі скрыжалямі, пад верхнімі скрыжалямі і пасярэдзіне. Скрыжалямі завуцца нашытыя на мантыю архірэя спераду зверху і знізу прамавугольнікі з матэрыі чырвонага ці зялёнага колеру. Колер самой архірэйскай мантыі таксама бывае розным, у залежнасці ад месца ў іерархіі. У патрыярхаў яна зялёная, у мітрапалітаў — блакітная, у архіепіскапаў і епіскапаў — фіялетавая.

з каштоўных залатых і срэбных нітак у такой паслядоўнасці: срэбра – золата – срэбра.

Спалучэнне гэтых матэрыялаў і колераў на мантыях патрыярхаў працягвала выкарыстоўвацца да XVI стагоддзя. Аднак каштоўныя металы ў патрэбнай колькасці дастаць было не так ужо і проста, ды і каштавалі яны дорага. Таму своеасаблівым «бюджэтным» варыянтам упрыгожання стала выкарыстанне замест золата і срэбра пурпурнага і белага ядвабу.

Але калі ў Візантыі пурпурны ядваб яшчэ неяк можна было дастаць, то для Кіеўскай мітраполіі, куды ўваходзілі наша Полацкая і Турава-Пінская епархіі, нават гэтая замена золата была амаль недасяжнай. А таму з часам нашы епіскапы замест імператарскага і каралеўскага пурпуру пачалі выкарыстоўваць тканіну чырвонага (часцей) альбо сіняга (радзей) колеру. Пурпур, як вядома, сумесь менавіта чырвонага і сіняга, адсюль і два варыянты яго замены.



**Вензель Патрыярха Маскоўскага і Усёй Русі Кірыла.**

### Ад часоў Кірылы Тураўскага

Першае дакладна зафіксаванае сведчанне выкарыстання ў адзенні архірэяў Кіеўскай мітраполіі «струменяў» бел-чырвона-белага колеру адносіцца да XII стагоддзя. Менавіта такія струмені яшчэ ў пачатку XX стагоддзя можна было ўбачыць на мошчах святога Іліі (Іаана) — наўгародскага архіепіскапа, які памёр у 1185 годзе. У першыя гады савецкай улады мошчы святога Іліі Наўгародскага былі знішчаныя. Аднак характэрнае спалучэнне белага і чырвонага колеру мы можам і сёння бачыць на драўлянай разблёнай фігуры з ра́кі святога, выраблёнай ў 1559-м.

На вялікі жаль, не захавалася архірэйскага адзення гэтага перыяду з беларускіх земляў. Але можна ўпэўнена сцвярджаць, што бел-чырвона-белыя струмені мусілі быць і на ўрачыстай мантыі святога Кірылы, тураўскага епіскапа, які памёр усяго на тры гады раней за наўгародскага Ілію. Прасачыць жа развіццё элементаў епіскапскага адзення да канца XVI стагоддзя ўвогуле складана, бо захавалася вельмі мала выяўленчых крыніц. Аднак можна меркаваць, што традыцыя выкарыстання струменяў адпаведных колераў не перапынялася.




Спалучэнне белага і чырвонага колеру мы можам бачыць на **драўлянай разблёнай фігуры з ра́кі святога Іліі Наўгародскага, выраблёнай ў 1559 годзе.**

### І праваслаўныя, і ўніяты, і старавбрадцы

А вось з XVII стагоддзя, дзякуючы таму, што ў Рэчы Паспалітай тады назіраўся велізарны рост папулярнасці партрэтнага жанру, да нас дайшло шмат выяваў царкоўных іерархаў таго часу. І часта на іх урачыстых мантыях мы можам бачыць характэрныя бел-чырвона-белыя струмені. Гэта добра відаць, напрыклад, на партрэтах кіеўскага мітрапаліта Пятра Магілы сярэдзіны XVII стагоддзя, якому падпарадкоўваліся ўсе праваслаўныя цэрквы на тэрыторыі сённяшняй Беларусі, і ўніяцкага (грэка-каталіцкага) полацкага архіепіскапа Кіпрыяна Жахоўскага 1680 года.

Тое, што бел-чырвона-белыя струмені сустракаліся на мантыях не толькі праваслаўных, але і грэка-каталіцкіх іерархаў, не дзіўна, бо візантыйская ▶

▶ традыцыя — падмурак абедзвюх гэтых Цэркваў. Варта прыгадаць хоць бы класічны партрэт апошняга мітрапаліта ўніяцкіх цэркваў у Расійскай імперыі Іасафата Булгака работы акадэміка Івана Хруцкага, які датуецца 1838 годам (гл. пра гэтага мастака і яго працу артыкул Алеся Белага ў № 5/2018 «Нашай гісторыі»). На адным з бел-чырвона-белых струменяў


WIKIMEDIA COMMONS

**Партрэт кіеўскага мітрапаліта Пятра Магілы** сярэдзіны XVII стагоддзя.


WIKIMEDIA COMMONS

**Уніяцкі полацкі архіепіскап Кіпрыян Жахоўскі.** Партрэт 1680 года.

мітрапаліцкай мантыі наш зямляк-мастак нават паставіў свой аўтограф *«M. Jan Chrucki 1838»*.

Не менш вядомая і гравюра з партрэтам полацкага архіепіскапа Фларыяна Грабніцкага (гады кіравання 1719–1762), з ініцыятывы і на сродкі якога ў сярэдзіне XVIII стагоддзя быў адноўлены Полацкі Сафійскі сабор. Сённяшняму выгляду нашай легендарнай Сафійкі мы абавязаныя менавіта ўладыку Фларыяну. Знакамітая гравюра з яго выявай, зразумела, чорна-белая, аднак характэрныя адценні струменяў на архірэйскай мантыі праглядаюцца выразна і тут.

Аб тым, што бел-чырвона-белыя струмені маюць даўнюю традыцыю, якая сягае каранямі ў першыя стагоддзі існавання Кіеўскай мітраполіі, што аб'ядноўвала пад сваёй уладай праваслаўныя цэрквы на тэрыторыі сённяшніх Украіны, Беларусі і Расіі, сведчыць іх выкарыстанне і на адзенні іерархаў-стараабрадцаў. Варта звярнуць увагу, як выглядае ўрачыстая мантыя цяперашняга стараабрадніцкага мітрапаліта Карнілія.

## На гербах і іконах

Колеравай гамай праваслаўных архірэйскіх мантый у 1781 годзе, магчыма, натхняліся і распрацоўшчыкі новага «імперскага» герба Віцебска, пасля таго як горад быў далучаны да Расійскай імперыі. У гэты час магдэбургскі герб 1597 года (у блакітным полі выява Хрыста Збаўцы) быў заменены новым, у аснову якога была пакладзена мадэрнізаваная «праваслаўная» «Пагоня». Срэбнаму вершніку на срэбным кані расійскія мастакі-дызайнеры асучаснілі зброю і рыштунак, а на шчыце


WIKIMEDIA COMMONS

**Класічны партрэт апошняга мітрапаліта ўніяцкіх цэркваў у Расійскай імперыі Іасафата Булгака** работы акадэміка Івана Хруцкага.

змясцілі шасціканцовы крыж з касой перакладзінай. Поле герба ўяўляла сабой чырвона-белыя палосы.

Аднак жа гэта магло быць і простым супадзеннем. Бо ў тым жа 1781 годзе ўніфікаваная «праваслаўная» «Пагоня» была змешчана і на гербах павятовых цэнтраў Віцебскай губерні. Колеравая гама поля ў іх адрознівалася ад бел-чырвона-белай віцебскай.

У той жа час у XVIII–XIX стагоддзях бел-чырвона-белыя струмені ўсё часцей пачалі з'яўляцца на іконах праваслаўных беларускіх храмаў. Калі сёння зайсці ў галоўную праваслаўную царкву Беларусі, Мінскі Свята-Духаўскі кафедральны сабор, то ў левым нефе храма можна знайсці цікавы абраз святога Мікалая Цудатворца XVIII стагоддзя. На палях іконы маюцца 8 т. зв. *клеймаў*, маленькіх дадатковых выяваў з асноўнымі цудамі, якімі праславіўся святы. На адным з іх адлюстраваны

адзін з найбольш вядомых цудаў святога Мікалая — спыненне ка́та, які ўжо занёс меч над галавой нявінна асуджаных жыхароў горада Міры (на тэрыторыі сучаснай Турцыі), дзе Мікалай быў епіскапам. Абарона архірэем мірных жыхароў ад несправядлівага выраку свецкай улады праславіла святога Мікалая.

## Святы Мікалай лічыцца апекуном усіх нявінна асуджаных

Невядомы беларускі мастак XVIII стагоддзя зафіксаваў на гэтым сюжэце епіскапа ў святочнай мантыі з характэрнымі бел-чырвона-белымі струменямі. Святы Мікалай, дарэчы, традыцыйна лічыцца апекуном усіх нявінна асуджаных і абаронцам ад марнай смерці.

У XIX стагоддзі ў праваслаўных храмах Беларусі атрымалі вялікае распаўсюджанне і папулярнасць іконы святых варонежскіх епіскапаў Мітрафана (памёр у 1703-м), а таксама Ціхана Задонскага (памёр у 1783-м), на абразах якіх можна заўважыць тыя ж самыя струмені ў адпаведнай колеравай гаме. А на партрэтах і іконах нашага мясцовага праваслаўнага святога Георгія (Каніскага), магілёўскага архіепіскапа (памёр у 1795-м), заўважныя абодва варыянты замены пурпуру ў струменях — з блакітнымі і з чырвонымі стужкамі.


АЛЬБОМ «ІКАНАПІС БЕЛАРУСІ XV–XVIII СТАГОДДЗЯЎ»

**Фрагмент абраза XVIII стагоддзя з выявай Мікалая Цудатворца** ў мінскім Святадухаўскім кафедральным саборы.


НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ АРХІЎ БЕЛАРУСІ

**Фрагмент герба Віцебска** пасля далучэння да Расійскай імперыі.

### Дуж-Душэўскі натхняўся іншым

Наіўным і няправільным было б звязваць колеравую гаму нацыянальнага беларускага сцяга пачатку XX стагоддзя з асаблівасцямі аздаблення адзення царкоўных іерархаў найвышэйшага рангу. Інжынер Клаўдзій Дуж-Душэўскі ў 1917 годзе пры стварэнні дызайну нацыянальнага сцяга (гл. пра гэта артыкул Уладзіміра Ляхоўскага ў № 2/2018 «Нашай гісторыі»), як і многія іншыя мастакі, што ў той час шукалі «беларускі стыль», натхняліся ў першую чаргу матывамі і колерамі народнага ткацтва. Аднак спалучэнне белага і чырвонага ў характэрнай паслядоўнасці мае на нашых землях даўнюю традыцыю не толькі ў народных строях, але і ва ўрачыстай вопратцы высокіх дастойнікаў хрысціянскіх цэркваў.

Таму без перабольшання можна сказаць, што вось ужо амаль тысячу гадоў бел-чырвона-белыя струмені нясуць святло вучэння Старога і Новага Запаветаў на беларускіх землях. ◆

Аўтар выказвае падзяку айцу **Сергію Лепіну**, **Галіне Флікоп-Світа** і **Дар'і Бунеевай** за дапамогу ў працы над артыкулам.


SOBORMOGILEV.BY

**Беларускі праваслаўны святы Георгій Каніскі, магілёўскі архіепіскап** (памёр у 1795 годзе).




**Быў перыяд, калі прадукцыя шклянога завода «Нёман» у Бярозаўцы пад Лідай упэўнена крочыла па сусветным рынку. Прычым скарала пераборлівых спажыўцоў перадусім сучасным дызайнам. І ў гэтага поспеху былі канкрэтныя аўтары. Пра аднаго з самых першых прафесійных дызайнераў у гісторыі Беларусі піша доктар гісторыі Алесь Белы.**

# Міхал Ціткоў

## забыты геній дызайну

Сучасны беларускі экспарт за межы краін былога СССР — гэта пераважна сыравінныя, біржавыя, ананімныя тавары. Найчасцей яны не нясуць у сабе меседжу мясцовай культуры, гэтак важнага, напрыклад, у японскіх, карэйскіх, французскіх, італьянскіх і многіх іншых марках спажывецкіх тавараў. Бо беларускія экспартныя тавары, за рэдкімі выключэннямі (напрыклад, «Мілавіца»), не адрасаваныя канчатковаму індывідуальнаму спажыўцу. Для тых жа, хто купляе нафтапрадукты, калійныя солі, сухое малако і электраэнергію, не мае прынцыповага значэння, дзе і кім яны выраблены.

Сур'ёзная праца з глабальным спажыўцом — гэта інтэнсіўная камунікацыя, укладанні ў маркетынг і дызайн, няспынная самаадукацыя і адаптацыя. А таксама асабісты ўдзел у дыялогу культур. Адна з самых яскравых гісторый поспеху такога кшталту з міжваеннай эпохі, калі Заходняя Беларусь уваходзіла ў склад Польшчы, — гута «Нёман» у Бярозаўцы пад Лідай.

У лёсе гэтага прадпрыемства ёсць нямала агульнага з іншымі вядомымі тагачаснымі брэндамі: баранавіцкім мясакамбінатам *Kreseksport* або віленскім радыёзаводам «Электрэт» (які ў 1940-м стаў мінскім). Імклівы даваенны рост і арыентацыя на сусветны рынак пасля далучэння да СССР аднамомантава змяніліся нацыяналізацыяй і прымусовай адаптацыяй пад планавую эканоміку герметычна закрытай краіны. Але найбольш сімвалічным прыклад «Нёмана» робіць істотны мастацкі, эстэтычны складнік ягонай прадукцыі.

Міжваенны перыяд — самы цікавы ў гісторыі гуты «Нёман», бо ні да яго, ні пасля прадпрыемства не мела магчымасці так шырока

гандляваць сваёй прадукцыяй на сусветным рынку.

### Гута «Нёман», яна ж *Stolle*

Датай заснавання «Нёмана» фармальна лічыцца 1883 год, але, па сутнасці, непасрэдны продак сучаснага прадпрыемства быў заснаваны прадпрымальнікамі Юліем Штоле і Вільгельмам Краеўскім толькі ў 1890-я. У кожным разе, да Першай сусветнай вайны гэтая гута паспела стаць прыкметным гульцом на расійскім рынку сталовага і дэкаратыўнага шкла. Нягледзячы на цяжкія страты, панесеныя падчас войнаў (расійскія войскі пры адступленні ў 1915 годзе спалілі «Новую гуту» разам з усімі складскімі запасамі, а затым істотныя пашкоджанні былі нанесеныя і бальшавікамі ў часе польска-савецкай вайны 1919–1920 гадоў), у мірны час вытворчасць даволі хутка аднаўлялася.

У 1923-м фірма ператварылася ў акцыянернае таварыства *Huty Szklane Juliusza Stolle Niemen S.A.*, якая дзейнічала да самага прыходу саветаў у 1939 годзе. За вельмі кароткі час ад заснавання і пасляваеннага аднаўлення прадпрыемства здолела стаць самым буйным у Польшчы вытворцам мастацкага і сталовага шкла, а таксама самым буйным экспарцёрам гэтых тавараў.

Прадукцыя «Нёмана» (вядомая тагачаснаму пакупніку больш як *Stolle*) паспяхова пастаўлялася ў Нідэрланды, Францыю, Канаду, Аргенціну, на Блізкі Усход (у Сірыю і Палесціну), у Афрыку. У 1930-х доля бярозаўскай гуты складала ў сярэднім каля 20% польскага экспарту ў гэтай галіне (паводле кошту), хоць у фізічным аб'ёме вытворчасці яна складала не больш за 2–3% ад усёй прадукцыі галіны. У гэты час тут працавала каля 750 супрацоўнікаў, і гэта рабіла завод самым буйным прыватным прадпрыемствам Навагрудскага ваяводства.

### Ісці ў нагу з сусветнай модай

Большую частку прадукцыі, аснову камерцыйнага поспеху, складала не выдзіманае, а прэсаванае шкло, якое выраблялася ў адмысловых металічных прэс-формах, індывідуальных для кожнага вырабу.

Але выдзіманыя вырабы ў прадукцыі таксама прысутнічалі. Яны ў значнай ступені наследавалі чэшскія ўзоры і даваенны стыль мадэрн, а пазней — моду, зададзеную нямецкай дызайнерскай школай *Bauhaus*, з уплывамі функцыяналізму, канструктывізму і кубізму.

З сярэдзіны 1920-х на мастацкім рынку Захаду пачаў дамінаваць стыль ар дэко (*art déco*). Ягоныя першыя прыкметы пазначыліся ў мастацкай прасторы яшчэ да Першай сусветнай вайны, але міжнародная парыжская выстава 1925 года (*«Exposition Internationale des Arts Décoratifs et Industriels Modernes»* — ад яе скарочанай назвы і ўзнік тэрмін *art déco*) стала яго адкрытай маніфестацыяй, якая падвяла рысу пад жахамі Першай сусветнай вайны і пазначыла імкненне да раскошы і камфорту, падмацаванае дасягненнямі аўтамабільнай, авіяцыйнай, побытавай тэхнікі. У дэкаратыўна-ўжытковае і мастацкае шкло таксама прыйшлі гранёныя, крысталічныя, вытанчаныя формы, пазычаныя ар дэко ў кубізму з футурызмам. Дарэчы, славутая савецкая гранёная («малянкоўская») шклянка таксама ўзыходзіць да тых самых каранёў.

Польскі рынак шкла быў дастаткова вузкім, і, каб дасягнуць сапраўднага поспеху, трэба было прадаваць шмат па ўсім свеце, ісці ў нагу або адставаць не больш чым на паўкрока ад заканадаўцаў сусветнай моды — французаў.

### Ніякай дэпрэсіі!

Браніслаў Штоле, які па смерці свайго бацькі Юлія ў 1927 годзе заняў пасаду генеральнага дырэктара прадпрыемства, шмат увагі надаваў маркетынгу. У тым ліку наведванню вядучых цэнтраў еўрапейскай вытворчасці шкла, заканадаўцаў моды. ▶




Адзін з уласнікаў завода ў Бярозаўцы **Юліус Штоле з жонкай Жазэфай.**

▶ Усё, што выглядала новым і арыгінальным, куплялася і старанна аналізавалася, нярэдка капіравалася або творча перапрацоўвалася. Многія прэсаваныя вазы, кашпо і іншыя вырабы «Нёмана» таго часу выяўляюць уплыў славутых французскіх майстроў па шкле Рэнэ Ляліка і Марыюса-Эрнэста Сабіно. А масіўны таўстасценны посуд, выдзіманы з празрыстага, афарбаванага ў масе шкла — бясспрэчнае наследаванне тагачасных чэшскіх узораў.

Такі посуд меў кубістычныя формы і даводзіўся да ладу ручным шліфаваннем. Большасць вырабаў мела афарбоўку ў прыкладна 12–15 найбольш распаўсюджаных, фірмовых колерах бярозаўскай гуты. Сярод іх пераважалі пастэльныя адценні блакітнага, ружовага, жоўтага, селадонавага (далікатна-зялёнага).



RADZIMA.NET

**Шклозавод «Нёман»** у сярэдзіне 1950-х.



ALLEGRO.PL

**Міжваенныя вырабы «Нёмана»** карыстаюцца стабільным попытам у калекцыянераў. Гэты набор для напояў з графіна, 5 кілішкаў і падноса ў 2017 годзе меў у Польшчы аўкцыённы кошт каля 200 еўра.

Здаецца, фабрыка ў пошуках уласнага стылю, у тым ліку каларыстыкі, адмыслова намагалася пазбегнуць цёмных колераў, распаўсюджаных у тагачаснай масавай вытворчасці перыяду Вялікай дэпрэсіі ў Еўропе і ЗША — цёмнай бронзы, фіялетавага і чорнага. Магчыма, у тым ліку ўдалы выбар больш жыццярадасных колераў стаў для «Нёмана» канкурэнтнай перавагай і дазволіў прайсці праз крызісныя гады з найменшымі стратамі.

«Нёман» рэдка абазначаў свае вырабы подпісам або таварным знакам. Сёння іх ідэнтыфікуюць найперш на падставе каталога ў чатырох частках, які фірма выдала ў міжваенныя гады (апошняя частка выйшла ў 1937-м). Шкада, аднак, што яны не ахоплівалі найбольш цікавых, як лічаць некаторыя мастацтвазнаўцы, вырабаў апошніх перадваенных гадоў (1937–1939), а таксама большасці чыста экспартнага асартыменту. У тым ліку велізарнай колькасці набораў для алкагольных напояў, попыт на якія рэзка ўзрос пасля скасавання ў ЗША сухога закона (1934 год). «Нёман» здолеў аператыўна зрэагаваць на змену кан'юнктуры і някепска зарабіў на ёй.

## Пацярпеў ад дубінак

Нягледзячы на камерцыйныя поспехі і ў цэлым даволі прыстойныя ўмовы працы на «Нёмане», гарманічнымі адносіны адміністрацыі і рабочых былі не заўжды.
У прыватнасці, вясной – летам 1936 года гуту скаланула хваля страйкаў з патрабаваннем падвышэння заробкаў. Страйкі душыліся самымі рознымі спосабамі, у тым ліку і гвалтоўнымі. Падчас брутальнага разгону страйкоўцаў 13 чэрвеня 1936-га ад паліцэйскіх дручкоў пацярпеў і МіхалЦіткоў: ці то проста трапіў пад раздачу, ці то спрабаваў заступіцца за работнікаў (што з ускосных звестак пра яго асобу падаецца больш верагодным).

## Стрыечны ўнук заснавальніка

Але ў гэты самы час, у 1934-м, памірае Сільвестр Васілеўскі, які займаў пасаду, якую мы сёння назвалі б «мастацкі дырэктар» або «галоўны дызайнер». Гэта ён спраектаваў першыя тры выпускі каталога вырабаў гуты — не толькі самі каталогі, вядома,

але і іх асартымент. Васілеўскі быў адным з галоўных творцаў бізнэс-поспеху.

Тэрмінова спатрэбілася замена, і выбар уладальнікаў трапіў на 25-гадовага Міхала Ціткова (1909–1979), якому было наканавана замацаваць поспех «Нёмана» і развіць яго далей.

Міхал нарадзіўся ў сям'і Яна Ціткова і Францішкі Рокас — пляменніцы заснавальніка гуты Юлія Штоле. Паводле класічных буржуазных звычаяў, уладальнікі стараліся не распыляць сямейную ўласнасць. Жонак бралі, па магчымасці, сярод сваіх. Дзве дачкі Вільгельма Краеўскага выйшлі замуж за сыноў яго партнёра Юлія Штоле: Станіслава — за Фелікса, а Яніна — за Баляслава. Планаваўся і трэці аналагічны шлюб, але перашкодай стала трагедыя: яшчэ адзін малады прадстаўнік роду Штоле загінуў падчас вайны з бальшавікамі ў 1920 годзе. Невядома, кім быў бацька Міхала Ціткова і на якіх падставах ён наблізіўся да клану ўладальнікаў і здолеў увайсці ў сям'ю. Так ці інакш, свежая кроў у выніку яўна не зашкодзіла Штоле-Краеўскім.

У 1931–1934 гадах Ціткоў вучыўся ў віленскім палітэхнікуме. Гэтую ж навучальную ўстанову, дарэчы, ужо ў кароткі передваенны перыяд пад літоўскай уладай, у 1940 годзе, скончыў з дыпломам электрыка Лявон Луцкевіч, сын Антона, — будучы аўтар кнігі «Вандроўкі па Вільні». Іншы вядомы выпускнік гэтай установы — польскі архітэктар Оскар Хансэн.

Планавалася, што Ціткоў будзе працаваць як майстар непасрэдна са шклом, але раптоўна адкрытая вакансія дызайнера змяніла траекторыю яго лёсу. Ён меў нешараговы мастацкі талент, дысцыпліну і пры гэтым вялікую сціпласць. У інтэрв'ю, дадзеным у 1979 годзе незадоўга да смерці, дызайнер прызнаў аўтарства ўсяго пары дзясяткаў вырабаў з больш як 400, змешчаных у 4-й частцы фірмовага каталога кампаніі (1937), а пра іншыя адказваў унікліва.

Але сучасныя мастацтвазнаўцы, грунтуючыся на аналізе формаў, схільныя прыпісваць менавіта яму аўтарства значнай часткі асартыменту другой паловы 1930-х. Ужо праз 30–40 гадоў ▶

## Шкляныя аксесуары

Адным з самых выйгрышных для «Нёмана» тыпаў вырабаў, які ахвотна куплялі нават самыя пераборлівыя заходнія буржуа, былі флаконы і цэлыя наборы для парфумы ў стылі ар дэко — неабходны аксесуар любой прыстойнай тагачаснай жанчыны. Як і ў іншых выпадках, штосьці падглядалася ў французаў, у таго ж славутага дызайнера Рэнэ Ляліка, штосьці ўносілася ад сябе. У выніку атрымліваліся рэчы, якія было не сорамна прадаваць у самой Францыі. Адзін з самых вядомых такіх набораў — артыкул 1321 (1935 год). Верагодна, сам Ціткоў не толькі яго спраектаваў, але намаляваў




і рэкламную выяву, характэрную для стылістыкі 1930-х. У склад набору ўваходзяць: флакон для парфумы, пудраніца, начоўкі для грэбняў і для мыла ды пульверызатар. Абсалютна буржуазны сюжэт, гульні з якім у тагачасным СССР маглі б каштаваць мастаку свабоды, прычым не толькі творчай.




**Сярод найбольш тыповых дэкаратыўных матываў на «нёманаўскіх» вырабах міжваеннага часу** — геаметрычныя ўзоры, асабліва спалучэнні паралельных і перасечаных ліній, промні і колы, стылізаваныя раслінныя арнаменты — хрызантэмы, каласы (выкананыя ў тэхніцы гэтак званага лёгкага шліфавання), галінкі, палявыя кветкі, а таксама ракушкі. А яшчэ матыў, адназначна пазычаны ў Рэнэ Ляліка, — расхінутыя ў выглядзе веера коркі.




Адзін з вырабаў «Нёмана», аўтарства якіх Ціткоў асабіста прызнаў у інтэрв'ю 1979 года, — вось гэтая міса вельмі моднага ў 1930-х разалінавага колеру. Ён атрымліваецца пры дадаванні ў празрыстае шкло мінеральнага селену і раствору соды. Блізкія да гэтага адценні колераў — адны з найбольш частых у фірмовай гаме прадпрыемства.

пасля смерці, ён, не меўшы амаль ніякай вядомасці пры жыцці, у польскіх публікацыях зрабіўся сапраўднай іконай стылю.

## «Агент імперыялізму»

Пасля прыходу Чырвонай арміі і нацыяналізацыі прадпрыемства яго ўладальнікаў арыштавалі, а некаторыя з ключавых супрацоўнікаў, якіх цяжка было замяніць, засталіся працаваць пад новай уладай. Галоўны тэхнолаг Герман Шаль увогуле працаваў яшчэ пару дзясяткаў гадоў: і пад нацыстамі, і пасля вайны, пад «другімі саветамі».

Міхал Ціткоў пратрымаўся каля года і нават удзельнічаў са сваімі новымі распрацоўкамі ў мінскай выставе ў 1940 годзе, але неўзабаве яго ўсё ж выкрылі як «агента імперыялізму» і арыштавалі. Можна меркаваць, што ў вачах груба-матэрыялістычнай улады ягоны талент і кампетэнцыі, у параўнанні з галоўным тэхнолагам, мелі непараўнальна меншую, «усяго толькі» эстэтычную, вартасць.

Пасля некалькіх месяцаў зняволення ў турме ў Ноўгарадзе Ціткоў быў вызвалены ў сувязі з фармаваннем арміі генерала Уладзіслава Андэрса і накіраваны ў школу падафіцэраў. А потым ён прайшоў увесь баявы шлях гэтай вайсковай адзінкі: праз Іран, Палесціну, Паўночную Афрыку да бітвы пад італьянскім Монтэ-Касіна.

Праз пэўны час пасля вайны Ціткоў вярнуўся (калі гэтак можна сказаць, бо ягоныя родныя мясціны ўжо былі часткай БССР) у Польшчу і пасяліўся ў Ніжняй Сілезіі, у горадзе Свідніца, дзе да пенсіі працаваў на заводзе аўтаэлектрыкі *Elmot*: з 1947 года начальнікам мантажу, а з 1950-га на працягу амаль 10 гадоў — загадчыкам вытворчасці. Яго кароткая, але яскравая кар'ера дызайнера, якую польскія мастацтвазнаўцы лічаць адной з самых плённых у гісторыі мастацкага шкла ўсёй нашай агульнай прасторы, працягнулася ўсяго каля 6 гадоў і была гвалтоўна перапыненая на піку росквіту. І, на жаль, яна дагэтуль амаль невядомая на радзіме. Нават фотаздымак Міхала Ціткова знайсці вельмі цяжка. Свідніцкія краязнаўцы, праўда, нядаўна апублікавалі маленькае фота, захаванае ў аддзеле кадраў завода, але і яно было такой кепскай якасці, што хоць нейкае ўяўленне пра тое, як выглядаў славуты дызайнер, магчыма скласці толькі пасля яго дадатковай апрацоўкі.






**Калекцыянеры збіраюць толькі даваенны варыянт вазы 1816.** Спрошчаны савецкі іх не цікавіць. Ці вы здагадаецеся, каторы тут даваенны, а каторы — савецкі?

## Круты разварот

На сучасным сайце завода «Нёман» пра ўвесь бліскучы міжваенны перыяд ягонай гісторыі сказана толькі пара глухіх слоў, а імя Ціткова не згадваецца ўвогуле. Асаблівы абсурд сітуацыі ў тым, што ацалелыя даваенныя прэс-формы пасля аднаўлення вытворчасці, істотна пашкоджанай савецкімі партызанамі, працягвалі выкарыстоўвацца на

прадпрыемстве аж да пачатку 1960-х. Да таго часу яны ўжо на 20 гадоў адставалі ад сусветнай моды, што, зрэшты, не мела аніякага значэння ў вачах тых, хто вызначаў палітыку прадпрыемства.

Вось толькі адзін характэрны прыклад — ваза з артыкулам 1816. Даваенны выраб афарбаваны ў тапазавы колер і стварае эфект дадатковай глыбіні праз майстэрскае выкарыстанне матавага шліфавання. Савецкім тэхнолагам было ўжо яўна не да такіх тонкасцяў. Зыркі блакітны колер — блізкі да таго, у які даваенны «Нёман» афарбоўваў ізалятары для электрычнага дроту (была ў яго і такая прадукцыя) — стаў характэрным для яго новай


Гута ў Бярозаўцы выраблялa не толькі посуд і інтэр'ерныя рэчы, але і такія вось **ізалятары для тагачаснай электраправодкі**.

PINTEREST.COM

прадукцыі. Не стала і гульні на кантрасце матавых і гладкіх элементаў паверхні.

Гэтая ваза выдатна ілюструе, чым была і чым пасля вайны стала знакамітая гута ў Бярозаўцы. ◆












# Тантон-макуты

## *Papa Doc* Дзювалье, яго сілавікі і што стала з іх краінай

**Гаіці — самая бедная краіна Амерык. І гэтая стабільная беднасць — родам з дыктатуры бацькі, а пасля і сына Дзювалье. Піша Андрэй Акушка.**

Гаіці — гэта ўзор таго, што прыгожыя тэорыі часам вядуць да кашмарнай практыкі.

Гаіці — гэта феномен са знакам мінус.

Побач магутныя ЗША, гіганцкі рынак. Побач — краіны Цэнтральнай Амерыкі і Карыбаў, розныя па сваёй праблемнасці і заможнасці, але ўсё ж дэмакратыі. Але на Гаіці ўсё гэта мала паўплывала. Яна адзіная з краін рэгіёна, якая належыць да ліку найбяднейшых у свеце, дзе адсталасць нібы закансервавалася. Астатнія ў тым спісе — краіны Афрыкі і Азіі.

У тэорыі, развіццё краін трэцяга свету тармазіў каланіялізм. Але Гаіці першая на сваім кантыненце каланіяльную залежнасць скінула. Была Гаіцянская рэвалюцыя (1791–1804), іскра для яе прыляцела з метраполіі — ад Французскай рэвалюцыі. І перамагла яна, бо Парыж быў заняты ўнутранымі пытаннямі. Гаіці стала першай краінай, дзе перамаглі рабы,

было адменена рабства. Аднак тое вызваленне не зрабіла краіну лідарам.

Многія ў нас вераць у карысць «моцнай рукі» на этапе станаўлення дзяржаўнасці. Не будзем браць XIX стагоддзе — тады Гаіці кіравалі нават чорныя «імператары». Возьмем нядаўняе XX: бацька і сын Дзювальe кіравалі краінай жорсткімі метадамі 29 гадоў. Гаіці пры іх кіраванні стабільна і ўпэўнена апусцілася на тое самае апошняе месца ў Амерыках, з якога не можа падняцца дагэтуль.

Побач быў кубінскі камуністычны эксперымент. Побач былі нацыяналістычная дэмакратыя Мексікі, ідылічная, без арміі, дэмакратыя Коста-Рыкі, бананавыя — залежныя ад ЗША — рэспублікі і дыктатуры, але менавіта рэжым Дзювальe стаў адзіным у сваім родзе. Чаму ён, такі, на погляд назіральніка, абсурдны і карумпаваны, трымаўся так доўга?

## Расавае пытанне

Доктар Франсуа Дзювальe прыйшоў да ўлады на хвалі дэкаланізацыі нумар два. Чорная большасць гаіцян перастала мірыцца з дамінацыяй меншасці — мулатаў.

Мулаты — гэта нашчадкі змяшаных шлюбаў, белых з чорнымі. У выпадку Гаіці — нават не столькі шлюбаў, колькі сувязяў белых мужчын з чорнымі жанчынамі. Менавіта яны, выхадцы з асяроддзяў, дзе кантакты з «белым светам» і яго ўплывамі былі найбольш інтэнсіўнымі, паступова канцэнтравалі багацце і ўладу.

Дзювальe прыйшоў у палітыку ў 1946 годзе. Тады Дзюмарсэ Эсцімэ выйграў прэзідэнцкія выбары, эксплуатуючы расавае пытанне. 39-гадовы Дзювальe быў прызначаны міністрам аховы здароўя новага ўрада.

У 1950-м вайскоўцы адхілілі Дзюмарсэ ад улады, новым прэзідэнтам стаў генерал Поль Маглуар. Праціўнікі новай улады сышлі ў падполле, і Франсуа Дзювальe не стаў выключэннем. У 1954-м моцны ўраган разбурыў многія гарады і вёскі, пачаліся ▶

## Рэспубліка Гаіці

**Насельніцтва** больш за 11 мільёнаў чалавек (на 2 мільёны больш, чым у Беларусі).

**Тэрыторыя** 28 тыс. кв. км (у восем разоў меншая, чым у Беларусі).

**Востраў Гаіці** быў адкрыты Хрыстафорам Калумбам у 1492 годзе. З канца XVII стагоддзя заходняя яго частка стала французскай калоніяй. У 1804-м пасля паўстання рабы-афраамерыканцы і мулаты фізічна знішчылі каланізатараў і стварылі Рэспубліку Гаіці. Яна стала першай краінай Лацінскай Амерыкі, якая дамаглася незалежнасці. Нейкі час яна кантралявала ўвесь востраў, але ў 1844-м іспанамоўны ўсход аддзяліўся і стаў Дамініканскай Рэспублікай. З 1915 па 1934 гады Гаіці знаходзілася пад акупацыяй ЗША. Пасля падзення дыктатуры Дзювальe ў 1986 годзе Гаіці з пераменным поспехам спрабуе збудаваць дэмакратыю. У 2010-м перажыла страшэнны землятрус з эпіцэнтрам непадалёк ад сталіцы, горада Порт-о-Прэнс.

**Валавы ўнутраны прадукт на душу насельніцтва** прыкладна ў 11 разоў меншы, чым у Беларусі. Каля мільёна грамадзян працуюць за мяжой.

**Дзяржаўная мова** французская. Гэтым краіна вылучаецца сярод пераважнай большасці іншых лацінаамерыканскіх дзяржаў, дзе гавораць у асноўным па-іспанску або (Бразілія) па-партугальску.

**Клімат Гаіці** трапічны, з вялікай колькасцю ападкаў. На поўначы краіны знаходзіцца знакаміты пірацкі востраў Тартуга.




**Гаіці мяжуе з Дамініканскай Рэспублікай** — востраў падзелены па моўным прынцыпе. Захад у свой час каланізавалі французы, а ўсход — іспанцы.




**«Вуду прэзідэнт» Францауа Дзювалье** ў маі 1957-га.

### Францауа Дзювалье (1907–1971)

нарадзіўся ў Порт-о-Прэнсе. У 1934-м скончыў сталічны ўніверсітэт па спецыяльнасці «медыцына». У наступныя гады працаваў у мясцовых шпіталях, а падчас Другой сусветнай вайны стажыраваўся ва Універсітэце Мічыгана. З 1943-га ўдзельнічаў у праграме барацьбы з трапічнымі хваробамі на Гаіці. Афіцыйная версія сцвярджала, што тады доктара Дзювалье і сталі называць *Papa Doc*, Тата Док («док» — скарочанае ад «доктар»). Але праціўнікі дыктатара казалі, што мянушку прыдумаў ён сам.

Падчас амерыканскай акупацыі Гаіці (1915–1934) Дзювалье захапіўся ідэямі «негрыцюда» — ідэалогіі «негрыцянства».

З 1957 па 1971 год кіраваў Гаіці, пабудаваўшы абсалютную дыктатуру, якая абапіралася на верную яму асабіста сілавую структуру — тантон-макутаў.

Дзювалье абвясціў сябе пасланцам найвышэйшых сіл, духам смерці Баронам Суботай, Сонцам Гаіці і Уладаром Зомбі. Нават на афіцыйных мерапрыемствах ён гаварыў у нос — гаіцяне верыць, што дух смерці гамзаты. У шафе ў яго кабінеце стаяла заспіртаваная галава аднаго з яго палітычных праціўнікаў. А ў палацы існаваў спецыяльны пакой для катаванняў.

▶ праблемы ў эканоміцы, а з імі — масавыя дэманстрацыі. Праз два гады Маглуар збег з краіны, а Дзювалье зрабіў галоўны крок у жыцці — высунуў сваю кандыдатуру на пасаду прэзідэнта.

Ён і яго паплечнік генерал Кебро здолелі пераканаць усёмагутныя ў тым рэгіёне ў той час ЗША, што іх праціўнікі звязаныя з СССР.

Перад выбарамі ўладу ўзяла хунта на чале з Кебро. Яна арганізавала выбары так, што Францауа перамог з вялікім адрывам.

Цяжка сказаць, колькі людзей на самай справе прагаласавалі за новага лідара на тых першых, адносна свабодных выбарах. Тата Док абяцаў выцягнуць людзей з беднасці. Ён запэўніваў, што спыніць тэракты (гэта было няцяжка: многія з іх падстройвалі самі сілавікі). Разам з тым Дзювалье агрэсіўна выказваўся пра камунізм. Усё разам гэта і называлася палітыкай дзювальерызму.

### Пераўтварэнне ў «нядобрага доктара»

22 кастрычніка 1957-га Дзювалье стаў прэзідэнтам

Гаіці. Яго сябар Клеман Барбо ўзначаліў таемную паліцыю, а Кебро — армію. Першае, што зрабіў новы кіраўнік, — змяніў патэнцыйна нелаяльных чыноўнікаў, асабліва мулатаў. Усе партыі, акрамя адной, забаранілі. Тое самае чакала прафсаюзы і студэнцкія арганізацыі. Палітычныя праціўнікі Таты Дока былі забітыя ці збеглі за мяжу. Перaтасавалі і вайскоўцаў, нават Кебро ў сакавіку 1958-га знялі з пасады і адправілі паслом. А пасля вяртання на радзіму ён хутка памёр — магчыма, ад атруты.

Захапіць уладу было лягчэй, чым утрымаць. У красавіку 1958-га апаненты Дзювалье спрабавалі яго ўзарваць. Хутка дзясятка беглых вайскоўцаў высадзілася на востраве і пайшла на сталіцу. Іх удалося разбіць. А прапаганда пасля гэтага ўпершыню загаварыла аб прэзідэнце як пра «бацьку нацыі».

Выступы супраць Дзювалье навялі яго на думку, што




**Тата і мама Докі.** 1957 год.

патрэбныя новыя сілавыя структуры, якія б дапаўнялі армію і паліцыю і былі абсалютна верныя таму, хто іх стварыў. Так нарадзіліся тантон-макуты.

Афіцыйна яны называліся «Добраахвотная міліцыя нацыянальнай бяспекі».

Набіралі іх з небагатых грамадзян, для якіх служба ў сілавых структурах была вяршыняй магчымасцей. Патрабаванні да адукацыі былі мінімальныя, інтэлектуальныя здольнасці, адпаведна, таксама. Патрабаваліся фізічная сіла і дысцыпліна. Задача была адна — трымаць насельніцтва ў падпарадкаванні, любымі метадамі.

«Быкам», якія ішлі ў тантон-макуты, таксама многага было не трэба: даход трохі большы, чым мелі іх бацькі. І ўлада. Такая прыемная штука, як улада. Калі цябе баяцца, калі ты — моцны чалавек.

Краіна бедная, таму дружыннікам спачатку не выдавалі нават формы. Але людзі на месцы лёгка іх пазнавалі: каўбойкі, чорныя акуляры, джынсавыя курткі, мачэтэ, зброя.

Калі неўзабаве ў краіне сталі знікаць людзі, праціўнікі Дзювалье, да «дружыннікаў» прыляпілася — можа быць, яны нават самі так сталі называць сябе — назва «тантон-макуты».

Згодна з мясцовымі паданнямі, тантон-макут, «дзядзька з мяшком», — страшная істота, якая ходзіць па дамах і забірае непаслухмяных дзяцей. Кідае іх у мех, заносіць да сябе, а пасля з'ядае іх на сняданак. Менавіта такая роля — страху для кожнага — была адведзеная тантон-макутам.

Дзювалье мала зважаў на тое, што прынята ці не прынята ў заходнім, «цывілізаваным» свеце. Ён дзейнічаў метадамі, зразумелымі ў сваім ▶

У 1803 годзе Францыя паслала на Гаіці ваяваць «польскі легіён». Але воіны з Рэчы Паспалітай масава дэзерціравалі. Гэта ўратавала іх жыцці, калі ў 1804 годзе пераможныя рабы вынішчылі пад корань усё белае насельніцтва. Для легіянераў зрабілі выключэнне. На карціне з Музея Войска Польскага: бітва за Сан-Дамінга.





Райская прырода Гаіці.

SHUTTERSTOCK.COM, BY IREN KEY

грамадстве. А грамадства гэтае, малапісьменнае, забітае, разумела сілу. Сілу ён ужываць не саромеўся. А яшчэ дыктатар навучыўся апраўдваць сілу з дапамогай вераванняў, незразумелых еўрапейцам, але невыкараняльных на востраве. Гэта было вуду — вераванні, якія былі прынесеныя рабамі яшчэ з Афрыкі і перажылі мудрагелістыя трансфармацыі пад уплывам каталіцызму і назірання за белымі панамі.

Дзювалье ствараў сабе рэпутацыю чалавека выключнай сілы, выключных здольнасцей — нават звышнатуральных. Для еўрапейцаў гэта было смешна: якія там здольнасці, які там святар вуду — банальны ж дыктатар, але на Гаіці — спрацоўвала.

Тантон-макуты атрымалі фактычную недатыкальнасць. Іншыя структуры ўлады не мелі права іх чапаць. Гэта былі «людзі прэзідэнта». І толькі ён і непасрэдныя камандзіры мелі права караць іх ці звальняць. І ўсё, больш нічога не трэба — астатняе яны дабіралі сабе самі. Даілі мясцовых рамеснікаў, абкладалі паборамі сем'і «бунтаўнікоў». А з часам, з выслугай гадоў, сядалі на даходныя пасады ў дзяржапараце ці няхітрым гаіцянскім бізнэсе.

Спробы паскардзіцца на «дружыннікаў» у суд канчаліся кепска. Можна ж і знікнуць назаўсёды: інтэрнэту тады не было, хто што даведаецца за краем твайго гарадка.

Эфектыўнасць тантон-макутаў была такая, што Дзювалье змог цяпер без рызыкі для сябе арыштаваць нават кіраўніка ўласнай спецслужбы і сябра Барбо. Гэта здарылася ўжо ў 1959-м.

У дыктатараў сяброў не бывае. Прынамсі сяброў, роўных сабе.

### Росквіт дзювальерызму

Летам 1959-га дыктатуру чакала чарговае выпрабаванне — спроба рэвалюцыі. Зімой рэвалюцыя перамагла на Кубе, а гэта ж суседні востраў. Дзювалье зноў перамог — не без дапамогі замежных інструктараў. Ад ЗША Дзювалье штогод атрымліваў да 12,5 мільёна долараў (больш за 100 мільёнаў па сучасных цэнах), каб не дапусціць камуністаў да ўлады. Падтрымка зменшылася пасля ўезду ў Белы дом Джона Кенэдзі, але аднавілася пры яго наступніку Ліндане Джонсане.

Далей — болей.

У чэрвені 1964-га прайшоў рэферэндум аб прызнанні Дзювалье пажыццёвым прэзідэнтам. На бюлетэнях быў толькі адзін варыянт: «Згодны». Нязгодныя самі павінны

былі напісаць «Супраць».
За ходам рэферэндуму сачылі назіральнікі — тантон-макуты. У выніку 2,8 мільёна аказаліся «згодныя» і толькі 3 тысячы выказаліся супраць.

Далей Дзювалье звярнуў увагу на рэлігію: у 1966-м ён запатрабаваў сабе права прызначаць каталіцкіх біскупаў. Ватыкан атрымаў ультыматум — калі ён надалей жадае прасоўваць тут каталіцызм, то трэба мяняць малітвы і падпарадкавацца дыктатару. І Святы Пасад саступіў. Хутка ў малітвах на Гаіці загучала новая версія «Ойча наш», дзе ў дадатак да Пана Бога з'явіўся Тата Док. А ў храмах вуду партрэты Дзювалье віселі на алтарах.

**Гаіцянскае вуду**
фактычна рэлігія большасці насельніцтва Гаіці, хоць фармальна такім лічыцца каталіцызм. Вудуісты лічаць, што ёсць адзін бог, якога не цікавяць справы людзей. Апошнімі займаюцца шматлікія духі-лоа. Гэтыя істоты прадстаўляюць розныя сілы (дабро, зло, здароўе, смерць), а таксама памерлых родзічаў. Лоа могуць уваходзіць у людзей падчас рытуалаў, якія звязаныя з танцамі і маюць сэксуальны сэнс. Святары вуду (гунганы і мамбо) выклікаюць духаў, каб прадказваць будучыню і лячыць людзей. Ведзьмакі (бакоры) карыстаюцца таксама чорнай магіяй, у тым ліку каб праклінаць ворагаў.
Франсуа Дзювалье сцвярджаў, што ён наймагутнейшы вядзьмак, і менавіта ён правёў рытуал, які прывёў да смерці амерыканскага прэзідэнта Джона Кенэдзі.
З гэтым культам звязаны і тэрмін «зомбі», папулярны ў фільмах жахаў і камп'ютарных гульнях. Згодна з міфалогіяй, зомбі — гэта жывыя мерцвякі, гатовыя паслухмяна выконваць волю свайго гаспадара. Праўда, з-за няўмення думаць яны прыдатныя толькі да простых заданняў, накшталт працы на плантацыях.

## На бюлетэнях рэферэндуму быў толькі адзін варыянт: «Згодны»

Дыктатура зарабляла нават на крыві — у прамым сэнсе слова. Грамадзян прымушалі здаваць кроў, якую куплялі ЗША.

Пры гэтым большасць насельніцтва выжывала ў неверагоднай беднасці.

### Дэмантаж дыктатуры

Дыябет скасіў «сімвал Гаіці» адносна маладым. У 1971-м Франсуа Дзювалье было ўсяго 64 гады.

**Барон Субота**

Дзювалье ствараў сабе імідж аднаго з духаў вуду — Барона Суботы. Прапаганда растыражыравала карцінку: Дзювалье сядзіць, а Ісус Хрыстос стаіць, паклаўшы яму руку на плячо. Дзювалье абвясціў сябе «істотай нематэрыяльнай», а СМІ называлі яго «сімвалам Гаіці».

На рэферэндуме 100% грамадзян падтрымалі перадачу ўлады Дзювалье-малодшаму. Так 19-гадовы Жан-Клод стаў самым маладым прэзідэнтам у гісторыі.

Новы кіраўнік Гаіці правёў касметычныя рэформы, амніставаў палітвязняў і дазволіў крытыкаваць сябе ў СМІ. Вось толькі падзелу ўладаў не з'явілася, а тантон-макуты нікуды не дзеліся. Сам Жан-Клод не вельмі давяраў «зомбі» свайго таты, таму стварыў асабістую арганізацыю — «леапардаў». Іх было меней, чым тантон-макутаў, аднак «леапарды» былі добра падрыхтаванымі прафесіяналамі. ▶



SHUTTERSTOCK.COM, BY RAFAL CICHAWA

Каталіцызм на Гаіці сплёўся з культам вуду.

▶ У 1985-м Жан-Клод правёў чарговы рэферэндум — аб пашырэнні сваіх паўнамоцтваў. «За» налічылі 99,98%. Але прайшла літаральна пара месяцаў, і на вуліцы выйшлі студэнты — іх разагналі, некалькі чалавек загінулі. Толькі выступленні працягвалі пашырацца, а ў студзені 1986-га ў сталіцы прайшла настолькі вялікая дэманстрацыя супраць Бэбі Дока




**Тантон-макуты** былі гаспадарамі гаіцянскіх вуліц.

(так у народзе звалі маладога Дзювалье), што Вашынгтон зразумеў: пара мяняць.

Так Дзювалье схілілі да ад'езду за мяжу тыя, хто яго доўгія гады цярпеў і падтрымліваў, — амерыканцы. Амерыка сама выкарыстоўвала аргумент дэмакратыі і правоў чалавека ў змаганні з Савецкім Саюзам, і гэты рэжым пад бокам яе дыскрэдытаваў. Часы змяніліся, сям'я Дзювалье — не.

Сілай, якая падтрымала дэманстрантаў, на Гаіці стала

## Мадам Макс Адольф

Гэтую жанчыну, якая нарадзілася ў 1925 годзе, звалі Разалі Боске. Як і для некаторых іншых гаіцянак, служба ў шэрагах «зомбі Таты Дока» стала для Разалі адзіным шанцам зрабіць кар'еру. Нават калег яна здзіўляла сваёй жорсткасцю, уражаны быў і Дзювалье. Пабачыўшы, што жанчына гатовая па яго загадзе забіць любога, ён прызначыў яе наглядчыцай у турму форта Дзіманш.
Боске патрабавала ад падначаленых, каб яе звалі мужчынскім імем — Макс Адольф. Гісторыкі падлічылі, што на яе руках кроў 2000 чалавек. За свае «подзвігі» атрымала мянушку Д'ябаліца. Хутка была прызначаная кіраўніком жаночай часткі тантон-макутаў і стала правай рукой дыктатара.
Пасля смерці Франсуа Дзювалье яна, праўда, страціла частку паўнамоцтваў. З 1972-га была мэрам Порт-о-Прэнса, дзе пачала будаўніцтва сучаснай каналізацыі (першай у краіне). На пачатку 1986-га зразумела, што тантон-макутаў чакаюць не лепшыя часы і многіх з іх заб'юць пасля змены ўлады. У лютым таго ж года збегла за мяжу, знайсці яе так і не здолелі. Дачка Разалі зараз жыве ў Гаіці і працуе ў Міністэрстве моладзі і спорту. Жанчына сцвярджае, што нічога не ведае пра лёс маці.




**Рынак Порт-о-Прэнса.**

армія — як і ў Румыніі трыма гадамі пазней. У гэтым пастка дыктатараў: без арміі трымацца немагчыма, бо замежныя пагрозы такі існуюць, адна паліцыя няздольная абараніць краіну. А армія, якая ні ёсць, а ўмее страляць.

Амерыканцы настойліва парэкамендавалі сям'і Дзювальє пакінуць краіну. Армія такую параду падтрымала. Бэбі Док паўпіраўся яшчэ тыдні з два, але такі адолеў дарогу ў аэрапорт імя свайго бацькі.

Дзювальє ўцяклі, але тантон-макуты засталіся.

А іх ненавідзелі настолькі, што падчас рэвалюцыі многіх з іх проста забілі на месцы. Іншыя збеглі з краіны. А большасць была вымушаная прыстасоўвацца да новай улады, у якой запраўляла ўжо армія.


SHUTTERSTOCK.COM, BY KSK IMAGING

**Мулаты і афраамерыканцы — дзве асноўныя расы на Гаіці.**

Напрыклад, новая партыя «Фронт за развіццё і прагрэс Гаіці» амаль цалкам складаўся з былых тантон-макутаў. Гэтая паўбандыцкая арганізацыя яшчэ падтрымала ваенную хунту, што кіравала краінай з 1991 па 1994 год. Пасля звяржэння хунты «Фронт» быў ужо заканадаўча ліквідаваны. ◆

**Жан-Клод Дзювальє (1951–2014)**
абяцаў рэформы, але фактычна пры ім толькі разраслася карупцыя. Ажаніўся ён з разводзёнкай-мулаткай з багатага роду. Гэта ішло ўразрэз з палітыкай яго бацькі, які рабіў стаўку на «чыстых» чарнаскурых.

На сваё вяселле ў 1980-м 28-гадовы дыктатар патраціў неверагодныя для Гаіці 2,5 мільёна долараў! Разам з жонкай яны каталіся па краіне, раздавалі прадукты і адзенне. Пры гэтым клан Дзювальє і сям'я жонкі захапілі прыбытковыя сферы эканомікі.


WIKIMEDIA COMMONS

**Жан-Клод Дзювальє з жонкай Мішэль** едуць у аэрапорт, каб пакінуць Гаіці. 1986 год.

Ад улады Дзювальє-малодшага адхіліла армія — пасля двух з паловай месяцаў народных пратэстаў у 1986-м.
У наступныя гады жыў у Францыі, хоць бежанцам яго не прызналі. Частка яго банкаўскіх рахункаў была замарожаная пасля суду, які ў 1988-м запатрабаваў вярнуць 500 мільёнаў долараў, скрадзеных у народа. Жонка былога дыктатара, Мішэль Бенэт, у 1990 годзе дамаглася разводу і атрымала большую частку сямейнай маёмасці.
У 2006-м Жан-Клод Дзювальє спрабаваў абрацца прэзідэнтам Гаіці на выбарах, але не быў зарэгістраваны ў якасці кандыдата.
У студзені 2011-га, пасля землятрусу, упершыню за 25 год выгнання з'явіўся на радзіме. Праз два дні яго арыштавалі і высунулі абвінавачванні ў карупцыі і парушэнні правоў чалавека. Знаходзіўся пад хатнім арыштам, да канца судовага працэсу не дажыў, бо памёр ад сардэчнага прыступу.

SHUTTERSTOCK.COM, BY STUDIO BARCELONA

# Суп жуму

## Самая вядомая страва гаіцянскай кухні

Гэта без перабольшання нацыянальны суп. Яго традыцыйна ядуць 1 студзеня. І не таму што гэта Новы год, а таму што гэта Дзень незалежнасці Гаіці.

Як расказвае традыцыя, менавіта жуму (націск на другі склад) прыгатавала і выставіла на стале на вуліцы перад домам жонка Жан-Жака Дэсаліна, першага кіраўніка (імператара, між іншым!) незалежнай Гаіці ў дзень абвяшчэння незалежнасці краіны.

Чаму менавіта жуму? Бо да рэвалюцыі гэты суп варылі выключна для гаспадароў-рабаўласнікаў. Рабы есці яго не мелі права, гэта была для іх страва недасяжная, страва мары.

Гатуюць жуму з антыльскага гарбуза. Само слова «жуму» — гэта крэольскі варыянт французскага «жіромон», прадаўгаваты гарбуз. Але антыльскі, у прынцыпе, не моцна розніцца ад тых супавых гарбузоў (драбнейшых, ружова-зеленкаватых), якія вырошчваюць цяпер у нас.

У каструлі, лепш з тоўстым дном, доўга тушыцца гарбуз, кавалкі ялавічыны, бульба, бананы-плантаны (якія патрабуюць варкі ці смажання), а таксама морква, сельдэрэй, цыбуля, капуста... Карацей, што ў доме заляжалася, з таго і варыце. Бананаў-плантанаў у нас не расце і не прадаецца, іх нармальна замяняе бульба, бо плантаны багатыя на крухмал, яны даюць сытнасць.

Сутнасць супу — гэта ўсё ж гарбуз + ялавічына, можаце вараны гарбуз перабіць у блендары ў суп-пюрэ, а тады дадаваць ужо гародніну, якую маеце пад рукой, а пад канец — абавязкова макарону ці вермішэль, зеляніну і спецыі (часнок, чорны перац, каенскі перац, пятрушка, чабор, гваздзік).Як варыянт — можна прыварваць гарбуз у асобнай каструлі і толькі пасля выліваць яго пюрэ ў мяса. А можна і не малоць гарбуз у пюрэ, проста трохі размяць яго ў каструлі. ◆

**Сяргей Гезгала**

## Інгрэдыенты

! Улічыце, што жуму гатуецца па прынцыпе «кладзём усё, што маем у хаце». Чаго не маем — таго не кладзём. Галоўнае тут — гарбуз, і ён варыцца з ялавічынай, а далей у суп дадаюць гародніну і прыправы на ваш густ і якія ёсць у вас. У максімальным варыянце інгрэдыенты наступныя.

- грамаў 300 ялавічыны парэзаць на кубікі
- трохі ялавічных костак, каб варыліся ў супе для навару
- шклянка воцату, каб вымачыць ялавічыну
- літры тры булёну ялавічнага (але калі няма, то няма — не страшна, замяняйце вадой)
- слоік гаіцянскай прыправы *Epis* або замяніць яе сумессю часнаку, перцу, лайму, пятрушкі, цыбулі і сезоннай зялёнай цыбулі
- 3 чайныя лыжкі свежага соку лайма ці мякаць аднаго лайма
- соль
- 1 сярэдняга памеру гарбуз
- бульба, парэзаць супавымі кавалкамі
- морква, парэзаць супавымі кавалкамі
- капуста — калі галоўка вялікая, то чвэрць галоўкі, калі малая, то палова, шынкаваць тонка
- 1 цыбуліна
- 1 сцябліна сельдэрэю, парэзаная вялікімі кавалкамі
- 1 цыбуліна-парэй, парэзаць дробна
- 2 малыя бручкі ці рэпы, парэзаць дробна
- 1 карыбскі чырвоны перац
- макарона ці вермішэль
- 6 гваздзікоў
- часнок
- чорны перац, лепш свежамелены
- каенскі перац
- калі ёсць, то зялёная пятрушка
- калі ёсць, то цім'ян (чабор)
- дзве чайныя лыжкі аліўкавага алею
- трохі масла
- падаюць з крутонамі ці сухарыкамі

Патрымайце мяса ў воцаце з паўгадзіны, пасля спаласніце вадой.

Замарынуйце мяса ў гаіцянскай прыправе *Epis* або ў алеі, запраўленым спецыямі (сумессю часнаку, перцу, пятрушкі, цыбулі і сезоннай зялёнай цыбулі), дабаўце сок, мякаць аднаго лайма і соль. Марынаваць не менш за 30 хвілін, а лепш цэлую ноч.

Выкладзіце замарынаваную ялавічыну і ялавічныя косткі ў булён ці ваду і тушыце з гадзіну, пакуль мяса не пачне мякчэць.

Дадайце гарбуз у каструлю паверх мяса, накрыйце накрыўкай і вярніце на малы агонь.

Варыць гарбуз, пакуль ён не стане мяккім, 20–25 хвілін.

Як варыянт — можна прыварваць гарбуз у асобнай каструлі і толькі пасля выліваць яго пюрэ ў мяса.

Змякчэлы гарбуз перабіце ў блендары ў пюрэ. Вярніце пюрэ ў каструлю, дадайце яшчэ каля літра булёну ці вады, перамяшайце і давядзіце да кіпення.

Можна і не малоць гарбуз у пюрэ, проста трохі размяць яго ў каструлі, але гарбуз смачнейшы, калі перацёрты ў пюрэ.

Дадайце бульбу, моркву, капусту, цыбулю, сельдэрэй, парэй, рэпу ці бручку, карыбскі перац, гваздзік, часнок, соль, чорны і чырвоны перац і рэшту булёну ці вады. Варыць на малым агні, не накрываючы каструлі, пакуль гародніна не зварыцца, а суп загусне, 30–35 хвілін.

Солі і ялавічына, і гародніна любяць нямала.

Дадайце макарону і варыце яшчэ хвілін 10, да гатоўнасці макароны.

Дадайце масла, лыжку воцату, пятрушку, чабор, яшчэ прыпраў (часнок, перцы) на смак.

Падаюць суп з крутонамі, ці падсушаным хлебам, ці сухарыкамі.

Такі суп можна і замарожваць у запас.





**Інтэр'ер Свята-Раства-Багародзіцкай царквы.** Жанчыны з Дарапеевіч кажуць: «У нашай царкве так хораша, заходзіш – быццам у рай трапіў!»

ФОТА СЯРГЕЯ ПЛЫТКЕВІЧА, PLANETABELARUS.BY

# «Настояшча рэвалюцыя була!»

## Як жыхары вёскі Дарапеевічы ў Маларыцкім раёне адстаялі сваю царкву

**Дзяржава вырашыла ператварыць іх царкву ў склад. Тады яны не пайшлі ў калгас на працу, піша Іна Хоміч.**

1964 год. У Заходняй Беларусі ідзе кампанія па закрыцці храмаў, якіх тут, на думку камуністаў, занадта шмат.

У даволі вялікім па заходнепалескіх мерках — прыкладна 200 двароў — сяле Дарапеевічы Маларыцкага раёна мясцовая Багародзіцкая царква таксама ўжо стаіць закрытая. Фармальную прычыну для гэтага мясцовым уладам было знайсці лёгка: дастаткова было паставіць працоўны дзень на вялікае свята, каб палова вёскі ўчыніла прагул. Пасля гэтага дзяржаве засталося толькі аб'явіць царкву шкоднай для сацыялістычнага будаўніцтва і выслаць з вёскі святара.

Ну а праблему таго, што вяскоўцы хадзілі цішком маліцца ў царкву і без бацюшкі, мусіла вырашыць пастанова райвыканкама аб пераўтварэнні культавага месца ў калгасны склад зерня.

Такое шмат дзе практыкавалі (гл. артыкул Сцяпана Лютых у № 8/2020 «Нашай гісторыі»), і за два гады ад пачатку актыўнай кампаніі ўлады ўжо добра

### Дарапеевіцкая царква

Свята-Раства-Багародзіцкая царква ў Дарапеевічах — помнік драўлянага дойлідства XVII стагоддзя. Першапачаткова ўніяцкая, яна ўзведзена ў барочным стылі ў 1671 годзе ў выглядзе прамавугольніка са званіцай на захадзе і адной невялікай вежачкай. У пачатку XX стагоддзя яе крыху перабудавалі, дадаўшы апсіду, і з таго часу кардынальных зменаў будынак не зазнаваў.
Важная ў плане гістарычнай спадчыны не толькі архітэктура гэтай царквы, але і яе ўнутранае ўбранне. Асабліва каштоўныя іконы, некаторыя з якіх захоўваюцца тут ад заснавання. Да XVII стагоддзя адносіцца абраз «Спас Пантакратар», да мяжы XVII–XVIII стагоддзяў — абраз «Нараджэнне Багародзіцы». 5 старых абразоў з царквы скралі ў савецкі час.
Адметна, што хоць царква называецца ў гонар Багародзіцы, мясцовым святком, то-бок галоўным прыходскім святам, у Дарапеевічах лічыцца дзень святога Панцеляймона, які адзначаецца 9 жніўня. Цяпер да гэтага дня прымяркоўваюць таксама дзень вёскі.

адладзілі алгарытм дэсакралізацыі храмаў. У што б ні ператваралася царква, з яе спачатку трэба было вынесці прадметы культу, якія часта ўяўлялі сабой гісторыка-культурную каштоўнасць. Праўда, вывозілі іх не столькі па гэтай прычыне, колькі каб проста не мулялі вочы і не нагадвалі былым прыхаджанам пра першапачатковае прызначэнне будынка.

Выканаўцамі часта вызначалі навучэнцаў сельскагаспадарчых вучэльняў. Тады гэта набывала выгляд не акцыі КГБ, міліцыі ці органаў улады, а «ініцыятывы знізу». Пры гэтым студэнтаў суправаджала начальства і тая самая міліцыя, каб спыняць любыя спробы супраціву.

Каб вернікі менш перашкаджалі «прагрэсу», час аперацыі планавалі так, каб яна прыпадала на гарачы працоўны час (жніво, сенакос, капанне бульбы, калі людзі ў полі) або на цёмны час сутак.

У Дарапеевічы прыехалі ў ліпеньскае жніво, ды яшчэ і зацемна. Нішто не прадказвала, што з вывазам рэліквій з'явяцца нейкія праблемы.

### «Людочкі, гвалт!»

Старая Еўдакія Ярманюк, як і належыць начному вартаўніку, спала ў канторы, дзе ахоўвала дакументы і грошы. Дзесьці далёка загулі машыны, але да цэнтра вёскі, дзе месціцца кантора, крама і царква, не даехалі. Баба Дуня глянула ў акно — было яшчэ цёмна, — павярнулася на другі бок і зноў заснула.

Тым часам грузавая машына, дзве «лятучкі» — крытыя грузавыя машыны, у якіх перавозілі людзей, — адзін міліцэйскі і адзін начальніцкі «бобікі» спыніліся на ўездзе ў Дарапеевічы, дзе жыў старшыня калгаса. У старшынёву хату пагрукалі, а калі Сцяпан Юшчук адчыніў, сказалі яму хутка збірацца, паколькі ён задзейнічаны ў спецыяльным рэйдзе як мясцовая ўлада.

Але Сцяпан Пятровіч быў чалавекам тутэйшым. Не выканаць загад ён не мог, то хоць цягнуў валынку. То доўга адзяваўся, то мыўся.

Нарэшце калона машын рушыла да царквы. Праінструктаваныя навучэнцы сталі па перыметры будынка. Начальства стаяла ля ўвахода і чакала, калі рабочы з аўтагенам параража масіўны замок яшчэ польскага часу.

Старая вартаўнічка ў канторы пабачыла яркае святло і вырашыла, што царкву спрабуюць падпаліць. «Людочкі, гвалт!» — пачала крычаць Дуня, перш чым дужыя мужчынскія рукі заціснулі ёй рот і запхнулі ў машыну. ▶



ФОТА ІНЫ ХОМІЧ

**Сцяпан Раманюк — адзін з галоўных герояў бунту ў Дарапеевічах.** Гэта ён падсыпаў пяску ў паліўны бак машыны, на якой хацелі вывезці царкоўныя прадметы. Ужо не жыве.

▶ Але вартаўнічку добра пачулі жыхары суседніх з канторай і царквой хат.

### Збеглася ўсё сяло

Сцяпан Раманюк, 29-гадовы калгасны шафёр, з жонкай і яе бабуляй жыў у суседняй з царквой хаце. Сцяпан спаў ля акна, таму, як толькі пачуў гудзенне машын, падхапіўся і пабачыў (а ўжо развіднела), як з лятучак выскокваюць студэнты.

— Уставай, Галё! — расштурхаў Сцяпан жонку. — Прыіхалы нашу цэркву розбыраты!

Раманюкі кінуліся ў розныя бакі па Дарапеевічах, каб пабудзіць людзей.

У выніку з царквы яшчэ не паспелі вынесці ўсе харугвы і абразы, а побач ужо назбіралася абураных дарапееўцаў. Яны стаялі вакол царкоўнай агароджы, бо праз вароты іх не пускала студэнцкая варта, і не ведалі, што далей рабіць. І тут да царквы вярнуўся Сцяпан Раманюк.

— Людочкі, вашу цэркву розбырають, а вітэ забора шкодуете?! Ламаймо!

Натоўп кінуўся на старую




**Каменны крыж у Дарапеевічах.** 2016 год. Ёсць версія, што раней гэты крыж быў дахрысціянскім ідалам.

У дарапеевіцкай царкве здымалі дакументальны фільм «Званар» (2011) Кацярыны Махавай, прысвечаны традыцыі палескага званарства.

агароджу, за якой стаяла яшчэ адна, таксама драўляная. Праз утвораную дзірку бунтаўнікі трапілі на тэрыторыю царквы, з адламанымі штахетамі ў руках. Студэнты атрымалі тымі штахетамі па плячах. Дасталося і міліцыі. Начальнік з райаддзела штурхануў бабу, а хтосьці з маладых хлопцаў у адказ пераехаў начальніку штахетай па спіне і пашкодзіў яму хрыбет.

Каб абараніць сваіх аднавяскоўцаў, старшыня калгаса даказваў, што Раманюка там дакладна не было. Ды і ўвогуле, царкву нібыта баранілі пераважна жанчыны.

### «На людзей не паеду!»

Стэпа Сцепанюк, якая пазней стане вядомай на ўсю Беларусь ткачыхай, у тым далёкім 1964-м працавала паляводам у калгасе. Яе на досвітку разбудзіў дарапеевец Хвадзей, які ехаў на ровары і перад кожнай хатай крычаў, што разбіраюць царкву.

Ад Стэпінай хаты да цэнтра — пару кіламетраў, таму і яна скочыла на ровар, каб далучыцца да вясковага супраціўлення. Калі прыехала, ля царквы ўжо было даволі шмат народу і канфлікт вырашаўся на карысць людзей. Студэнты з начальствам пакаваліся ў машыны, каб з'язджаць.

Завялася і грузавая машына, у якой ляжалі тыя прадметы, якія студэнты паспелі вынесці з царквы. Стэпе было страшна, але і яна ўстала разам з іншымі жанчынамі перад грузавіком. Калі ўтварыўся першы шэраг счэпленых за рукі людзей, грузавік працягваў рухацца. Калі ж утварыліся другі і трэці шэрагі — спыніўся.

У кабіне грузавіка ішла маральная барацьба паміж міліцыянерам, які патрабаваў ад шафёра ехаць, і шафёрам, які моцна шкадаваў, што пагадзіўся ўдзельнічаць у гэтай спецаперацыі. Строга кажучы, ён нават не быў шафёрам, а механікам з суседняга калгаса і проста падмяняў калегу, які адразу рашуча адмовіўся сядаць за руль, як толькі даведаўся, куды і навошта трэба ехаць. Не вельмі хацелася ехаць і яму, але раённае начальства ціснула: «Ты ж камуніст, ты абязан!»

Але тут у яго з'явілася нагода саскочыць.

— Хочаш — сядай за руль сам, а я на людзей не паеду!

Міліцыянер усё ж сеў за руль, але… завесці машыну яму не ўдалося. Пакуль ішлі спрэчкі, Сцяпан Раманюк падсыпаў у паліўны бак машыны пяску.

### Каменны крыж

Другая пасля царквы дарапеевіцкая славутасць — стары каменны крыж, які можа быць і ідалам паганскіх часоў. Ён мае з аднаго боку надсечаны салярны знак — сімвал сонца.
Па мясцовай легендзе, крыж з'явіўся на месцы моста цераз балота. Перад тым мостам сустрэліся два вяселлі, і ніхто не хацеў саступаць дарогу, бо гэта лічылася дрэнным знакам для маладых. Таму на хісткую пераправу заехалі адначасова два вазы — ды абрынуліся ў багну.
На месцы трагедыі і з'явіўся крыж. Крыж доўга ляжаў пахілены, урослы ў зямлю. Падчас атэістычнай кампаніі сюды прыгналі трактар, але трактарыст зрабіў начальству выгляд, што не можа крыж зварухнуць. Крыж людзі лічылі цудадзейным. Каля яго маліліся і прыхіналіся да каменя месцам, дзе нешта баліць.




**Сцепаніда Сцепанюк** са старажытнай кашуляй. Сама яна такія таксама тчэ.

Грузавік застаўся стаяць каменем. Дарапееўцы маглі вярнуць у царкву вынесеныя рэчы. Не хапала толькі чашы з лыжачкай для прычасця і святых кніг. Іх забралі з сабой выканаўцы.

### Трое сутак стаялі

Грузавік каля царквы нагадваў не толькі пра перамогу, але і пра пагрозу, якая нікуды не дзелася. Таму дарапееўцы не спяшаліся разыходзіцца. Не ішлі ў калгас жаць збожжа, прадавачкі не адчынялі магазін, жанчыны не сыходзілі нават гатаваць есці.

Людзей ля царквы было шмат, сабраліся не толькі жыхары Дарапеевіч, але і суседніх вёсак. Нехта прыдумаў адправіць у Маскву на імя аднаго з міністраў тэлеграму пра бясчынства раённага начальства.

У адказ да бунтаўнікоў пачалі ездзіць дэлегацыі не толькі з Маларыты, але і Брэста з просьбай супакоіцца і ісці на работу.

Але вяскоўцы былі непахісныя і адказвалі, што разыдуцца толькі, калі ім вернуць скрадзеныя царкоўныя рэчы, а саму царкву пакінуць у спакоі.

Перамовы ішлі некалькі дзён. На трэція суткі ў Дарапеевічы прывезлі царкоўныя прадметы, і толькі тады калгаснікі вярнуліся на працу.

### Начная варта

Цягам сарака дзён дарапееўцы па чарзе, па некалькі дзясяткаў чалавек, дзяжурылі каля царквы. Пасля яшчэ паўгода дзяжурылі каля царквы па трое.

Царква ў гэты час ужо была замкнёная на два замкі: адзін павесіў сельсавет, другі — людзі. Акрамя таго, дарапееўцы ўзялі доўгі дрот і адзін яго канец прывязалі да звона, каб можна было званіць у выпадку небяспекі, не залазячы на званіцу. Не абышлося без кур'ёзу. Адзін раз за той дрот зачапіўся п'яны. Ох і атрымаў ён ад людзей, што збегліся па трывозе!

### Магазінная разведка

Магазіншчыца Вера Сцепанюк была галоўнай разведчыцай. Яна са сваёй напарніцай пільнавала, ці не прыехалі да царквы чужыя.

У царкву без прадстаўніка грамады не пускалі не толькі начальства, але і навуковыя экспедыцыі.

Але гэта не ўратавала ад звычайных зладзеяў. Не дапамаглі ні два замкі, ні «дротавая сігналізацыя». З царквы вынеслі пяць самых старых абразоў.

Новы старшыня калгаса даказваў людзям, што іх перамога пустая. Хоць царкву не зрабілі складам, але дарапееўцы ўсё роўна не дачакаюцца, калі яе адкрыюць. Людзі на гэта толькі зацята адказвалі: «Пабачым!»

І сапраўды, у 1980-я прыйшлі перамены. 9 жніўня 1988 года, на закладное свята ў гонар святога Панцеляймона, Багародзіцкая царква зноў прыняла вернікаў.

Сцепаніда Сцепанюк у свае 85 усё яшчэ спявае на клірасе ў той царкве, якую яна з аднавяскоўцамі ўратавала. Яна ганарыцца тым, што яны зрабілі: «Тут жэ настояшча рэволюцыя была!» ◆

### Сцепаніда Сцепанюк

Ткачыха з Дарапеевіч, адраджальніца старажытнага метаду ткання ўзораў «кажушком», які нагадвае вышыўку па тканіне. Ёй 85 гадоў, яна дагэтуль тчэ сама. Баба Стэпа навучыла ткацтву дачку і многіх майстрыц з Маларыцкага раёна. Дзякуючы ёй тэхніка ўзорыстага ткацтва Маларытчыны захавалася, бо той самы «кажушок», акрамя Сцепаніды, не было ўжо каму аднавіць. Сама яна змагла рэканструяваць старажытны прыём толькі пасля доўгіх марных спроб і прарочага сну, у якім пабачыла падказку для правільнай запраўкі кроснаў.
З бабай Стэпай увогуле вельмі стасуецца слова «захавальніца». Яна ведае безліч народных прыкметаў і забабонаў, ведае і спявае старыя песні. Акрамя шэрагу дзяржаўных адзнак, Сцепаніда ўзнагароджаная таксама ордэнам «За вернасць Бацькаўшчыне», які ўручыла берасцейская культурніцкая грамадскасць на чале з Ларысай Быцко. Выконваў ордэны вядомы ювелір Мікола Кузьміч, аўтар копіі Крыжа Еўфрасінні Полацкай.

# Сярэдняя Літва

## Дзіця гібрыднай вайны

**Вільняй пасля Першай сусветнай вайны хацелі валодаць некалькі народаў. Каб абысці канкурэнтаў, Польшча сілай зброі стварыла Сярэднюю Літву, але афіцыйна сцвярджала, што «нас там няма». Пра гібрыдную вайну, з дня пачатку якой 8 кастрычніка спаўняецца 100 гадоў, піша Андрэй Акушка.**

### Горад разладу

У 1917–1918 гадах распалася Расійская імперыя, а на яе руінах сталі стварацца новыя дзяржавы. Незалежнасць тады абвясцілі беларусы, літоўцы і палякі, у нацыятворчых ідэях кожнага з якіх Вільня займала асаблівае сімвалічнае месца. Дзеячы кожнага з народаў бачылі будучыню гэтага горада толькі ў складзе ўласнай дзяржавы, а любы іншы варыянт успрымалі як гістарычную несправядлівасць.

Расійскай Вільня перастала быць у верасні 1915 года, калі апынулася пад нямецкай акупацыяй. Праз два гады літоўцы стварылі тут орган сваёй улады — Літоўскую Тарыбу (Раду), якая ў лютым 1918-га ўхваліла Акт аб незалежнасці Літвы. Праўда, рэальны кантроль над горадам ёй забяспечыць было складана: у яго насельніцтве літоўцы складалі толькі 2%. Таму літоўскае нацыянальнае будаўніцтва, у тым ліку і стварэнне арміі, вялося перадусім на тэрыторыі колішняй Ковенскай губерні, дзе літоўцы складалі пераважную большасць і дзе іх нацыянальны рух быў вельмі моцны.







Герб Сярэдняй Літвы.

А непасрэднае ўзброенае змаганне за Вільню ўласнымі сіламі пасля вываду нямецкіх акупацыйных войскаў маглі весці фактычна толькі дзве краіны: Польшча на чале з Юзафам Пілсудскім і Савецкая Расія. Літоўцы маглі спадзявацца збольшага толькі на здольнасці сваіх дыпламатаў. Што тычыцца Беларускай Народнай Рэспублікі, то ёй, як вядома, увогуле не было суджана займець паўнавартаснага ўласнага войска. А таму беларусы мусілі на працягу ўсяго віленскага крызісу заставацца хутчэй аб'ектам, а не суб'ектам гульні: актыўныя гульцы памяталі пра іх і спрабавалі выкарыстаць у сваіх інтарэсах, але не больш за тое.

### Вайна і дыпламатыя

У красавіку 1919 года на пачатковым этапе польска-

савецкай вайны (гл. пра яе артыкул Аляксандра Пашкевіча ў № 2/2019 «Нашай гісторыі») Вільня была занятая польскімі войскамі. Чырвоная армія да восені адступіла за раку Бярэзіну, і да вясны наступнага года лінія фронту мянялася мала. Але ў маі 1920-га бальшавікі перайшлі ў наступленне, а палякі сталі адступаць. Ужо праз пару месяцаў Чырвоная армія стаяла пад Варшавай.

Але паралельна працавала і бальшавіцкая дыпламатыя. Каб не дапусціць заключэння саюзу паміж Польшчай і Літвой, Савецкая Расія прапанавала апошняй заключыць мірную дамову. Дамова была падпісана ў Маскве 12 ліпеня 1920 года, згодна з ёй бальшавікі саступалі на карысць літоўцаў не толькі Вільню з ваколіцамі, але і значныя тэрыторыі сённяшняй Беларусі з такімі гарадамі, як Гродна, Ліда і Ашмяны.

Наўрад ці саветы выконвалі б гэтую дамову, каб ім цалкам спрыяла ваенная ўдача і ў Еўропе ўдалося запаліць полымя сусветнай рэвалюцыі. Але летам 1920-га палякі разграмілі бальшавікоў пад Варшавай, і Чырвоная армія пакацілася назад. Каб Вільню не занялі палякі, бальшавікі 26 жніўня, у адпаведнасці з Маскоўскай дамовай, перадалі горад літоўцам, а Польшча пад ціскам краін Антанты, якія хацелі нарэшце спыніць у рэгіёне войны ўсіх з усімі, мусіла прызнаць гэты факт. Больш за тое, ізноў-такі пад ціскам заходніх саюзнікаў 7 кастрычніка палякі заключылі ў Сувалках уласнае перамір'е з Літвой, згодна з умовамі якога дэмаркацыйная лінія паміж бакамі праходзіла на паўднёвы захад ад Вільні. Апошняя, такім чынам, заставалася літоўцам.


ALKAS.LT

«Паўстанцы» ў Вільні, 1920 год.

## Хітры план Пілсудскага

Але палякі так проста адмаўляцца ад горада не збіраліся, тым больш што літоўская армія па сваёй моцы яўна саступала польскай. А каб пры гэтым не пасварыцца з Вялікабрытаніяй і Францыяй, яны прыдумалі хітры план. Сутнасць яго была ў тым, каб усталяваць над Вільняй і Віленшчынай фактычны кантроль, але фармальна польская дзяржава мусіла заставацца як бы ні пры чым. На закіды, што Польшча парушае міжнародныя дамовы, якія сама толькі што падпісала, польскі лідар Юзаф Пілсудскі мог бы не маргнуўшы вокам адказваць: «Нас там няма».

У тагачасным польскім войску служыла шмат жаўнераў і афіцэраў, якія паходзілі з беларуска-літоўскага краю. Яны складалі аснову 1-й і 2-й Беларуска-Літоўскіх дывізій. Нямала гэтых людзей паходзіла менавіта з Вільні і Віленшчыны, і яны зусім не хацелі, каб іх родныя мясціны адыходзілі ў склад Літвы. Радзімай Віленшчына была сярод іншых для камандуючага 1-й Літоўска-Беларускай дывізіяй генерала Люцыяна Жалігоўскага і начальніка польскай дзяржавы Юзафа Пілсудскага. З імёнамі гэтых двух дзеячаў у асноўным і звязаны план, заклікаваны пакінуць спрэчную Віленшчыну за палякамі.

**Жалігоўскі павінен быў падняць «паўстанне», рушыць на Вільню, узяць яе і стварыць новую прапольскую дзяржаву**

Абмеркавалі яны гэты план, некалькі разоў сустрэўшыся ў Беластоку ў канцы верасня — пачатку кастрычніка 1920-га (яшчэ да заканчэння перамоў у Сувалках!). Паводле яго, Жалігоўскі павінен быў падняць «паўстанне», рушыць на Вільню, захапіць яе разам з ваколіцамі і стварыць на занятай тэрыторыі новую, фармальна незалежную ад Польшчы дзяржаву. Прытым Пілсудскі шчыра папярэдзіў выканаўцу плана: «Можа надысці

час, калі супраць Вас будзе не толькі Сейм і ўся Польшча, але нават я. Вам прыйдзецца ўзяць усё на сябе. Таму я не магу Вам нічога загадаць». Але Пілсудскі верыў, што Вялікабрытанія і Францыя не выступяць адкрыта на баку Літвы, абмяжуючыся пагрозамі па дыпламатычных каналах. Так яно ўрэшце і сталася.

**Пілсудскі лічыў, што Вялікабрытанія і Францыя не выступяць адкрыта на баку Літвы, абмяжуючыся пагрозамі па дыпламатычных каналах**

### «Паўстанне» пачынаецца

Жалігоўскі пагадзіўся на ўмовы Пілсудскага. Раніцай 8 кастрычніка жаўнерам 1-й Літоўска-Беларускай дывізіі, якой ён камандаваў, зачыталі загад рушыць на Вільню.

Літоўцы хутка даведаліся пра наступленне на Вільню, якую абаранялі толькі два іх батальёны (некалькі соцень байцоў супраць 14 тысяч «паўстанцаў»). Спроба перамоў з Жалігоўскім скончылася нічым. Ён сказаў: «Мы не ваюем з вамі, а толькі вяртаемся дадому». Варшава заявіла, што ў яе няма сілаў спыніць «мяцежнікаў»: армія змагаецца з Савецкай Расіяй. Спробы звярнуцца да Лігі Нацый засталіся без адказу.


WIKIMEDIA COMMONS

**Люцыян Жалігоўскі** — першы і адзіны кіраўнік Сярэдняй Літвы.

У адчаі літоўцы нават перадалі кантроль над Вільняй французскім прадстаўнікам, спадзеючыся, што Жалігоўскі не рызыкне ісці на прамы канфлікт з Антантай. Але марна — пасля 14-й гадзіны 9 кастрычніка ў горад увайшлі перадавыя часткі «паўстанцаў». Французы паспрабавалі знайсці Жалігоўскага, каб пачаць перамовы. Але афіцэры наўмысна накіравалі іх туды, дзе генерала не было. І каля 19-й гадзіны ён спакойна ўехаў у горад праз Вострую браму.


GLOBALLOOKPRESS.COM

**Юзаф Пілсудскі.**

**Люцыян Жалігоўскі**

(1865–1947) нарадзіўся ў фальварку Пераходы на Ашмяншчыне (цяпер Смаргонскі раён). Яго бацькі хутка пасля нараджэння сына былі сасланыя ў Сібір за ўдзел ў паўстанні 1863–1864 гадоў. У 1888 годзе стаў афіцэрам расійскай арміі, у складзе якой удзельнічаў у расійска-японскай і Першай сусветнай войнах. Даслужыўся да звання генерал-маёра.

Па сваіх поглядах быў федэралістам, хацеў, як і Юзаф Пілсудскі, каб на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай утварылася федэрацыя чатырох народаў: палякаў, украінцаў, беларусаў і літоўцаў — з вядучай роляй Польшчы.

У 1920-я гады займаў розныя пасады ў польскім войску, у 1925–1926 гадах нават быў міністрам абароны. Не падтрымліваў шавіністычнай нацыянальнай палітыкі польскіх уладаў. У 1930-я, калі ён быў дэпутатам Сейма, беларускія дзеячы, не маючы ўласных прадстаўнікоў, неаднаразова звярталіся да яго па заступніцтва, і ён ішоў ім насустрач. Памёр на эміграцыі ў Вялікабрытаніі.

### Вайна, якую ніхто не абʼяўляў

Бясконца хавацца ад прадстаўнікоў Антанты Жалігоўскі, вядома, не мог. Але сустрэўся ён з імі як гаспадар — у былым будынку Тарыбы. Перамовы нічым не скончыліся, суразмоўцы генерала вымушаныя былі пакінуць горад. Разам з імі выехалі і літоўскія чыноўнікі.

Афіцыйна Антанта асудзіла Жалігоўскага, але ваяваць з ім не стала. Ліга Нацый, праўда, звярнулася да палякаў, каб тыя загадалі «мяцежнікам» пакінуць Вільню. Але ў Варшаве адказалі, што нічога зрабіць не могуць, бо Жалігоўскі і яго афіцэры з войска нібыта звольніліся.



WIKIMEDIA COMMONS

**Генерал Жалігоўскі** на чале сваіх салдат, 1920 год. Шмат там было і беларусаў.

Тым часам «мяцежнікі» працягвалі ісці наперад, баі працягваліся яшчэ больш за месяц. У канцы кастрычніка яны пачалі новае наступленне — на Коўна. Літоўцы перакінулі на фронт новыя палкі і адбілі атаку. Жалігоўскі зразумеў, што больш ён нічога не даб'ецца. 29 лістапада бакі заключылі пагадненне аб спыненні агню. Тэрыторыя Сярэдняй Літвы дасягнула на момант перамір'я прыкладна 13,5 тысячы квадратных кіламетраў з насельніцтвам каля паўмільёна.

**Афіцыйна Антанта асудзіла Жалігоўскага, але ваяваць з ім не збіралася**

Сітуацыя, такім чынам, стабілізавалася, і прыйшоў час думаць, што з усім гэтым рабіць. Не толькі Польшчы ды Літве, але і ўсёй Еўропе.

### Непрызнаная краіна

Фармальна адразу пасля захопу Вільні на тэрыторыі Сярэдняй Літвы пачаўся працэс дзяржаўнага будаўніцтва. Ужо 12 кастрычніка выйшаў Дэкрэт №1, падпісаны Жалігоўскім. Ён заявіў, што бярэ ўладу на захопленай тэрыторыі ў свае рукі, а дапаможа яму кіраваць Часовая ўрадавая камісія (ЧУК). Ствараліся і мясцовыя органы ўлады. Быў зацверджаны герб Сярэдняй Літвы — шчыт з выявамі Арла і Пагоні.

Вонкава Сярэдняя Літва сапраўды нагадвала невялікую незалежную дзяржаву. Але гэта была толькі бачнасць. Бо на самай справе хіба толькі наіўныя ідэалісты збіраліся будаваць самастойную дзяржаўнасць гэтай тэрыторыі на доўгатэрміновай аснове. Варшаўскія і большасць мясцовых польскіх палітыкаў думалі толькі пра тое, як інтэграваць гэтую тэрыторыю ў склад Польшчы, прытым так, каб гэта было прызнана сусветнай супольнасцю. Інакш кажучы, фактычны тэрытарыяльны набытак трэба было легітымізаваць праз міжнароднае прызнанне. ▶

### Апошні шанец федэрацыі?

Некаторыя даследчыкі схільныя бачыць у праекце Сярэдняй Літвы апошнюю спробу Юзафа Пілсудскага ўсё ж такі рэалізаваць на практыцы, хай і ва ўрэзаным варыянце, сваю федэралісцкую канцэпцыю, якая да таго часу практычна пацярпела крах.

Прыхільнікі такога погляду лічаць невыпадковым, што пачатак наступлення войска Сярэдняй Літвы на Коўна і пачатак Палескага паходу генерала Булак-Балаховіча фактычна супадаюць у часе — мяжа кастрычніка і лістапада 1920 года. Мяркуецца, што Булак-Балаховіч паводле першапачатковай задумы павінен быў не прасоўвацца ўглыб Палесся, а неадкладна рушыць на поўнач, каб захапіць пакінуты польскімі войскамі Мінск. І калі б у руках вайсковых камандзіраў, фармальна незалежных, але насамрэч цесна звязаных з Пілсудскім, апынуліся тры ключавыя гарады літоўска-беларускага краю з прылеглымі землямі, то гэтая тэрыторыя магла б стаць суб'ектам, здольным уступіць у федэратыўныя адносіны з Польшчай. Яе патаемным стварэннем без санкцыі і нават без ведама польскага Сейма Пілсудскі нібыта разлічваў паставіць перад здзейсненым фактам сваіх палітычных праціўнікаў — прыхільнікаў канцэпцыі інкарпарацыі.

Дакументальных пацвярджэнняў такой версіі пакуль не выяўлена, гэта толькі гіпотэза. Але ў кожным разе гэтыя планы, калі існавалі, пацярпелі поўны крах, бо ні Жалігоўскі Коўна, ні Булак-Балаховіч Мінска не захапілі. А адна Сярэдняя Літва з цэнтрам у Вільні для суб'екта федэрацыі не надавалася, яе можна было толькі інкарпараваць.

### ▸ Шуканні кампрамісу

Спачатку палякі хацелі вырашыць праблему хутка і проста: неадкладна правесці выбары ў мясцовы парламент, дэпутаты якога мусілі прагаласаваць за далучэнне Сярэдняй Літвы да Польшчы. Была ўжо нават прызначана дата гэтых выбараў на пачатак 1921 года, але пасля ад гэтай ідэі часова адмовіліся. На гэта пайшлі таму, што ў справу вызначэння будучыні Вільні і Віленшчыны актыўна заангажаваліся вялікія еўрапейскія дзяржавы, а яны імкнуліся вырашыць віленскую праблему праз кампраміс паміж Польшчай і Літвой.

Спробы еўрапейскага вырашэння віленскай справы звязаныя з іменем тагачаснага старшыні Лігі Нацый, бельгійскага палітыка Поля Іманса. На працягу 1921 года камісія пад яго кіраўніцтвам распрацавала два праекты, якія мелі на ўвазе далучэнне Віленскага краю да Літвы, але на розных умовах.

Першы прадугледжваў кантанальную пабудову літоўскай дзяржавы з ковенскім і віленскім кантонамі і агульнай сталіцай у Вільні. Літва пры гэтым мусіла заключыць з Польшчай канвенцыі ў ваеннай, гандлёвай і замежнапалітычнай сферах. Праект прымаўся Польшчай, паколькі ў такім выпадку яна атрымлівала фактычную магчымасць не толькі цалкам трымаць пад сваім кантролем віленскі кантон з польскай большасцю, але і непасрэдна ўплываць на ковенскі. Аднак гэтага катэгарычна не хацела і нават баялася Літва. Другі праект Іманса прадугледжваў толькі аўтаномію віленскай акругі ў складзе Літвы, на што не пагаджаліся ўжо палякі.

Да восені 1921 года польска-літоўскія перагаворы канчаткова зайшлі ў тупік, і на парадак дня зноў выйшла правядзенне выбараў у Віленскі сейм. Іх прызначылі на 8 студзеня 1922-га і гэтым разам правесці здолелі. Праўда, арганізацыі, якія рэпрэзентавалі асноўныя няпольскія народы Віленшчыны — беларусаў, яўрэяў, літоўцаў, — больш жадалі, каб Вільня ўвайшла ў склад Літвы, а таму прынялі рашэнне аб байкоце выбараў і заклікалі да гэтага сваіх суродзічаў. Але гэта сітуацыі прынцыпова не памяняла: паводле афіцыйных звестак, яўка на выбары склала 64,4% ад агульнай колькасці выбаршчыкаў. Выбары, такім чынам, адбыліся, і сейм быў сфарміраваны.

### Сярэдняя Літва плюс Браслаўшчына і Лідчына

Дзеля таго, што многія праціўнікі закідалі палякам, што выбары ў Віленскі сейм, якія фактычна з'яўляюцца плебісцытам, праводзяцца на зусім штучна выразанай тэрыторыі (акрамя горада Вільні, прыкладна Ашмянскі, Віленска-Троцкі і Свянцянскі паветы), польскі ўрад пагадзіўся на ўдзел у галасаванні таксама жыхароў Браслаўскага і Лідскага паветаў, уключаных у склад Польшчы раней, паводле ўмоў Рыжскай мірнай дамовы ад 18 сакавіка 1921 года. У выніку выбары адбываліся на тэрыторыі, роўнай 20 211 км² (з іх на ўласна Сярэднюю Літву прыпадалі 13 014 км²), з насельніцтвам 741 тысяча чалавек. Польскія афіцыйныя крыніцы сведчылі, што на гэтай тэрыторыі жылі 68% палякаў, 11,5% яўрэяў, 8,8% беларусаў, 7,2% літоўцаў, 2,8% іншых, 1,3% т. зв. «тутэйшых». Праўдзівасць гэтых лічбаў выклікае вялікія сумненні. Улічваючы амаль поўнае супадзенне паводле гэтай статыстыкі колькасці беларускага насельніцтва і насельніцтва праваслаўнага веравызнання (8,8 і 8,9% адпаведна), бясспрэчным з'яўляецца факт амаль поўнага атаясамлівання польскімі статыстыкамі канфесійнага фактару з нацыянальным. Практычна ўсе беларусы-каталікі адназначна залічваліся да палякаў.

### Сярэдняя Літва і беларусы

Апошнім часам у беларускіх папулярных публікацыях нярэдка можна сустрэць думку, што Сярэдняя Літва была ледзь не адной з формаў беларускай дзяржаўнасці, што беларусы калі не кіравалі ёй, то прынамсі мелі вялікі ўплыў на прыняцце важных рашэнняў. Але такія сцверджанні не маюць пад сабой аніякага грунту.

Праўда, спачатку акцыя генерала Жалігоўскага была прынята некаторымі беларускімі дзеячамі дастаткова прыхільна, бо непасрэдна перад ёй яны атрымалі абяцанні блізкіх да Юзафа Пілсудскага колаў, што на тэрыторыі Віленшчыны будзе ўтворана дзяржава пад назвай «Заходняя Беларусь». Аднак калі такія планы ў польскага лідара напачатку і існавалі, то толькі імі і засталіся. Адзінае, што беларусам спачатку ўдалося атрымаць з праекта Сярэдняй Літвы, — пасаду кіраўніка дэпартамента (фактычна міністэрства), апраявізацыі (забеспячэння, паставак прадукцыі) для вядомага нацыянальнага дзеяча Вацлава Іваноўскага. Таксама пры дэпартаменце асветы быў створаны аддзел беларускай асветы, які ўзначаліў Браніслаў Тарашкевіч. Дзякуючы ягонаму імпэту за кароткі час на Віленшчыне ўдалося заснаваць каля 150 беларускіх школ.

Але з паводзін кіраўніцтва Сярэдняй Літвы ў першыя ж месяцы яе існавання стала




**Святкаванне далучэння Сярэдняй Літвы да Польшчы**, 1922 год.

відавочна, што палякі рупяцца толькі пра ўласныя інтарэсы, а ўсе саступкі на карысць іншых народаў краю — не больш чым тактычныя крокі, ды і тыя часта толькі на словах. Таму яшчэ да канца 1920 года Віленскі Беларускі нацыянальны камітэт (БНК) выдаў некалькі дакументаў з пратэстам супраць палітыкі ЧУК, а Іваноўскі пакінуў сваю высокую пасаду ўжо ў снежні 1920-га.

У такіх умовах усё больш на пазіцыю беларускіх палітыкаў стаў уплываць другі суб'ект спрэчкі за Вільню — Літва. З-за невялікай колькасці літоўцаў на Віленшчыне літоўскія палітыкі, жадаючы ўмацаваць свае пазіцыі, пайшлі на выкарыстанне беларускай карты. 11 лістапада 1920 года была падпісана дамова паміж урадам БНР у выгнанні на чале з Вацлавам Ластоўскім і ўрадам Літвы, згодна з якой беларусы ў абмен за матэрыяльную і дыпламатычную падтрымку абавязваліся падтрымліваць літоўцаў падчас іх канфлікту з Польшчай. У адпаведнасці з гэтым Віленскі БНК заклікаў беларусаў байкатаваць выбары ў Віленскі сейм.

І хоць пастаўленай мэты дасягнуць не ўдалося, нельга сказаць, што тактыка байкоту выбараў у той час была адназначна памылковай. Тады яшчэ заставалася надзея, што пры ўзгодненым байкоце выбараў усімі няпольскімі нацыянальнасцямі Віленшчыны вялікія дзяржавы схіляцца да перадачы Вільні Літве.

Літва ж да 1922 года заставалася ці не адзінай дзяржавай, яшчэ зацікаўленай у падтрымцы беларускіх дзяржаватворчых памкненняў. І можна было спадзявацца, што пасля вырашэння ўласных тэрытарыяльных праблем літоўскаму ўраду не так проста было б адмовіцца ад выканання сваіх ранейшых абяцанняў. Не маючы рэсурсаў, каб хутка літуанізаваць шматлікае славянскае насельніцтва, літоўскі ўрад проста вымушаны быў бы спрыяць пашырэнню на Віленшчыне прыязнай да сябе беларускасці, змяншаючы тым самым уплывы варожай польскасці. Дзякуючы чаму беларусам можна было б разлічваць на стварэнне там своеасаблівага нацыянальнага П'емонта. Але праверыць рэалістычнасць гэтых разлікаў на практыцы не давялося.

## Інкарпарацыя

Дэпутатамі Віленскага сейма сталі пераважна прыхільнікі далучэння Сярэдняй Літвы да Польшчы. Сур'ёзныя рознагалоссі сярод іх былі толькі ў тым, ці мусіць гэты край мець нейкую аўтаномію, а калі мусіць, то наколькі шырокую.

Афіцыйна рашэнне аб аб'яднанні з Польшчай было прынята Віленскім сеймам падчас пасяджэння 20 лютага 1922 года. Крыху больш чым праз месяц, 25 сакавіка 1922 года, краёвы парламент быў распушчаны, а 6 красавіка быў прыняты закон пра перадачу ўлады над Віленшчынай дэлегату польскага ўрада. Інкарпарацыя Сярэдняй Літвы ў склад Польшчы, такім чынам, стала рэчаіснасцю, і міжнароднай супольнасці, якая за амаль дзесяцігоддзе няспынных войнаў страшна ад іх стамілася, нічога не заставалася, як прызнаць гэта спачатку дэ-факта, а 15 сакавіка 1923-га і дэ-юрэ.

Прытым ніякай аўтаноміі ці асаблівага статусу ў складзе Польшчы Віленшчына не атрымала. Адзінай часовай праявай яе адметнасці было тое, што пару гадоў гэтая тэрыторыя звалася Віленскай зямлёй, а не ваяводствам, як іншыя, а кіравалі ёй, не ваяводы, а дэлегаты ўрада. Але і гэта ўжо ў канцы 1925 года было адменена. Літоўцы, вядома, пратэставалі, афіцыйна яны не прызнавалі законнасці пераходу Вільні да Польшчы цягам усяго міжваеннага перыяду. Але затое крыху суцешыліся захопам фактычна паводле той жа методыкі Клайпедскага краю ў пачатку 1923 года (гл. пра гэта артыкул у № 3/2020 «Нашай гісторыі»). І Лізе Нацый зноў нічога не заставалася, як толькі прызнаць здзейснены факт. У тым ліку і таму, што перад гэтым быў створаны сярэднелітоўскі прэцэдэнт. ◆

# Газета самая беларуская з савецкіх

**У пачатковай гісторыі «Савецкай Беларусі» адбіліся надзеі рэвалюцыйнага пакалення, партызаншчына падманутых рамантыкаў, нахабства акупантаў і трагічны фінал колішніх герояў. Піша Ганна Севярынец.**

Амаль усё, што адбываецца ў сучаснасці, мае сваю літаральную рыфму ў недалёкай гісторыі. Наноў і наноў мы трапляем у адны і тыя ж абставіны, не вывучыўшы папярэднік — і будзем трапляць, пакуль не вывучым. Вось, прыкладам, гісторыя, памятная тэлегледачам майго пакалення: як амбітную расійскую апазіцыйную тэлекампанію НТВ, якая нарадзіла легендарныя праграмы «Намедни», «Куклы», «Времечко», «Про это», «Герой дня» — не проста зруйнавалі, адабраўшы эфір, назву і трафік, але і знішчылі гістарычна ў свядомасці гледачоў, цалкам памяняўшы сутнасць і існасць пад той самай назвай. Цяпер колішняе бліскучае НТВ — панылая дрыгва фэйкавых навін, крымінальных серыялаў і нуякасных шоу.

Прыкладна так у трагічныя 1930-я знішчылі адну з самых баявітых беларускіх газет — «Савецкую Беларусь». Яе закрылі ў 1933-м, звольніўшы і непаслухмянага рэдактара, і бунтоўных супрацоўнікаў, і нават машыністак, а ў 1937-м перадалі «скампраметаваную нацдэмаўшчынай» назву цалкам паслухмянай, шэранькай газеце


Кошт нумару—3 кап.

САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ

ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ САВЕТАЎ БССР.

ШТОДЗЁННАЯ ГАЗЭТА

№ 253 (552) Субота, 7-га лістапада 1925 г.

У дзень 8-ай гадавіны Кастрычніка— наша прывітаньне працоўным усяго сьвету.

Працоўныя ўсіх краін, яднайцеся пад сьцягам Кастрычніка!



Святочны выпуск газеты «Савецкая Беларусь» **з гравюрай фінскага мастака Ахола-Вало «Кастрычнік у космасе»** на развароце, 1925 год (скан Антона Дзянісава).

«Рабочы» — не забыўшыся перакласці яе на рускую мову. Паспрабуй скажы каму цяпер, што калісьці газета з назвай «Савецкая Беларусь» была фарпостам беларусізацыі, пляцоўкай для гучных выступаў нязгодных і ледзь не партызанскім лістком для тых, хто ўмеў чытаць газеты паміж радкоў.

### Пачатак у Смаленску

Газета «Савецкая Беларусь» пачала выходзіць у Смаленску ў 1920 годзе. Сярод шматлікіх газет, якія тады друкаваліся ў гэтым адносна спакойным у параўнанні з бурлівым Менскам (Першая сусветная, рэвалюцыя, польская акупацыя) горадзе, яна была адзінай беларускамоўнай: са смаленскай друкарні выходзілі для патрэб Беларусі рускамоўная «Звезда», польскія «Млот» і «Комуніста», «Комуністас» — па-літоўску, «Штэрн» — на ідышы. Як толькі Менск быў вызвалены ад польскіх войскаў, рэдакцыі пераехалі ў беларускую сталіцу.

У першыя гады на пасадзе адказнага рэдактара «Савецкай Беларусі» адзначыліся Сцяпан Булат, Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны), Усевалад Ігнатоўскі, Міхась Гурын-Маразоўскі, Іван Шыпіла — людзі розныя як па адукацыі і досведзе, так і па сваіх палітычных поглядах, тым больш што на пачатку дваццатых гэтыя погляды яшчэ маглі быць пярэстымі. Газета паступова эвалюцыянавала ад выдання «тры разы на тыдзень» да штодзённай, шукала фармат і памер, эксперыментавала са зместам, але выразнага аблічча не мела, бо рабілі яе ўвесь час людзі, занятыя, акрамя газеты, іншымі важнымі справамі.

### Рэдактар паняволі

У кастрычніку 1925-га грымнуў скандал: у адным з нумароў



**Чарот — рэдактар.** 1925 год.

выйшаў артыкул Паўла Трамповіча «Шляхі беларускай інтэлігенцыі», у якім грунтоўна і недвухсэнсоўна аналізаваўся разбуральны ўплыў рускай імперскай свядомасці і маскоўскай палітыкі на фарміраванне беларускай самасвядомасці. Павел Трамповіч, кандыдат медыцынскіх навук і на момант публікацыі — дацэнт медфака БДУ, да беларускага нацыянальнага руху меў самае непасрэднае дачыненне: у 1918 годзе ён быў прызначаны генеральным консулам Беларускай Народнай Рэспублікі ў Кіеве, узначальваў перамовы БНР з Украінскай Народнай Рэспублікай. Трамповіч і да скандальнага артыкула меў у «СБ» сталую пляцоўку для выказванняў, але «Шляхі» выбухнулі надта гучна.

Тагачасны рэдактар Іван Шыпіла быў неадкладна звольнены. А 31 кастрычніка гэтую пасаду заняў адзін з самых аўтарытэтных тагачасных літаратараў-камуністаў Міхась Чарот (Кудзелька).

Рэдактарская пасада Чарота не надта вабіла. Але кіраўніцтва яго пераканала. Чарот быў перакананым камуністам, для яго паняцце «абавязак перад народам і партыяй» існавала.

> **Менавіта Міхась Чарот зрабіў «Савецкую Беларусь» газетай, дзе было магчымым апазіцыйнае выказванне**

Міхась Чарот належаў да той кагорты, якую цяпер прынята называць «нацыянал-камуністамі»: старшыня ЦВК Аляксандр Чарвякоў, першы сакратар ЦК КПБ(б) Мікалай Галадзед, палітык, літаратар, журналіст Зміцер Жылуновіч (Цішка Гартны), наркам земляробства Змітро Прышчэпаў, наркам асветы, акадэмік Усевалад Ігнатоўскі — немагчыма пералічыць усіх тых, хто першай сваёй задачай бачыў будаўніцтва беларускай дзяржавы, і толькі другой — яе савецкасць. Нацыянал-камуністы былі ўпэўненыя, што палітычная суб'ектнасць беларусаў, прынамсі ў той час, была магчымая толькі ў саюзе з бальшавікамі і толькі пры падтрымцы камуністычнай партыі. Таму і беларускасць, і савецкасць Чарота былі ўзаемазвязанымі і непахіснымі, прынамсі ў 1925 годзе.

Але для газеты галоўным было іншае. ▸

Менавіта Міхась Чарот здолеў надаць «Савецкай Беларусі» твар, згуртаваць вакол яе яркіх публіцыстаў, рэфармаваць наогул разуменне таго, якой павінна быць цэнтральная газета, а самае галоўнае — ва ўмовах ідэалагічнага ціску і цэнзурнага кантролю зрабіць яе выданнем, дзе было магчымым апазіцыйнае выказванне.

### Мастацтва магчымага

Адначасова з пашырэннем і паглыбленнем «савецкасці» (з'яўленне ідэалагічна вытрыманай аналітыкі, шырокае адлюстраванне ўладных працэсаў у сталіцы і на месцах, прыцягненне да супрацы рабкараў і селькараў) у «Савецкай Беларусі» ўзрастае колькасць передрукаў з замежнай прэсы, віленскай і варшаўскай, прычым гэта заўсёды — прабеларускія передрукі, якія шырока адлюстроўваюць беларускі рух за мяжой.

У газеце з'яўляецца палітычная карыкатура, да рэдкіх і не надта якасных фотаздымкаў дадаюцца малюнкі — Чарот запрашае да супрацы легендарнага «чырвонага фіна», скульптара і мастака Алексантэры Ахола-Вало (1900–1997), які 11 гадоў свайго доўгага творчага жыцця, у 1919—1930 гадах, пражыў у Беларусі. Цяпер першая паласа «Савецкай Беларусі» заўсёды аздоблена ягонымі карыкатурамі альбо малюнкамі.

Двойчы на месяц цэлая старонка, а іншы раз і разварот, аддаюцца літаратарам: маладым паэтам, празаікам, крытыкам. «Савецкая Беларусь» становіцца стартавай пляцоўкай для літаратурнага маладняку.

Пачынае шырока асвятляцца палітыка беларусізацыі: у кожным нумары ідуць рэпартажы аб пераходзе справаводства




**Карыкатура Алексантэры Ахола-Вало.** 1925 год.

і грамадскага жыцця на нацыянальныя рэйкі.

Развіваецца жанр фельетона. Менавіта пад кіраўніцтвам Чарота расцвітаюць сатырычныя таленты знакамітых у той час Свэна (Лявона Савёнка) і Алёшы (Анатоля Вольнага).

З'яўляецца рубрыка «Навука і тэхніка», у якой друкуюцца агляды дасягненняў еўрапейскай прамысловасці. Натхняльны тон гэтай рубрыкі рэзка дысануе з агульнапрынятым у тыя часы шальмаваннем буржуазнага свету.

Уводзіцца і рэгулярная рубрыка «Кіно», у якой змяшчаюцца актуальныя рэцэнзіі на савецкія і замежныя фільмы, асвятляецца працэс развіцця кінаіндустрыі ў БССР.

Пашыраецца колькасць і якасць рэкламы на старонках газеты.

І самае нечаканае: менавіта са старонак «Савецкай Беларусі» пачынаюцца самыя вострыя і смелыя дыскусіі. Тут з'яўляюцца ўсе гучныя «адкрытыя лісты» з патрабаваннямі да новай улады. Што праўда, і абвяржэнні папярэдніх смелых словаў таксама з'яўляюцца тут. Партыйным і савецкім выданне быць усё ж не перастае.

### «Іду па Менску рэпарцёрыць»

Яфім Садоўскі, адзін з найстарэйшых беларускіх журналістаў, пачынаў свой прафесійны шлях менавіта з Чаротавай «Савецкай Беларусі». Ён прыйшоў сюды сямнаццацігадовым хлапчуком-рабочым, потым вёў рубрыку «Суд», выязджаючы ў мястэчкі і вёскі на крымінальныя здарэнні.

Вось як ён апісвае звычайную працоўную раніцу: «Як заўсёды, іду па Менску рэпарцёрыць, збіраць інфармацыю для газеты. Зайшоў у Інбелкульт па Рэвалюцыйнай вуліцы. Падняўся наверх, у прыёмную прэзідэнта, фліртую з сакратаршай. Адначасова мне трэба даведацца, ці быў прэзідыум, якія пытанні абмяркоўваліся, і вывудзіць хаця б на паўгадзінкі пратакол. Кожная газета імкнулася апярэдзіць іншую ў падачы важнай навіны. Пра цікавосткі не толькі брату не расказвалі, а нават і жонцы, і вядома — нікому з калегаў. Нават у набор такія навіны засылаліся пазней за звычайныя матэрыялы, каб наборшчыкі не прагаварыліся і не передалі інфармацыю каму-небудзь з іншай газеты».

Рэжым штодзённай газеты патрабаваў максімальнага напружання і зладжанай арганізацыі. З самай раніцы — беганіна па горадзе і вычытка аналітычных матэрыялаў, апрацоўка афіцыйных паведамленняў і навін, да абеду — передача асноўнага матэрыялу ў друкарню наборшчыкам. Пакуль ідзе набор — тэрміновыя навіны і сабраныя рэпарцёрамі зацемкі едуць у друкарню па спецыяльнай канвеернай стужцы, што спускаецца зверху, з рэдакцыйных кабінетаў, у сутарэнне, дзе стаіць друкарскі станок. Часцяком тут жа месціцца і рэдактар, бо тэрміновыя

### Чытай савецкую прэсу правільна!

Першая і другая палосы савецкай газеты — заўсёды афіцыёз. Тут змяшчаюцца абавязковыя палітычныя навіны, справаздачы пра з'езды і выбары, найважнейшыя міжнародныя навіны, пададзеныя ў патрэбным ідэалагічным ключы. А вось пачынаючы з трэцяй паласы газета робіцца плюралістычнай. Асаблівую ўвагу на трэцяй-чацвёртай палосах трэба звяртаць на замалёўкі «з месцаў», падпісаныя не прозвішчамі, а літарамі, і асабліва — псеўданімамі кшталту «Беларус», «Тыя, каго не запрасілі», «Нязгодны» і гэтак далей. У іх гучыць адносна нецэнзураваны голас штодзённасці. Часцяком такія матэрыялы пісаліся самімі супрацоўнікамі газеты ад імя сялян альбо рабочых.
Апошнія палосы — сапраўдны «разгул» дэмакратыі, максімальна магчымы ў савецкай прэсе. Тут вы знойдзеце вершы і кароткія апавяданні, абвесткі аб пасяджэннях студэнцкага альбо акадэмічнага актыву, праз якія прагляне сапраўднае жыццё грамады, востры фельетон, водгук на спектакль ці кніжку, дзе крытык выкажа неафіцыйную пазіцыю. Тут жа будуць цікавыя звесткі з жыцця нібыта варожага буржуазнага свету — пазбаўленыя ідэалагічных акцэнтаў.

навіны таксама трэба вычытаць і дазволіць даваць у друк.

Як правіла, артыкулы напісаныя ад рукі, бо часу на машынны перадрук няма. Наборшчыкі — людзі абавязкова адукаваныя, бо менавіта тут, пры наборы, адбываецца і карэктура, выпраўляюцца арфаграфічныя памылкі, расстаўляюцца знакі прыпынку.

Сама рэдакцыя знаходзіцца на вуліцы Савецкай, непадалёк ад увахода ў Аляксандраўскі сквер — там, дзе цяпер Кастрычніцкая плошча. З цягам часу пад патрэбы прэсы быў аддадзены камфартабельны шматпавярховы асабняк, былыя жылыя апартаменты: масіўныя дзверы, высокая столь, ляпніна. Адзін паверх — у «Звязды», другі — у «Савецкай Беларусі», трэці — у «Беларускай вёскі». У сутарэнні — друкарня. Навокал — бурлівы і неспакойны горад.

### «Усё, што не прымала да друку "Звязда", перасылалі ў "Савецкую Беларусь"»

Газета, безумоўна, увесь час знаходзіліся пад пільным кантролем ЦК КПБ(б). Непасрэдны ідэалагічны нагляд ажыццяўляў АПА — аддзел прапаганды і агітацыі, але любы член ЦК мог адрэагаваць на публікацыі, запатрабаваць ад рэдактара «выпраўлення ўхілаў».

Знізу ж на рэдактара ціснуў уласны калектыў, сабраны з маладых і няўрымслівых паэтаў: камсамольскі актывіст Анатоль Ажгірэй-Вольны, упарты змагар з «русацяпствам» Алесь Дайлідовіч-Дудар, дасведчаны ў «высокай палітыцы», прынцыповы Уладзімір Дубоўка.

Вось як апісвае працэс «праціскання» патрэбнай публікацыі Дудар: «Назаўтра раніцою пайшлі ўсе разам да Чарота і звярнуліся да яго прыблізна з такою прамоваю: «Мы ад цябе ніколі нічога не прасілі і не патрабавалі, дык зрабі нам таварыскую ўслугу раз у жыцці — надрукуй гэты ліст [маецца на ўвазе адкрыты ліст літаратараў Андрэя ▸



# СУД.

## „Я кахаў яе".

Здарылася гэта ў вёсцы Кажушкі, Юраўскага сельсавету, Гомельскай акругі.

Жылі ў гэтай вёсцы два блізкія родзічы: Язэп Каляда і яго стрэчны брат Павал Скрыпка. Жылі ў прыязьні.

Язэп часта заходзіў да Паўла ў госьці, дапамагаў яму ў гаспадарцы.

Калі паміж сабой жылі яны як лепшыя сябры, дык яшчэ бліжэй былі адносіны Язэпа да жонкі Паўла—Ульляны: ён кахаў яе.

Кахаў, але віду не падаваў.

Часта заходзіў да Паўла і пачынаў свае доўгія размовы аб тым, што ён бачыў у горадзе, які ён пісьменны, як думае, наставіць культурна сваю гаспадарку.

Усе гэтыя размовы ён вёў з аднэй мэтай, каб мець магчымасьць сядзець ля Ульляны і распісваць перад ёй свае прыгожасьці.

Як глядзеў Павал на гэтыя гутаркі?

— Ну, што-ж, калі Язэпу ахвота гаварыць аб сабе, думаў Паўла,—хай гаворыць.

А, тым часам Язэп ад гутарак пачаў пераходзіць да справы. Калі брата ня было дома, ён прыставаў да Ульляны, каб яна addалася яму і, наогул, перайшла жыць да яго.

На ўсе гэтыя прыставаньні Язэпа Ульляна не здавалася.

А закаханасьць Язэпа ўсё расла.

І вось ён надумаў пазбавіцца ад Паўла: можа тады Ульляна зробіцца больш згаворчывай.

— 8-га жніўня 1926 году,—апавядае абвініцельнае заключэньне,—Павал Скрыпка со сваёй жонкай Ульлянай зьвяртаўся з поля; калі яны праяжджалі лесам, раздаўся выстрал, і Скрыпка ўпаў мёртвым.

Па падазрэньню затрымалі Язэпа Каляду.

Забойцам аказаўся ён.

— Я кахаў Ульляну, я хацеў такім чынам дабіцца яе,—сказаў у сваім апошнім слове падсудны Каляда.

Гомельскі акруговы суд прыгаварыў яго на 8 год зьняволеньня.

Я. Садоўскі.

**Адна з зацемак Яфіма Садоўскага ў рубрыцы «Суд».**

Александровіча, Міхася Зарэцкага і Алеся Дудара аб выхадзе з БДУ]». Чарот заікнуўся быў наконт таго, што, можа, не варта было б рабіць гэта, бо будзе вялікі скандал, але мы яму і гаварыць не далі. Тады Чарот паклікаў сакратара рэдакцыі і аддаў яму ліст для пасылкі ў друкарню. Аднак мы баяліся, каб Чарот не сазваніўся з кім па тэлефоне, і дзеля гэтага рашылі вачэй з яго не спускаць. І сапраўды, некалькі разоў на працягу дня Чарот памыкаўся пазваніць і стараўся як-небудзь нас выкурыць. Але мы хадзілі за ім назіркам. Пасля працы прыйшоў яшчэ Прышчэпаў, які аднёсся спачуваючы да нашай думкі, але знайшоў, што яна была занадта рэзка выражана. Здаецца, падышоў яшчэ Алесь Адамовіч, і тады мы ўсе разам выбраліся на кватэру да мяне і забралі Чарота, каб ён не змог затрымаць ліста. У мяне наладзілі закуску (выбралі маю кватэру, бо там нідзе паблізасці няма тэлефона) і выпусцілі Чарота толькі тады, калі былі спакойны, што ён ужо не здолее затрымаць ліст».

## Кадравы склад газеты ўвесь час цярпеў ад арыштаў

Дарэчы, калі Чарота выклікалі у ЦК з нагоды гэтага ліста і запыталіся, чаму ён не патэлефанаваў «наверх» і не ўзгадніў публікацыю, Чарот адказаў, што быў упэўнены ў забароне і менавіта таму не паведаміў, бо хацеў, каб гэты тэкст выйшаў на старонках газеты. Такая пазіцыя рэдактара не была выпадковасцю. У дакладзе старшыні беларускага ГПУ Грыгорыя Рапапорта за 1929 год адзначалася: «Усё, што не прымала да друку “Звязда”, яны [аўтары “нацдэмаўскіх” артыкулаў] перасылалі ў “Савецкую Беларусь”, і там усё выходзіла».

Кадравы склад газеты ўвесь час цярпеў ад арыштаў. І справа тычылася не толькі топавых аўтараў. У кнізе загадаў па рэдакцыі ад самага 1926 года можна сустрэць такія запісы: «Загад № 44 ад 31.05.26.




**У 1927 годзе «Савецкая Беларусь» пераехала ў «2-гі дом Саветаў», які захаваўся дагэтуль.** Цяпер у гэтым доме — жылыя кватэры і музей Петруся Броўкі, а на лесвічных клетках захаваліся пліткі, па якіх хадзілі адраджэнцы 1920-х.

ФОТА АНДРЭЯ ЛЫНЬКО

Машыністка-перакладчыца т. Макарэвіч звальняецца з пасады як арыштаваная»; «Загад б/н ад 18.08.26. Супрацоўнік рэдакцыі т. Градоўскі звальняецца са службы як арыштаваны ГПУ».

А было і так, што рэдактар Чарот адкрыта сабатаваў загады аб звальненні ненадзейных супрацоўнікаў. Прыкладам, вядомая такая дакладная запіска старшыні ГПУ БССР Рамана Піляра: «Згодна з пратаколам пасяджэння Камісіі па праверцы складу адказных работнікаў цэнтральных газет БССР ад 29 снежня 1928 года, быў намечаны шэраг супрацоўнікаў газеты "Савецкая Беларусь" да звальнення ў 2-тыднёвы тэрмін з дня зацвярджэння згаданага пратакола сакратарыятам ЦК КП(б)Б; да гэтай пары знятыя з працы толькі 4 чалавекі... астатнія ж працягваюць заставацца на службе, нягледзячы на тое, што ўжо хутка два месяцы з дня зацвярджэння пастановы ЦК КП(б)Б. У дачыненні да гэтых асоб з боку адказных работнікаў рэдакцыі "Савецкай Беларусі" робяцца спробы да пакідання ў рэдакцыі... як незаменных работнікаў».

### «Утульнае прыстанішча беларускіх нацыяналістаў»

Міхась Чарот быў звольнены з пасады рэдактара «Савецкай Беларусі» ў 1929 годзе, напярэдадні разгрому беларускай інтэлігенцыі па сфальсіфікаванай справе «Саюза вызвалення Беларусі». Сумнавядомая крамлёўская «камісія Затонскага», якая запусціла гэты працэс, дыягнаставала высокі ўзровень нацыянал-дэмакратычных настрояў у БССР і назвала цэнтральную газету «ўтульным прыстанішчам беларускіх нацыяналістаў».



**Міхась Чарот,** 1935 год.

Пачыналася забойчая калектывізацыя, адначасова Сталін пачаў рыхтаваць і вынішчэнне нацыянальных эліт — ад міністра да пісьменніка.

## У апошнія месяцы перад звальненнем Чарот не з'яўляецца ў рэдакцыі, бо моцна п'е

Сказаць па праўдзе, у апошнія месяцы перад звальненнем сам Чарот амаль не з'яўляецца ў рэдакцыі, ягоныя абавязкі фактычна выконваюць іншыя супрацоўнікі, бо рэдактар моцна п'е. Ён перастае не толькі займацца газетай, але і наогул сыходзіць з публічнай прасторы і літаратурнага працэсу. Да 1936 года Чарот займае тыя ці іншыя дэкаратыўныя пасады — загадчык літаратурнага сектара дзяржаўнага выдавецтва, кансультант у кабінеце маладога аўтара пры Саюзе пісьменнікаў, — але ні ў палітыцы, ні ў публіцыстыцы, ні ў літаратуры не адыгрывае больш ніякай сапраўднай ролі. У 1933-м спыняе існаванне і ягоная колішняя газета.

У 1936 годзе Чарота арыштоўваюць па сфабрыкаванай справе «нацыянал-фашысцкай арганізацыі», і пасля года катаванняў і допытаў расстрэльваюць 29 кастрычніка 1937 года. Разам з ім у гэтую самую ноч загінулі ягоныя колішнія паплечнікі па амбітнай рэдакцыі «Савецкай Беларусі» Алесь Дудар і Анатоль Вольны. ◆

### Самыя гучныя публікацыі на старонках «Савецкай Беларусі» пад рэдакцыяй Чарота

- Інтэрв'ю з удзельнікамі Акадэмічнай канферэнцыі ў Менску (лістапад 1926 года), у якіх далі слова, апроч іншых, былым сябрам урада БНР.
- Дыскусія паміж літаратурнымі таварыствамі «Маладняк» і «Узвышша», якая давала магчымасць апазіцыйнаму «Узвышшу» выказаць свае пазіцыі.
- «Тэатральная дыскусія» (восень 1927 года), у якой сцвярджалася першынство беларускага рэпертуару на сцэнах беларускіх тэатраў.
- Стэнаграмы судовых пасяджэнняў па справе Беларускай сялянска-работніцкай грамады ў Польшчы (сакавік 1928 года) і каментары з нагоды яе разгрому, якія выклікалі нервовую рэакцыю Масквы.
- «Ліст трох», у якім літаратары Алесь Дудар, Міхась Зарэцкі і Андрэй Александровіч аб'яўлялі аб выхадзе з БДУ ў знак пратэсту супраць згортвання беларусізацыі.




**Прускія воіны** на службе Тэўтонскага ордэна.

# «Пакаралі мячом кожнага, каго здолелі знайсці»

## Спецаперацыі і гібрыдныя войны Тэўтонскага ордэна ў Панямонні

**Самай вядомай сутычкай Тэўтонскага ордэна з усходнімі суседзямі была Грунвальдская бітва. Але змаганне крыжакоў з ліцвінамі і русінамі часцей вялося не ў вялікіх бітвах, а шляхам падступных спецаперацый, піша Уладзімір Кананові́ч.**

### Свяшчэнная вайна за рэсурсы

Продкі сучасных беларусаў і балтыйскіх народаў упершыню сутыкнуліся з крыжакамі ў самым пачатку XIII стагоддзя, калі нямецкія рыцары ўслед за нямецкімі купцамі высадзіліся на ўзбярэжжы Балтыйскага мора і заснавалі крэпасць Рыга, якая стала цэнтрам Ордэна мечаносцаў (ягоныя ўдзельнікі насілі звычайна белыя плашчы з выявай чырвонага мяча і чырвонага крыжа тампліераў-храмоўнікаў на спіне). Полацкі князь Уладзімір спрабаваў спыніць наступ крыжакоў, але, не маючы дастаткова ваенных сілаў, вымушаны быў саступіць ім Балтыку, уключна з княствамі Герцыке і Кукенойс.

Каля 1230 года іншы крыжацкі ордэн, вядомы як Тэўтонскі (Нямецкі), або, дакладней, як Ордэн Святой Дзевы Марыі (ягоныя ўдзельнікі насілі белыя плашчы з выявай чорнага крыжа на спіне) высадзіўся ў ніжнім цячэнні Віслы і на працягу наступных пяцідзесяці гадоў апанаваў Прусію. Праз 7 год Ордэн мечаносцаў, як слабейшы, быў фактычна падпарадкаваны Ордэну Святой Дзевы Марыі, і такім чынам крыжакі ў Прусіі і Лівоніі аб’ядналі свае сілы супраць ліцвінаў-язычнікаў і русінаў.

Ордэн і Літва ваявалі найперш таму, што абедзве новыя дзяржавы жадалі валодаць вялізнымі

### Спецыяльная аперацыя

гэта ваенная акцыя, якая ажыццяўляецца невялікім аддзелам у вызначаным месцы на працягу кароткага адрэзку часу, здольная, аднак, дасягнуць значных стратэгічных або палітычных вынікаў, несувымерных укладзеным у яе сродкам.

Менавіта такое вызначэнне ўвёў у гістарыяграфію ізраільскі гісторык Юваль Ной Харары ў сваёй манаграфіі «Спецыяльныя аперацыі ў эпоху рыцарства. 1100–1550». Мала хто ў Беларусі ведае, што аўтар сусветнага бестселера *«Sapiens. A Brief History of Humankind»* з'яўляецца па адукацыі гісторыкам-медыявістам, з-пад пяра якога выйшаў шэраг бліскучых прац па Сярэднявеччы. Ягоныя даследаванні такой складанай з'явы, як сярэднявечныя спецаперацыі, таксама зрабілі прарыў у гістарычнай навуцы.

матэрыяльнымі і людскімі рэсурсамі ў Балтыцы і разам з тым падпарадкаваць галоўныя гандлёвыя шляхі ў рэгіёне, асабліва ўздоўж такіх водных маршрутаў, як Дзвіна і Нёман.

Вядома, рыцары Тэўтонскага ордэна не казалі наўпрост, для чаго ваююць у Балтыцы і Усходняй Еўропе. Сваю вайскова-палітычную і эканамічную экспансію яны тлумачылі высокай мэтай навяртання ў сапраўднае хрысціянства (каталіцтва) мясцовых язычнікаў і праваслаўных русінаў-«схізматыкаў». У сувязі з гэтым удзельнікі ваенных выправаў былі абвешчаныя не заваёўнікамі, а прапаведнікамі.

Усё гэта абумовіла асаблівую жорсткасць і працягласць канфлікту паміж Тэўтонскім ордэнам і Літвой. Вайна, якая вялася самымі рознымі сродкамі, ад эканамічных і дыпламатычных да непасрэдна вайсковых, доўжылася амаль паўтара стагоддзя, з 1283 па 1422 год, пакуль над возерам Мельна ў Жамойці не была нарэшце падпісаная мірная дамова.

Ваенная тактыка рыцараў найчасцей заключалася ў арганізацыі буйнамаштабных выправаў на падкантрольную праціўніку тэрыторыю, гэтак званых **райзаў** (ад ням. *Reise* — падарожжа), у якіх бралі ўдзел некалькі тысяч заходнееўрапейскіх рыцараў і дапаможных аддзелаў.

Першаснай мэтай такіх выправаў былі багатыя і ўраджайныя землі Сярэдняга Панямоння, у першую чаргу вакол Гародні. Літва зацята абаранялася, бо Гародня, разам з Коўнам, Мерачча і іншымі гарадамі, была важным звяном у ланцугу абарончых замкаў у Панямонні. Сетка гарадоў на правым беразе Нёмана прыкрывала такія важныя палітычныя і стратэгічныя цэнтры Літвы, як Вільня, Трокі, Наваградак і Крэва. Ад абароны наднёманскіх замкаў залежала бяспека і нават само існаванне ВКЛ. ▶




**Рыцар Тэўтонскага ордэна.** Сучасная рэканструкцыя вопраткі і рыштунку.

### Сярэднявечны спецназ

Нават нягледзячы на тое, што спецыяльныя аперацыі былі неад'емнай часткай вайны ў Сярэднявеччы, сілы спецыяльнага прызначэння ўсё ж тады адсутнічалі. Адпаведна, не было і спецыяльнага навучання перад заданнямі. Большасць спецыяльных аперацый выконвалася рэгулярнымі вайсковымі аддзеламі, якія мелі багаты баявы досвед.

Выключэнне складала хіба што толькі мусульманская шыіцкая секта Нізары, больш вядомая як секта Гашышын (ад арабскага *hashīshīn* — «карыстальнікі гашышу», здзеклівая назва), або Ордэн асасінаў. Секта з'явілася ў гарах Паўночнага Ірана напрыканцы XI стагоддзя і мела выражаны міленарысцкі напрамак, гэта значыць, імкнулася звергнуць наяўны палітычны і сацыяльны лад.

Байцы, якія ўваходзілі ў Ордэн асасінаў, атрымлівалі добрую прафесійную і ідэалагічную падрыхтоўку, валодалі замежнымі мовамі, лёгка пранікалі на двары сваіх меркаваных ахвяраў і затым чакалі зручнага моманту, каб ажыццявіць свае планы.

Забойства звычайна адбывалася ўдзень у людным месцы — на гандлёвай плошчы, у палацы або нават у мячэці — ударам кінжала ў грудзі або спіну ахвяры. Асасіны такім чынам імкнуліся не толькі фізічна ліквідаваць сваіх наяўных ворагаў, але і запалохаць, застрашыць патэнцыйных, унушаючы ім, што калі трэба будзе, то яны дастануць іх у любым месцы.

На працягу паўтара стагоддзя Ордэн асасінаў трымаў у страху ўвесь Блізкі Усход — яго баяўся нават сам эмір Саладзін, — пакуль у сярэдзіне XIII стагоддзя ордэн не знішчылі манголы, якія бачылі ў асасінах выразную пагрозу для сябе.

Рыцары Тэўтонскага ордэна, якія пэўны час базаваліся ў Палесціне, добра ведалі пра практыку і метады дзейнасці асасінаў.

▶ З абодвух бакоў гэта было сапраўднае змаганне да знямогі. У выніку амаль бесперапынныя на працягу больш чым стагоддзя ваенныя дзеянні, якія суправаджаліся незлічонымі актамі гвалту, прывялі да вялізных стратаў і разбурэнняў у рэгіёне.

### Нож у спіну

У барацьбе з ліцвінамі і русінамі тэўтонскія ўлады абапіраліся не толькі на рэгулярнае рыцарскае войска і буйнамаштабныя райзы. Нярэдка яны звярталіся да паслуг невялікіх аддзелаў ірэгуляраў, кшталту партызанаў або дыверсантаў, якія праводзілі разнастайныя спецыяльныя аперацыі ў тыле ворага.

У першую чаргу спецаперацыі павінны былі застрашыць мясцовае насельніцтва, каб у яго прапала ахвота да супраціву, а таксама разбурыць мясцовую інфраструктуру і зменшыць мабілізацыйныя магчымасці праціўніка.

Аб адной такой аперацыі паведамляе нямецкі храніст Петэр з Дуйсбурга пад 1268 годам. Невялікі атрад з чатырох немцаў і адзінаццаці прусаў уварваўся ў яцвяжскую вёску ды забіў частку жыхароў, а яшчэ частку забраў у палон. Але калі той жа атрад на зваротным шляху спыніўся на адпачынак, раптоўна з'явіліся яцвягі і акружылі іх. Чатырох немцаў забілі, а прусы разбегліся па лесе, пакінуўшы на месцы зброю і харчы. Яцвягі вельмі ўзрадаваліся такой перамозе і пачалі піраваць, пасля чаго заснулі моцным сном. Што адбылося далей, прадказальна: крыжакі зноў аб'ядналіся, ціха пракраліся да яцвягаў ды забілі ўсіх, апроч аднаго, які мусіў служыць ім правадніком на шляху дамоў. Яго ліквідавалі таксама, як толькі ён выканаў сваю місію.

У наступны раз той самы атрад надвячоркам уварваўся ў іншую яцвяжскую вёску. Жыхары, не падазраючы пра небяспеку, займаліся хто чым: нехта яшчэ гаспадарыў, іншыя ўжо вячэралі, адна кампанія мылася ў купальні. У выніку раптоўнага нападу ўсе жыхары вёскі былі забітыя. Толькі ў адной купальні загінула дзесяць чалавек. ▶



**Выправа ў Панямонне з удзелам дапаможных аддзелаў Ордэна і іх англійскіх гасцей.** Аўтар малюнка — англійскі мастак Грэхам Цёрнэр.

### Напад на мірны абоз падчас крыжацкага рэйзу

літаратурна апісаў у гістарычным рамане «Пагоня на Грунвальд» пісьменнік Кастусь Тарасаў:



«Раптоўна ад галавы поезда пачуўся пужаючы лямант. Юры ўскочыў на ногі, угледзеўся. Нешта няўцямнае рабілася там: абоз спыняўся, рассоўваўся ўбакі, там шалёна крычалі мужыкі, і туды панеслася ахова. "Няўжо праломка? — падумаў Юры. — Праваліўся хто?"

Ды не палонкі спынілі абоз, а раптоўна ўспырхнула перад санямі прысыпаная снегам тоўстая, моцная, з жалезнымі жыламі вяроўка. Два хлопцы выхапілі мячы секчы перашкоду, але іх адразу звалілі стрэламі. Вазак на пярэдніх санях, які бачыў іхную смерць, залямантаваў: "Татнікі!" — і асадзіў каня. А на лёд, з абодвух берагоў Нёмана, з прыспалага лесу пачала выходзіць конная засада, і па шлемах, па вопратцы абознікі ўразумелі, што гэта не татнікі, а немцы. Яны выстройваліся ў шэраг, заступаючы шлях, прыпусцілі рыссю ўздоўж поезда. Крык "Немцы! Крыжакі!" пайшоў ад саней да саней і акрэсліў неспадзяванае бедства.

Ахова імкнулася зрабіць брэш у крыжацкім шэрагу і выпусціць абоз з пасткі. У таўкатні сутычкі вяроўку перасеклі, але немцы падбілі з самастрэлаў некалькі пярэдніх запрэжак, і коні, здыхаючы, павярнулі сані ўпоперак, закрылі дарогу. Тут вазакі ўжо адбіваліся сякерамі ад пешых кнехтаў.

У сані да Аленкі скочыў Гнатка. "Гані!" — крыкнуў ён Юр'ю і выхапіў з-пад саломы свой лук. Апякаючы коней пугай, Юры кіраваў на свабодны яшчэ лёд. Але ўжо і да іх ляцелі конныя крыжакі, нияк

наўскос, жахліва, трымаючы мечы. І закідваліся ў сёдлах пад трапнымі ўдарамі стрэлаў. Юры бачыў, што б'юць іх Гнаткавы стрэлы — яны з жыханнем праносіліся міма яго вуха. Страх, які працяў Юр'я пры першых смяротных крыках і звоне мечаў, знік. Юры прыняў адзіны клопат — вырвацца ад крыжакоў, вынесці гэты вазок з месца бою, уратаваць Аленку. Ім авалодала яснасць дакладных дзеяў, ён уразумеў, чаго чакае ад яго Гнатка. Па-драпежніцку пранікліва, шырока аглядаў ён прастору лёду, занятую бойкай, улоўліваў магчымую небяспеку — чыйсьці люты позірк, чыйсьці рух напярэймы — і браў убок, і падстаўляў цэлі Гнатку. Юры забыўся пра сябе, пра ўсе пачуцці; усё, што ён бачыў, — лужыны крыві пад параненымі, зваленымі коньмі, пасечаныя людзі, твары, знявечаныя стрэламі, — усё бачыў без жаху, сэрца яго нібы скамянела, нават крык Аленкі "Мама! Матуля!" не закранаў яго душы, наадварот, супакойваў: крычыць — значыць жывая і трэба ратаваць.

Данька Раговіч, пачуўшы крыкі "Немцы! Крыжакі!", вырашыў завярнуць каня, але ўгледзеў, што і ззаду абозу выходзіць на лёд засада. Хоць і няшмат іх было, але Данька зразумеў, што адну яго запрэжку яны не прапусцяць. Ён пагнаў наперад, як і ўсе. Прыкмеціўшы Гнатку, Раговіч прыстроіўся яму ўслед, адчуваючы ў асілку адзіную надзейную ахову. Марфа высунулася з вазка і, не бачачы дачкі, адчайна гукала: "Аленка! Аленка!"

Яны праносіліся міма вазоў з загубленымі коньмі, каля якіх біліся з кнехтамі абознікі. Кроў лілася на лёд, сякеры і мечы ўпіваліся ў галовы людзей, гучна, моташліва храбусцелі косці і чарапы. Параненыя, пазнаючы знаёмых, прасіліся стогнам: "Данька! Марфа!", укладаючы ў імя ўсю сваю надзею на выратаванне, заклік да літасці. Але не чуў і не зважаў на іх Раговіч, і не спыняліся сані.

Ужо бачыўся Раговічу край бою, за ім імчалі прэч дзве запрэжкі, і, зайздросцячы тым, хто пазбегнуў смерці і выратаваўся, ён прасіў Бога аб адзінай міласці. "Божа! — маліўся ён. — Зберажы коней, адвядзі стрэлы!" Але прыпрэжны раптам ускінуўся на задніх нагах, заіржаў і паваліўся на лёд, скасабочыўшы аглоблі. Данька палез рэзаць пастронак. Трымаючыся за пасак, ён паласнуў нажом па нацягнутаму пастронку, і тут яму ў спіну з пякучым болем уваткнулася страла і прышыла да конскага крыжа.

Марфа, ахопленая адчаем, выбралася з вазка і пабегла за Гнаткавымі санямі, заклікаючы: "Аленка! Дачушка! Гнатка!" А да яе няспешна скакаў нямецкі коннік.

У Аленкі, якая сачыла за санямі Раговіча, вырваўся адчайны, шалёны крык: "Мамка! Гнатка, мамку!" Падпарадкоўваючыся шаленству крыка, Гнатка абярнуўся. Убачылася яму, як Марфа цяжка, безнадзейна бегла за імі і як насоўваўся на яе конны крыжак. Немец павольна махануў мечам, і Марфа плазам павалілася на лёд.

Юры не азіраўся. Ён вышукаў сярод бою брэш, якую закрываў адзінокі кнехт. Той, наставіўшы кап'ё, нерухома сядзеў на кані. За ім нікога не было, на ім заканчвалася пагроза. Юры пагнаў коней проста на кнехта, і той не вытрымаў, забаяўся сутыкнення, узяў убок, і Гнатка працяў яго апошняй стралой.

Вырваліся. Ніякай перашкоды перад імі не было, наперадзе адыходзілі два вазкі, і трэба было імчаць услед за імі да бяспекі. Юры нарэшце зірнуў на Аленку. Яна раз'юшана, з жывёльным адчаем біла кулакамі па сваіх нядужых нагах. "Маці засталася, — зразумеў Юры, — а мы ляцім. Забыліся пра яе. Божа, што рабіць?"

— Гані! — змрочна загадаў яму Гнатка. Наўздагон ім імчалі два крыжакі.

Гнатка пацягнуў з похвы свой цяжкі двуручны меч. Моцныя, маластомленыя коні немцаў хутка насоўваліся.

— Ну, бывай! — сказаў Гнатка. — Зберажы яе! — І саскочыў на лёд.

Юры, крыху ад'ехаўшы, засаромеўся пакідаць дзядзьку і спыніў коней. Гнатка няспешна ішоў насустрач конным. Першы нёсся роўна на Гнатку, і Юр'ю здавалася, што дужы, хуткі конь саб'е Гнатку на лёд. Ужо два крокі раздзялялі іх, але ў апошні міг Гнатка спрытна ступіў у бок, меч яго бліснуў і дакрануўся крыжака. Не гледзячы, як той валіцца з сядла, Гнатка ў тры скачкі апынуўся перад другім немцам. Крыжак крыху збочыў; каб было зручна секчы, меч, высока ўзняты, пачаў падаць на Гнатку і ўпаў на лёд разам з адсечанай немцавай рукой.

Юры, знерухомлены жахам смяротнай бойкі, раптам прыкмеціў, што вазок пусты, Аленкі няма, і ўбачыў, як яна чыкільгае назад, да маці.

Юры саскочыў, схапіў дзяўчыну на рукі і пабег да саней. Але перад самым вазком нешта моцна ўдарыла яго ў плячо; ён спатыкнуўся, упаў на Аленку і не мог падняцца, адчуў, як ад пляча разыходзіцца па ўсім целе востры, пякучы боль. Ён намогся, павярнуў галаву і ўбачыў над плячом апераны канец стралы. Аленка шалёна лямантавала, драпала яму твар, спрабуючы вызваліцца. Раптам моцныя рукі паднялі яго, ён апынуўся на саломе, убачыў побач збялелы Аленчын твар, пачуў рып палазоў і абязволіўся...»

**Вялікі рэфекторый (трапезная)** з кухняй і складам правіянту. Гэта галоўнае прадстаўнічае памяшканне замка, у якім пры патрэбе мог быць праведзены прыём з удзелам да 400 чалавек. Гэта была адна з найвялікшых залаў у сярэднявечнай Еўропе. Перад рэфекторыем месцяцца лазня і студня, з якой бралі ваду.

Уезд на замкавы дзядзінец, узмоцнены брамнай вежай. Праезд у гэтую частку замка з Ніжняга замка (фактычна перадзамча) рабіўся праз драўляны мост пад дахам вежы.

**Усходняе крыло Сярэдняга замка** — розныя памяшканні для гасцей-законнікаў. Наперадзе — капліца Святога Барталамея, прызначаная для забеспячэння духоўных патрэб тых жа гасцей.

**Капліца Святой Кацярыны** — асабістая малельня вялікіх магістраў. Паколькі крыжацкія ордэны былі духоўна-рыцарскімі, то на чале іх стаялі каталіцкія манахі, якія рэгулярна маліліся. Капліца мае непасрэдную сувязь з палацам вялікіх магістраў, які знаходзіцца ззаду па-за кадрам.

Многія крыжацкія замкі мелі форму, набліжаную да прастакутніка ці квадрата. Такую схему абарончых умацаванняў крыжакі запазычылі з араба-сірыйскай архітэктуры, якая, у сваю чаргу, пераняла антычныя традыцыі рымскіх і візантыйскіх абарончых абозаў.

### У гарады таксама прыходзілі

Безабаронныя вёскі былі лёгкай здабычай тэўтонскіх дыверсантаў. Аднак большую спакусу ў іх выклікалі ўмацаваныя паселішчы — гарады і замкі, якія з'яўляліся важнымі ваеннымі, палітычнымі, эканамічнымі і рэлігійнымі цэнтрамі. Без авалодання цвярдынямі цяжка было разлічваць на ўстойлівы і працяглы кантроль навакольнай тэрыторыі, бо ў любы момант можна было чакаць удару ў спіну ад праціўніка або разрыву ўласных транспартных камунікацый.

Узяць крэпасць або замак у Сярэднявеччы ў выніку аблогі было надзвычай цяжкай справай, тагачасны стан асаднага майстэрства і ўзбраення не дазваляў хутка схіліць гарнізон фартэцыі да капітуляцыі. Таму нярэдка для гэтага выкарыстоўвалі тыя ж спецыяльныя аперацыі.

Адзін з першых такіх выпадкаў меў месца ў 1284 годзе, калі вялікае крыжацкае войска падышло да Гародні. На той час мясцовы замак меў вялікае палітычнае і ваеннае сімвалічнае значэнне, і ўзяць яго было гонарам для крыжакоў. І наадварот: страта такога важнага ўмацаванага паселішча магла сур'ёзна падарваць прэстыж улады вялікіх князёў літоўскіх у рэгіёне.

Крыжакі добра падрыхтаваліся для аблогі і штурму Гарадзенскага замка. На чале крыжацкага войска стаяў Скуманд, нобіль з Судовіі,

# Мальбарк — сталіца Ордэна

SHUTTERSTOCK.COM, BY ALVYDAS KUCAS

**Польскі горад Мальбарк** (раней Марыенбург) — сталіца Тэўтонскага ордэна. Пышны крыжацкі замак — сёння галоўная атракцыя горада. На здымку — Сярэдні замак, акрамя яго ў замкавым комплексе ёсць яшчэ Верхні і Нізкі замкі.

які нейкі час служыў вялікаму князю літоўскаму Тройдзеню (1270–1282), але пасля смерці апошняга вярнуўся дамоў, хрысціўся і неўзабаве паступіў на службу магістру Тэўтонскага ордэна. Скуманд, які, несумненна, быў добра абазнаны ў сістэме фартыфікацый Гародні, адыграў найважнейшую ролю ў авалоданні гэтым буйным умацаваным цэнтрам. Не выключана, што сярод абаронцаў Гарадзенскага замка ён меў уласных інфарматараў і тых, хто памятаў яго па ранейшай службе Тройдзеню і сімпатызаваў яму.

Прыступаючы да штурму Гарадзенскага замка, Скуманд так размясціў сваіх лучнікаў, каб прычыніць найбольшую шкоду абаронцам фартэцыі. Пасля гэтага да муроў прыставілі лесвіцы, па якіх прусы імкліва ўзняліся ўверх і трапілі ўнутр замка. Абаронцы, сярод якіх было мноства прусаў-уцекачоў з ордэна, адчайна супраціўляліся. Тым не менш замак быў захоплены, а затым і спалены. Можна меркаваць, што гэты захоп Гарадзенскага замка ўлетку 1284 года быў адной з найбольш удалых спецыяльных аперацый Тэўтонскага ордэна.

### Для чаго яшчэ нападалі

Нярэдка мэтай спецыяльных аперацый ордэна была ліквідацыя або захоп у палон канкрэтных персон.

У 1286 годзе, як паведамляе Ян Длугаш, нейкі літоўскі князь Пелюза, моцна гневаючыся на аднаго са сваіх найбліжэйшых сваякоў, тайна ўцёк у Тэўтонскі ордэн і пераканаў аднаго з комтураў (так называлі мясцовых начальнікаў ордэна) даць яму невялікі аддзел з дваццаці чалавек. З гэтым аддзелам ён вяртаецца ў Літву, затым, верагодна дзякуючы подкупу варты, трапляе ў замак вялікага князя, дзе ў той час святкавалі нейкія важныя заручыны.

Як толькі гаспадар і госці пасля сытнай ежы і ў моцным падпітку леглі спаць, Пелюза з аддзелам уварваўся ў пакоі і забіў 70 нобіляў, разам з іхнімі жонкамі і жанчынамі. Нападнікі знялі з целаў забітых усе ўпрыгожанні і, захапіўшы з сабой жаніха і нявесту, у суправаджэнні некалькіх жанчын і дзяцей вярнуліся ў ордэн.

Часам тэўтонскія аддзелы выкрадалі і больш важных асобаў праціўніка, але не падобна, што іхні захоп быў галоўнай мэтай выправы — хутчэй, тыя выпадкова ў ходзе нападу траплялі ў рукі тэўтонскіх рыцараў і апалчэнцаў.

Вельмі рэдка мэтай спецыяльных выправаў быў захоп або знішчэнне вайсковага рыштунку праціўніка, у першую чаргу рачных суднаў і асадных прыладаў, а пазней, з другой паловы XIV стагоддзя, і гармат.

### Шанцавала не заўжды

Не ўсе спецыяльныя аперацыі Тэўтонскага ордэна супраць Літвы былі паспяховымі. Часам перашкодай былі прыродныя ўмовы. Напрыклад, у 1375 годзе комтур з Балгі з вайсковым аддзелам мусіў адмовіцца ад выправы толькі з-за таго, што ў час адлігі растаў лёд на Нёмане і аддзелу не было як пераправіцца на другі бераг.

Нярэдка старожа ліцвінаў паспявала папярэдзіць мясцовае насельніцтва пра надыход прускіх аддзелаў. Так, у 1378 годзе Віганд з Інстэрбурга з невялікім аддзелам, пераправіўшыся цераз Нёман, падышоў да невялікай вёскі каля Коўна, але, даведаўшыся, што яе жыхары ўжо падрыхтаваліся да іх прыходу, вымушаны быў павярнуць назад.

Бывалі і стратныя ў людскім вымярэнні правалы. Напрыклад, у 1375 годзе прэфект Растэнбурга, па загадзе комтура з Балгі, паслаў нейкага рыцара, якога звалі *Lupus Leo*, Воўк Леў, на чале 30 мясцовых апалчэнцаў у падгарадзенскі Пусташ дзеля рабавання. Аднак літоўская старожа ў Пусташы своечасова заўважыла надыход прускага аддзела і тэрмінова паведаміла кашталяну замка ў Гародні. Кашталян з войскам русінаў імгненна (і, галоўнае, ▸




**Прускае апалчэнне.**

таемна) прыбыў у Пусташ і напаў на прусаў. У выніку кароткага бою сам *Lupus Leo* быў паранены і ўзяты ў палон. Такі ж лёс напаткаў амаль увесь ягоны аддзел. Толькі адзін з праваднікоў вярнуўся цэлым дамоў, дзе і паведаміў пра тое, што адбылося ў Пусташы.

## Штрутары і экспларатары

Для правядзення спецаперацый кіраўніцтва Тэўтонскага ордэна, як цэнтральнае, так і мясцовае, у дадатак да рэгулярных ваенных сілаў мела ў сваім распараджэнні невялікія нерэгулярныя вайсковыя аддзелы.

Адным з такіх фарміраванняў былі віцінгі, якія рэкрутаваліся са свабоднага насельніцтва Прусіі. Этымалогія гэтага слова да канца не высветленая. Фактычна віцінгі былі асобным войскам спецыяльнага прызначэння на службе тэўтонскіх уладаў у Прусіі. Яны складалі асобную харугву, мелі адметны сцяг і вайсковую амуніцыю. Як дапаможнае войска, бралі актыўны ўдзел у райзах, дзе на іх ускладаліся розныя спецыяльныя задачы. Так, у часе выправы 1382 года, калі рыцары панеслі вялікія страты ад войска князя Вітаўта, для якога гэта была адна з першых выправаў у Прусію, то менавіта віцінгаў адправілі на дапамогу асноўнаму крыжацкаму войску. У выніку бою віцінгі змусілі ліцвінаў адступіць: мноства воінаў Вітаўта было забіта, але сам князь здолеў пазбегнуць палону.

Былі на службе тэўтонскіх уладаў і іншыя сілы спецыяльнага прызначэння. У тагачасных крыніцах Тэўтонскага ордэна ваяроў гэтых аддзелаў называлі або *struter*, або *latrunculus*, або *explorator*. Гэтыя словы паходзяць з нямецкай і лацінскай мовы і абазначаюць адно і тое ж: «рабаўнік», а таксама «выведнік».

Штрутары мелі добрую індывідуальную падрыхтоўку, бліскуча арыентаваліся на мясцовасці, выдатна ведалі мясцовыя звычаі і гаворкі. Іх аддзелы падпарадкоўваліся, як правіла, памежным тэўтонскім уладам — комтурам (мясцовы кіраўнік) або кашталянам замкаў. Такія аддзелы звычайна налічвалі ад некалькіх чалавек да дзясяткаў, якія маглі быць як мясцовымі прусамі, так і нямецкімі рыцарамі.

У арганізацыі спецыяльных аперацый супраць памежных земляў Літвы асабліва вызначыўся згаданы вышэй комтур памежнага Інстэрбурга (цяпер Чарняхоўск у Калінінградскай вобласці Расіі) Віганд фон Бельдэрхайм. Дзеля гэтага ён трымаў цэлы штат адпаведных байцоў. Вось як апісвае адну з ягоных выправаў у 1372 годзе нямецкі храніст Віганд з Марбурга: «Ён адправіўся ў Пусташ з сотняй выбраных людзей, каб рабаваць і застрашваць язычнікаў. Яны злезлі з коней на беразе ракі Шэшупэ, паелі і выпілі, а пасля селі на коней і неўзабаве пераправіліся цераз Нёман. Затым напалі на чатыры вёскі, жыхары якіх не былі папярэджаныя пра іх надыход, і пакаралі мячом кожнага, каго толькі здолелі знайсці, калі тыя рыхтаваліся да сну».

Штрутары звычайна займаліся дыверсійнай дзейнасцю на тэрыторыі праціўніка, а таксама выступалі часам у ролі праваднікоў для крыжацкага




**Муры Старога замка ў Гародні.** Гэта ім прыходзілася цярпець напады рыцараў і дыверсантаў Тэўтонскага ордэна.






**Тэўтонскі ордэн напрыканцы XIV стагоддзя.**

войска. Нярэдка яны выконвалі і функцыі выведкі. Так, напрыклад, комтур з Рэйна (цяпер Рын у Польшчы) даносіў вялікаму магістру 19 чэрвеня 1419 года, што ён распарадзіўся паслаць штрутараў у напрамку Гародні, Пералаі (сучасная Перлоя ў Літве) і Мерачы (сучасны Мяркіне ў Літве), каб разведаць агульнае становішча і настроі ў зямлі. З гэтай мэтай штрутары захапілі языка-русіна, бондара па прафесіі, які жыў за 6 міляў на ўсход ад Гародні.

Язык аператыўна быў дастаўлены комтуру, дзе паведаміў таму шмат цікавых вестак пра становішча ў Літве. У прыватнасці, ён апісаў будаўнічыя і аднаўленчыя работы на замку ў Гародні. Паведаміў пра вялікі пажар на Высокім замку ў Вільні, пасля якога сам вялікі князь Вітаўт знаходзіўся ў горадзе сорак дзён і кіраваў аднаўленчымі работамі. Таксама язык распавёў пра загад Вітаўта ўсёй шляхце быць напагатове на выпадак уварвання татараў. Нарэшце язык дадаў, што ў Літве асцерагаюцца мяцежнага князя Свідрыгайлы, які ўжо дастаткова нарабіў шкоды ў краі.

Варта адзначыць, што Літва не толькі актыўна шукала шляхі і спосабы, каб супрацьстаяць спецыяльным аперацыям Тэўтонскага ордэна, але і праводзіла ўласныя. Але пра іх пагаворым наступным разам. ◆



Раскажыце нам пра вашу родавую вёску або дом, квартал у горадзе — для нашай рубрыкі **«Нацыянальная геаграфія»**.

У ёй ужо пісалі пра:
Калоднае, Столінскі раён;
Бершты, Шчучынскі раён;
Чыжоўскія могілкі, Мінск;
Унорыца, Рэчыцкі раён;
Трашчычы, Карэліцкі раён.

# Рута не народная прыправа. Але народны сімвал

SHUTTERSTOCK.COM, BY J. LEKAVICIUS

**Быў час, пераконвае доктар гісторыі Алесь Белы, калі руту можна было сустрэць амаль у кожным агародзе. Праўда, садзілі яе не столькі з кулінарных разлікаў, колькі сімвалічных.**

Рута духмяная (лац. *Ruta graveolens*) — травяністая шматгадовая расліна з моцным пахам, якая яшчэ нейкіх 100 гадоў таму займала прыкметнае месца ў беларускай народнай культуры, прынамсі ў рытуалах і песнях. І шырока культывавалася на вясковых падворках. Але за гады савецкай улады яна амаль дазвання знікла з народнай памяці. Але ж некалі рута ўспрымалася як паэтычны сімвал гістарычнай Літвы, а для аднаўленай незалежнай Літвы — і даваеннай, і сучаснай — стала і цалкам афіцыйнай кветкай-сімвалам. Паспрабуем разабрацца ў каранях гэтага сімвалізму.

## Ці то цыбуля, ці то блакітны сыр

Рута — ураджэнка Міжземнамор'я. У нашым клімаце яна не сустракаецца ў дзікарослым выглядзе, бо ў халодныя зімы можа вымярзаць. Лісце мае блакітнавата-зялёны колер, а пяціпялёсткавыя вошчаныя кветкі — жоўты.

Па сутнасці, рута — атрутная расліна, праз розныя алкалоіды, кумарын і іншыя шкодныя рэчывы, якія ўтрымлівае. Але гэта толькі ў вялікіх дозах. У малых жа маладая трава, высушаная і здробленая, выкарыстоўваецца як прыправа: для пасыпкі бутэрбродаў, дадавання ў салаты, араматызацыі лікёраў і налівак. Хаця беларуская народная кухня такога ўжытку амаль не ведала. Смак руты нагадвае нешта сярэдняе між часнаком, цыбуляй і блакітным сырам з цвіллю.

## У дзявочых садках

Безумоўна, расліна мае пэўнае дэкаратыўнае значэнне, але ўсё-такі асноўная прычына, дзеля чаго яе даўней шырока вырошчвалі на нашых агародах, іншая. Гэта яскрава бачна з беларускага песеннага фальклору, у якім рута — вельмі часты элемент вясельнай абраднасці.

У першую чаргу рута ішла на вясельны вянок. Або вялікі накшталт «абруча» на галаву, або маленькі, які прышпільвалі на макаўцы падчас пасаду, а потым на намітку. Рыхтавацца да вырабу вянка пачыналі задоўга да самога вяселля. Як толькі маладая дзяўчына дасягала паўналецця,

яна пачынала сеяць і даглядаць на гародзе некалькі раслінаў або граду руты, працягваючы рабіць гэта аж да самага шлюбу. Гэтая традыцыя і тлумачыць, чаму рута так часта сустракаецца ў лірычных песнях. У каталіцкай традыцыі руту было прынята высаджваць на дзень святога Юрыя, 23 красавіка.

Паколькі вяселлі гулялі таксама ўвосень і ўзімку, дзяўчаты руту яшчэ і засушвалі: а раптам тэрмінова спатрэбіцца? Расліну не толькі ўплyталі ў вянкі, але і ўпрыгожвалі ёю шлюбныя сукенкі і рабілі бранзалеты, каб засцерагчыся ад сурокаў.

## Руту сеялі, бо з яе рабілі вясельныя вянкі

У некаторых мясцовасцях існавала такое павер'е: «Дружкі [так раней па-беларуску называлі "сведкаў" на вяселлі, якія адыгрывалі важную ролю ў цырымоніі. Правільны націск: дру́жка, дру́жкі] пільнуюць, уся дружына глядзіць, і маладая таксама ўвесь час асцерагаецца, каб з вянка, які аздабляе яе галаву, не адшчыкнуў хто-небудзь лістка руты, бо ў такім разе не зможа яна ўжо зберагчы ніводнага з тых дзетак, якіх ёй наканавана мець».

Этнограф Міхал Федароўскі таксама пісаў, што ў канцы XIX стагоддзя ў Гродзенскай губерні жаніх для выкупу нявесты прыносіў яе сяброўкам адмысловы пачастунак, у склад якога ўваходзіла і бутэлька гарэлкі, абвітая зялёным аўсом, калінай і рутай (усё — сімвалы з жаночым і шлюбным сэнсам).

Пасля вяселля маладыя жанчыны больш ужо не сеялі руту. У літоўскіх песнях выраз «растаптаць руцвяную градку» азначаў «пазбавіць цноты», авалодаць дзяўчынай першы раз. А вянок пасля першай шлюбнай ночы належала спаліць. І калі дзяўчаты доўга затрымліваліся ў дзеўках, дык высяванне імі руты служыла дадатковай нагодай для кпінаў бессардэчнага асяроддзя.

### Вывучаны сімвал

Адкуль паходзіць устойлівы вясельны сімвалізм руты? Рымляне, ад якіх культ расліны шырока распаўсюдзіўся па ўсёй Еўропе, верылі, што рута — моцны жаночы афрадызіяк, які спрыяе раскрыццю схаваных сэксуальных жаданняў пад уздзеяннем моцнага водару. І цалкам магчыма, што старадаўні сімвалізм руты ў вясельных рытуалах узыходзіць менавіта да гэтых вераванняў.

З другога боку, адвар руты — даўні сродак для штучнага перапынення цяжарнасці (пра гэта пісаў яшчэ славуты рымскі энцыклапедыст Пліній Старэйшы), што надавала схаванаму ў руце эратызму адценне прыхаванай злавеснасці.

Хрысціянства, вядома, не магло пакінуць руце такую трактоўку, але захавала яе шырокае выкарыстанне падчас заручын і шлюбаў, пераасэнсаваўшы расліну як сімвал дзявочай чысціні. Таму вянок з руты дзяўчына магла надзець на галаву толькі аднойчы ў жыцці. Удава, нават вельмі маладая, такога права ўжо не мела. Распаўсюджаны быў таксама звычай выкарыстоўваць галінкі руты, каб акрапляць вернікаў падчас набажэнства святой вадой. Адсюль народная англійская назва руты *herb-of-grace*, «зелле Божай ласкі».

У фінале «Гамлета» Уільяма Шэкспіра Афелія раздае ▸

### «Вяне рута ля прысадаў»

Вядома шмат беларускіх вясельных песень са згадкамі пра руту: «Рутачка мая зялёна, у тры радочкі саджона...», «У гародзе мята, у садочку рута», «Чыя рута за ракою, Божа наш! Зарасла травой лебядою, Божа наш!».

Часам гэтыя песні іранізуюць над тым, што дзяўчына быццам бы мала клапацілася пра сваю руту, часам расліна выступае як настальгічны сімвал утульнасці і бесклапотнасці жыцця ў бацькоўскім доме, па кантрасце з калючым ядлоўцам, які ўвасабляе цяжкасці дарослага замужняга жыцця. А некаторым рута варожыць нешчаслівае каханне (або шлюб) ці здраду нарачонага, і ў выніку — трагічную раннюю смерць.

Група «Мроя», якая пасля ператворыцца ў N.R.M, у 1986 годзе вярнула ва ўжытак песню «Вяне рута ля прысадаў».





SHUTTERSTOCK.COM, BY VENOT

**Вянок з руты.** Праўда, без васількоў.

галоўным героям трагедыі розныя кветкі, у тым ліку сабе і каралеве Гертрудзе — руту: ёй на знак здрадніцкага шлюбу з забойцам мужа, сабе — як прадвесце заручынаў з хуткай смерцю. Гэты другі, трагічны, сімвалізм руты быў шырока вядомы і ў нас. Калі дзяўчына памірала маладой, быццам заключыўшы шлюб са смерцю, рута выступала сведкам і гэтага шлюбу. Вяночак або букет з руты тады клалі ў труну (часам гэтаксама хавалі і маладых хлопцаў). Бывала і так, што з руты, разам з іншымі зёлкамі, рабілі моцны адвар для апошняга абмывання нябожчыка.

## Абкладзіся рутай — і пераможаш!

Руце здаўна прыпісваліся лекавыя і магічныя ўласцівасці (у міфалагічным мысленні яны не падзяляліся). Падчас эпідэмій XVI–XVII стагоддзяў у Еўропе лічылі, што раскіданае па падлозе лісце руты здольнае адагнаць інфекцыю. Рутай націраліся, каб засцерагчыся ад чумы, яе дымам абкурвалі памяшканні, пасыпалі вопратку і ложак, каб пазбавіцца ад блох і вошай.

Руту вырошчвалі ў папулярных у Сярэднія вякі аптэчных гародах, асабліва ў манастырах, дзякуючы яе меркаванай здольнасці здымаць палавое ўзбуджэнне ў мужчын. Паводле старажытнарымскага энцыклапедыста Плінія Старэйшага, ласка, якая наесца руты, здольная бяспечна паляваць на змей — адгалосак веры ў руту як ва ўніверсальны супрацьатрутны сродак. У зельніку Марціна Сенніка (1568) дэкларавалася: «хто абкладзецца рутай, што месца голага не будзе, тады такі чалавек можа забіць васіліска без усялякай шкоды і паранення».

У сучаснай медыцыне ўжываецца ў якасці спазмалітыку, выкарыстоўваецца для лячэння бяссоніцы, галаўнога болю, неўрозаў і іншага.

**У літоўскіх песнях выраз «растаптаць градку руты» азначаў авалодаць дзяўчынай першы раз**

Шырокае распаўсюджанне руты — феномен эпохі барока. Шырокая сетка езуіцкіх калегіумаў, якая пачала разрастацца з апошняй чвэрці XVI стагоддзя, і той комплекс ведаў і вераванняў пра рымскую антычнасць, які там вывучаўся, — вось крыніца распаўсюду гэтага культу. Тое, што ва ўсіх мовах народаў былой Рэчы Паспалітай выкарыстоўваецца лацінская назва расліны, сведчыць пра яе нядаўні, запазычаны сімвалізм.

Ад адукаваных у лацінскай традыцыі людзей, духоўных і свецкіх, звычай выкарыстання руты ў шлюбах і заручынах, а з цягам часу і ў пахаваннях, распаўсюдзіўся і на народныя масы.

## «А ў адным гародзе — рутачка, А ў другім гародзе — мятачка»

Яшчэ адно сведчанне народна-хрысціянскага паходжання культу руты — частае яе суседства ў беларускім і ўкраінскім фальклоры з мятай. Часам «рута-мята» выглядае як нейкая адна «гібрыдная» магічная расліна. Гэтае спалучэнне відавочна ўзята з Евангелля ад Лукі (11, 42): «Ды гора вам, фарысеям, што даяце дзесяціну з мяты, руты і ўсялякай гародніны...».

## Без класікаў не абышлося

У XIX стагоддзі рута зрабілася паэтычным сімвалам Літвы. Гэтаму паспрыяў паэтычны геній Адама Міцкевіча, які двойчы згадаў руту ў паэме «Пан Тадэвуш». Па-першае, у сцэне ўзаемнага прызнання


**Сучасная медыцына** працягвае выкарыстоўваць руту.

SHUTTERSTOCK.COM, BY MADELEINE STEINBACH




Аліцыя Бахледа-Цурусь у ролі Зосі з фільма Анджэя Вайды «Пан Тадэвуш». **Актрыса прыбраная ў сукенку колеру руты, як таго патрабуе паэма. І на галаве ў Аліцыі — рутавы вянок.**

Тадэвуша і Зосі ў фінале, калі апрануў Зосю ў «зялёную, быццам з руты» сукенку.

Гэтую сцэну вельмі любілі (і дагэтуль любяць) ілюстратары паэмы. Цікава, што ўжытае тут параўнанне «зялёны, як рута» — шырока вядомае таксама і традыцыйнай народнай вобразнасці, хаця рэальная рута — зусім не эталон зялёнага колеру, бо ў ёй дамінуюць адценні блакіту і шэрані.

А ў эпілогу паэмы вобраз руты з вясельнага вянка падсумоўвае ўвесь доўгі шэраг намаляваных аўтарам настальгічных вобразаў:

…Зайздросцілі мы песнярам
іх славы,
Што там яшчэ ў лясах гудзе і ў полі,
Якім мілей, чым лаўры Капітоля,
Вянок, сялянкі сплецены рукамі,
З лістоў зялёнай руты з васількамі.
(Пераклад Пятра Бітэля)

Распаўсюджанасць вясельных (у меншай ступені велікодных і пахавальных) абрадаў і песень, звязаных з рутай, у Літве, Польшчы, Беларусі і Украіне — адносна аднастайная. Магчыма, у польскай культуры інтэнсіўнасць згадак руты нават і найбольшая, паколькі хваля распаўсюджання класічнай езуіцкай адукацыі ішла адтуль на ўсход. Але сплецены рукамі простай сялянскай дзяўчыны вянок з руты і васількоў на працягу паўстагоддзя пасля публікацыі «Пана Тадэвуша» (1834) робіцца агульнапрынятым менавіта сімвалам Літвы — у польскамоўным чытацкім свеце. Усё гэта дзякуючы паэтычнаму генію Міцкевіча і агульным рамантычным сімпатыям да былога ВКЛ як да самай прыгнечанай чужынскай уладай часткі былой Рэчы Паспалітай. Некалькі песень пра руту ёсць і ў «Хатніх спеўніках» аўтарства Станіслава Манюшкі.

А на літоўскамоўную Літву патрыятычны сімвалізм руты быў перанесены ў праграмным вершы класіка літоўскай літаратуры Майроніса «Вянок з руты» (*«Rūtų vainikas»*, 1895). Майроніс (сапраўднае імя Ёнас Мачуліс), як і наш Янка Купала, пачынаў пісаць па-польску і, канечне, быў добра абазнаны ў польскамоўнай літаратуры «ліцвінаў». Вобраз з паэмы Міцкевіча разгортваецца ў яго ў велічны эпічны вобраз Літвы (дзяўчыны, якая разумеецца як будучая маці). Пасля гэтага на працягу даволі кароткага часу рута ў актывістаў літоўскага нацыянальнага руху пачынае ўспрымацца як «спрадвечны» сімвал краіны. ▶

## Прычым тут манашкі?

У сучаснай Літве нярэдка можна пачуць версію, быццам менавіта абартыўныя ўласцівасці руты паслужылі яе асэнсаванню ў якасці сімвала дзявочай чысціні. Маўляў, распаўсюджвалі расліну пераважна каталіцкія манашкі, якія ўжывалі яе, каб пазбегнуць непажаданых вынікаў забароненых асалодаў — адсюль такі сімвалізм з двайным дном. Але гэта выглядае хутчэй як народны псеўдагістарычны анекдот.

## Ці існуе чырвоная рута?

Чырвоная рута заходнеўкраінскага фальклору — вобраз цалкам міфалагічны. У Карпатах верылі, што на Купалле жоўтыя кветкі руты на некалькі хвілін чырванеюць, і калі паспець іх сарваць, дык можна здабыць каханне любога пажаданага чалавека. У іншых жа выпадках так называлі цалкам канкрэтныя, але зусім не родныя сапраўднай руце расліны з чырвонымі кветкамі, часцей за ўсё — рададэндран карпацкі.

Тым не менш калі звычайнага, не надта абазнанага ў батаніцы чалавека з постсавецкай прасторы, у тым ліку і беларуса, запытацца, якога колеру расліна рута, большасць, не задумваючыся, відаць, адкажа, што чырвонага. Прычына гэтага на паверхні — ультрапапулярнасць у савецкія часы ўкраінскамоўнага песеннага хіта «Червона рута» на словы і музыку Уладзіміра Івасюка ў выкананні Сафіі Ратару. Гэтая песня, напісаная ў 1970 годзе, дагэтуль з'яўляецца сапраўдным сімвалам украінскага эстраднага мастацтва. Акрамя Ратару, яе ахвотна ўключаюць у свой рэпертуар многія іншыя як украінскія, так і замежныя выканаўцы. Гэтая песня — сапраўдны шэдэўр.

**«Червона рута»** ў выкананні беларуска-расійскага спевака ўкраінскага паходжання Яраслава Еўдакімава, 2013 год



▸ Калі Літва ў 1918 годзе здабыла незалежнасць, рута была ўжо агульнапрынятым знакам, у тым ліку для тых, хто ніколі не чытаў Міцкевіча. Дарэчы, зборнік перакладаў Майроніса на беларускую, выдадзены ў 2018-м, атрымаў гаваркую назву «Вянок з руты».


Сушаную руту можна ўжываць як прыправу.

SHUTTERSTOCK.COM, BY HEIKE RAU

## «З руты-мяты ёй вяночак клалі на галоўку»

### Вянок на Бандароўне

Нягледзячы на шырокую вядомасць руты беларускаму фальклору, у прафесійных беларускіх літаратуры і мастацтве гэты вобраз выступае нячаста. Хоць у Канстанцыі Буйло ёсць верш «Рута» (1914) пра бедную дзяўчыну, у якой разарвалася сэрца, што яе прымусілі ісці замуж за багатага, але старога і нялюбага, а сплецены ёю з руты вянок «з дня на дзень вяў і сох штораз болей».

Падобным чынам згадвае руту і Янка Купала, калі апісвае пахаванне забітай Бандароўны ў аднайменнай паэме (1913):

З руты-мяты ёй вяночак
Вілі у дамоўку,
Як карону каралеўне,
Клалі на галоўку.

Але заўважце, калі ў Майроніса рута — вобраз моцны, пазітыўны і аптымістычны, дык у Буйло і ў Купалы — гэта змрочны сімвал шлюбу са смерцю.

Новым пакаленням беларусаў варта ўспомніць руту і перадусім у светлым, радасным, жыццесцвярджальным аспекце. Будзем спадзявацца, што рута як знак лучнасці з многімі пакаленнямі продкаў, якія яе шанавалі і звязвалі з ёй шмат эмацыйных перажыванняў, яшчэ вернецца ў жывы сучасны вясельны рытуал і ў нашу вобразную прастору. ◆






LIETUVOS NACIONALINIS OPEROS IR BALETO TEATRAS

**Паколькі ў Літве рута — нацыянальная расліна, дык розныя ўстановы і кампаніі выкарыстоўваюць яе графічную стылізаваную выяву ў сваіх лагатыпах.** Як, напрыклад, Нацыянальны тэатр оперы і балета або добра вядомая сваімі цукеркамі і ў Беларусі кандытарская фабрыка «Рута».

### Наліўка «Ліцвінка»

Паводле сваёй рэцэптуры гэтая наліўка, вядомая з XIX стагоддзя, досыць падобная да крупніку. Сімвалічны акцэнт напою, відаць, надаецца рутай і шыпшынай.

**Спатрэбяцца:**

- 1 шклянка мёду
- 1 шклянка цукру
- 1 лыжка сушаных кветак шыпшыны
- 1 лыжка дробна пасечанай руты
- 1 лыжка дробна пасечанай мяты
- кавалачак цынамону (карыцы) каля 5 см даўжынёй
- 1–2 мускатныя арэхі
- 10 гваздзікоў
- кавалак імбіру
- 2 л гарэлкі

Зёлкі і спецыі заліць шклянкай халоднай вады і паступова награваць, давёўшы да кіпення. Утрымліваць пры 90° С каля 25 хвілін. Адвар працадзіць. У іншым посудзе распусціць мёд у шклянцы цёплай вады. У эмаляваным рондалі са шчыльна закрытым вечкам злучыць адвар зёлак, мядовую сыту і гарэлку. Падагрэць, але не кіпяціць. Астудзіць, пераліць у слоік або бутэльку, закаркаваць, пакінуць на некалькі дзён. Працадзіць праз фільтр, разліць па бутэльках, закаркаваць і залакіраваць. Вытрымліваць не менш за 3 месяцы.

# «Патэнт на ліцвіна»

## Кніга XIX стагоддзя пра моўныя звычкі, што дагэтуль актуальныя

**Як філолаг Аляксандр Валіцкі крытыкаваў палякаў за тое, што ўжываюць беларускія граматычныя патэрны і словы, піша Андрэй Вашкевіч.**

Аляксандр Ян Валіцкі многа папрацаваў для польскай і нямала для беларускай культур, але неяк так склалася, што ў Польшчы яго ведаюць слаба, яшчэ менш, чым у Беларусі. Але, можа, у гэтым і няма нічога дзіўнага. Нарадзіўшыся ў 1826 годзе ў Вільні, ён большую частку свядомага жыцця пражыў у Варшаве і памёр там у 1893 годзе. Але любімым ягоным горадам заўжды быў Мінск.

### Чалавек-аркестр

Аляксандр Валіцкі быў музыкам. Ён не толькі цудоўна іграў на скрыпцы і фартэпіяна, але і стаў цікавым музычным крытыкам. Ён неаднаразова публікаваў свае рэцэнзіі ў варшаўскім часопісе «*Ruch Muzyczny*», а самым вядомым героем яго даследаванняў быў выдатны кампазітар Станіслаў Манюшка, з якім той сябраваў (гл. пра яго артыкул Алеся Белага ў № 4/2009 «Нашай гісторыі»). Менавіта пяру нашага героя належыць першая друкаваная манаграфія пра Манюшку, дарэчы, нядаўна выдадзеная і па-беларуску.

Прыйшлося Валіцкаму пабыць і кнігагандлярам. Вярнуўшыся з Харкава, дзе ён вывучаў філалогію (праўда, скончыў толькі тры курсы мясцовага ўніверсітэта), ён заснаваў у Мінску ўласную кнігарню. Сюды заходзілі Адам Кіркор і Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, але часы для продажу патрыятычных кніг былі не самыя лепшыя. У 1863 годзе ўладальніка адправілі ў Тамбоў, а кнігарняй нейкі час кіравала яго сястра Зоф'я.

З 1868-га Валіцкі жыў у Варшаве, але часта працаваў і ў іншых месцах. Напрыклад, за тры гады ён апрацаваў і сістэматызаваў архіў сям'і Радзівілаў у Нясвіжы. Музыка і філолаг, ён не быў раней звязаны з падобным відам прафесійнай дзейнасці, але дакладна ўяўляў галоўныя абавязкі і сэнс новай працы: «Дзейнасць архівіста павінна весціся ў двух кірунках. Першы — сістэматычнае ўпарадкаванне ўсіх аддзелаў архіўных матэрыялаў, а ў наступную чаргу — утрыманне іх у пастаянным парадку».



Працаваў Валіцкі і журналістам. Часам ён пісаў на вострыя сацыяльныя тэмы, а часам з любоўю распавядаў жыхарам Варшавы пра Мінск: «Мінск, хоць гэта горад у сем разоў меншы, чым Варшава, але ў адным плане можа канкурыраваць з ёю. У Варшаве ёсць Саксонскі сад, размешчаны ў цэнтры горада. Ні адзін іншы горад не можа пахваліцца гэтым. Толькі ў Мінску ёсць выдатны бульвар у цэнтры горада, і гэты бульвар — яго найвялікшая выгода і ўпрыгожанне. У тым месцы, дзе перасякаюцца Дамініканская вуліца з Захар'еўскай [цяперашнія вуліца Энгельса з праспектам Незалежнасці], трыццаць з нечым гадоў таму была вялікая плошча, якая служыла рынкам для продажу кароў і коней. Гэта плошча, заваленая гразёй, смеццем і друзам, выглядала тады горш і брудней за тыя загоны на Празе [раён Варшавы], дзе прадаюць жывёлу. Пасля ж гарадская ўправа рынак у гэтым месцы закрыла, загадала плошчу ачысціць, загарадзіць і аддала яе грамадскасці для прагулак. ▸

**Ліцвін мог гаварыць па-польску, але думаць працягваў усё адно па-свойму**




**«Міцкевіч у «Пане Тадэвушу», апісваючы агарод, калі ён згадвае пра «гарбузы», ён на самай справе распавядае пра тое, што ў Каралеўстве Польскім называюць «тыквай»,** таму што кавуны па агародах у Літве не растуць». Што праўда, цяпер у беларускіх гародах растуць і кавуны.

► З той пары гэтую плошчу сталі называць Новым бульварам, але па ім мала гулялі, бо тут зусім не было дрэў, таму не хапала ценю, да таго ж на ўсім бульвары стаяла толькі некалькі вартых жалю лавачак. Тады гэтая плошча служыла больш для вайсковых манеўраў і выезджвання коней. Велічыня ўсяго бульвару была больш-менш роўная палове Саксонскага саду. Але за дзясятак з чымсьці гадоў гэтая плошча змянілася да непазнавальнасці. Яе засадзілі дрэвамі і кустамі, былі зробленыя алеі і вуліцы — адным словам, летам усе жыхары Мінска штодня любяць праводзіць час на гэтым бульвары ў цені мілых каштанаў, гледзячы на сціплы, размешчаны побач дом, які яшчэ некалькі год таму належаў Чэславу Манюшку. У гэтым доме яго сын Стась, пазней кампазітар "Галькі", забаўляўся і сваволіў». Тут, вядома, меўся на ўвазе цяперашні Аляксандраўскі сквер (па-народнаму Панікоўка).

## Іх памылкі

Але самае цікавае Аляксандр Валіцкі напісаў як чуйны філолаг. Ён вывучаў польскую мову ўсё жыццё і ведаў яе ў самых розных варыянтах: усходні «крэсовы» варыянт, які ён засвоіў яшчэ ў дзяцінстве, кніжную пальшчызну ад Сярэднявечча, і «каранярскую» польскую мову з Варшавы ды наогул з цэнтральнай Польшчы. У сярэдзіне 1870-х гадоў Аляксандр Валіцкі сабраў свае назіранні ў кнізе пад назвай «Нашы памылкі і правінцыяналізмы ў гаворцы і пісьме на шкоду польскай мове».

На больш як ста старонках невялікага фармату аўтар пералічвае памылкі польскай мовы, якія ўвайшлі ў польскую літаратуру з моўнай стыхіі літоўцаў, беларусаў і русінаў-украінцаў. Якое гэта цікавае для сённяшняга беларуса чытанне!

Напрыклад, ён крытыкуе словазлучэнне «ідзе дождж» (*deszcz idzie*), бо правільна па-польску «падае дождж» (*deszcz pada*). І тлумачыць памылковае ўжыванне менавіта калькай з беларускай.

Або тлумачыць розніцу паміж беларускімі кавунамі

і гарбузамі, якія нельга ўсе называць адным польскім словам «арбуз»: «Міцкевіч у “Пане Тадэвушу”, апісваючы агарод, калі ён згадвае пра “гарбузы”, то на самай справе распавядае пра тое, што ў Каралеўстве Польскім называюць “тыквай”, таму што кавуны па агародах у Літве не растуць. Варта таксама адзначыць, што ліцвіны ніколі не прамаўляюць “арбуз”, а заўсёды “гарбуз”».

### Як у Польшчы пазнаць ліцвіна

Перасцерагае аўтар кнігі носьбітаў польскай мовы і тых, хто вывучыў яе як літаратурную, і наконт словаў, што ў суседніх мовах маюць розны сэнс. Вось, напрыклад, у Каралеўстве Польскім слова «фортка» азначае невялікія дзверы, а над Нёманам — малюсенькую рамку ў акне. Ці слова «гультай»: у Польшчы яно азначае зусім дэградаваную асобу, а ў Літве і Беларусі толькі гультая. Гэтак жа як «склеп» над Віслай — гэта месца для гандлю, а на нашых землях — халодная прыбудова для захоўвання гародніны.

Некаторыя словы, згаданыя філолагам, не засталіся ў афіцыйных слоўніках ні польскай, ні беларускай мовы. Напрыклад, слова «картопля» і «картофель». Валіцкі адзначае: «Калі ў каралеўстве кажуць пра “картофель” мужчынскага роду, уся Літва ўвесь час гаворыць пра “картоплю” па-жаночы. Таму, калі караняр кажа: “Я з’еў адзін картофель”, — ліцвін кажа: “Я з’еў адну картоплю”».

Ужыванне словазлучэння «мыць бялізну» замест слова «праць» (*prać*) аўтар называе «патэнтам на ліцвіна». І згадвае пра адну жыхарку Вільні, якая пасля пераезду ў Варшаву хацела пазбавіцца ад гэтай памылкі так


BŁĘDY NASZE
W MOWIE I PIŚMIE,
KU SZKODZIE JĘZYKA POLSKIEGO
POPEŁNIANE,
ORAZ
PROWINCYONALIZMY,
ZEBRAŁ
Aleksander Walicki.
NAKŁAD AUTORA.
WARSZAWA.
DRUK K. KOWALEWSKIEGO, KRÓLEWSKA N. 23.
1876.

моцна, што пачала казаць «праць акно», «праць падлогу», хаця па-польску гэта гучыць таксама няправільна.

Часам Валіцкі адхіляецца ад мовы і параўноўвае звычкі: «Усе ведаюць складанне пальцаў у выглядзе фігі. Сам такі ўчынак, таксама як і выраз, лічыцца велізарнай непрыстойнасцю ў Літве. У каралеўстве гэтае дзеянне не лічыцца вялікай непрыстойнасцю».

Кнігу Аляксандра Валіцкага «Нашы памылкі...» лёгка адшукаць у інтэрнэце.



Апісаная ім моўная практыка — цікавы адбітак звычаяў і традыцый нашай зямлі. Вы прыйдзеце да нечаканай высновы: не толькі кніжная польская ўплывала на беларускую, якая тады яшчэ не была кадыфікаванай і ўнармаванай і таму заканамерна падпадала пад уплывы суседніх моў. Але і наша размоўная беларуская мяняла суседнія. Бо ліцвін мог, канечне, гаварыць па-польску, вось толькі думаць працягваў усё адно па-свойму. ◆

### Выйшаў № 2 часопіса «ARCHE» за 2020 год

Гэтым разам на яго старонках — пераклад працы нарвежскага лінгвіста Крысціяна Швейгарда Станга «Стараруская актавая мова горада Полацка». Гэта адна з першых грунтоўных прац заходняй лінгвістыкі, прысвечаных гісторыі беларускай мовы. Яе аўтар — адзін з закладальнікаў традыцыі замежнага беларусазнаўства.

Праца Станга выйшла друкам у 1939 годзе і напісаная была на нямецкай мове. Гэтая мова тады яшчэ выконвала ролю мовы акадэмічнай навукі ў Цэнтральнай і Паўночнай Еўропе. Такі стан рэчаў назаўсёды перакрэсліла Другая сусветная вайна: пасля яе напісаць у Нарвегіі працу на нямецкай мове па беларускай лінгвістыцы наўрад ці некаму прыйшло б да галавы.

Хоць гэтае даследаванне тычыцца передусім лінгвістычнай праблематыкі, у ім ёсць і сюжэты, важныя для лепшага разумення ідэалогіі беларускага нацыяналізму ў XX стагоддзі. Аўтар працы на яе старонках палемізуе з вядомым беларускім лінгвістам Янам Станкевічам наконт паходжання мовы канцылярыі вялікіх князёў літоўскіх. Станкевіч сцвярджаў, што мова канцылярыі ВКЛ фармавалася пад уплывам полацкага дзелавога пісьменства, бо такое ўяўленне было неабходным для сцвярджэння пастулата пра Вялікае Княства Літоўскае як беларускую дзяржаву.

Станг у гэтай працы рашуча запярэчыў такому падыходу і давёў, што на характар мовы канцылярыі ВКЛ вызначальна паўплывала паўднёваруская (г. зн. украінская) традыцыя пісьма. Полацкае ж дзелавое пісьменства нібыта было правінцыйным што да Вільні і паўднёварускіх культурных цэнтраў, у тым ліку таму, што ў полацкіх граматах пачынаючы ад XIV–XV стагоддзяў шмат паланізмаў і наогул адсутнічае адзіны правапісны стандарт.

Часопіс можна набыць у мінскай кнігарні «Акадэмкніга» (пр. Незалежнасці, 72), краме «Мой модны кут» (пр. Незалежнасці, 58, павільён 333), у іншых прыватных распаўсюднікаў.



На сайце **arche.by** даступная не толькі папяровая, але і электронная версія.



# Румынія
## гэта не толькі Чаўшэску, вампіры і Карпаты

**Падарожжа ў Румынію сёння — гэта яшчэ і напамін нам, беларусам, пра страчаныя магчымасці. Пішуць Зміцер Панкавец і Ганна Клімовіч.**

У Румыніі ёсць мора, але на пляжны адпачынак беларусы едуць у Адэсу ці Турцыю. У Румыніі ёсць горы, але па сноўборд і горныя лыжы беларусы адпраўляюцца ва ўкраінскія Карпаты або польскія Татры. У Румыніі ёсць замкі і старыя гарады, але, каб паглядзець на Сярэднявечча, нашы людзі абіраюць Германію.

Пра Румынію, якая хоць і знаходзіцца адносна блізка да Беларусі, у нас ведаюць слаба. Пры ўпамінанні гэтай краіны згадваюць камуністычнае мінулае

**Бухарэст канца XIX стагоддзя бачыў сябе «ўсходнееўрапейскім Парыжам».** Ні ў Мінску, ні ў Вільні, ні ў Кіеве такой атмасферы не сустрэнеш.

WIKIMEDIA COMMONS

і ўяўляюць сабе дзяржаву трэцяга свету, з беднасцю, разрухай, цыганамі і вампірамі. І толькі прыехаўшы, турыст адзначае, што Румынія — недаацэненая краіна, з прыстойным узроўнем жыцця і шматлікімі цікавосткамі. Румынія — гэта напамін нам, беларусам, пра страчаныя магчымасці.

### Заробак у два разы вышэйшы

Румынія — краіна памерам з Беларусь, зусім крышачку большая. Але адлегласці тут пераадольваюцца значна даўжэй. Румынія — гэта горная краіна. Таму на ўмоўныя 70 кіламетраў між гарадамі вам часта спатрэбіцца не гадзіна, а дзве.

Сярэдні заробак у Румыніі цяпер — каля 1100 еўра на месяц, у два разы большы, чым у нас. Хоць на выхадзе з сацыялізму Румынія была страшна беднай, нашмат адставала па ўзроўні жыцця ад Беларусі. Цэны сувымерныя з беларускімі, а на прадукты — нават заўважна ніжэйшыя. Румынія — гэта другая (пасля Польшчы) паводле тэмпу росту эканоміка Еўрасаюза. Тыя ж балгары, якія ўступалі ў ЕС у адзін год з румынамі, ужо зайздросцяць поспехам сваіх суседзяў.

Краіна ўпэўнена развіваецца і прасоўвае сябе ў турыстычным плане. Так, у 2006 годзе Румынію наведалі 6 мільёнаў замежных турыстаў, а ў 2019 колькасць падарожнікаў павялічылася больш чым у 2 разы, перавысіўшы 13 мільёнаў. Што ж шукаюць вандроўнікі ў гэтай краіне?

### Дакі і рымляне

У румынаў багатая гісторыя. Першая дзяржава на гэтай тэрыторыі існавала яшчэ да нашай эры. Яна называлася Дакія (дарэчы, цяпер так завуцца добра вядомыя ў нас румынскія аўтамабілі *Dacia*. Пад брэндам *Renault* дзве румынскія мадэлі *Logan* і *Duster* збіраюць у Расіі, ▶

## Румынія

(рум. *România*) — дзяржава ў Паўднёва-Усходняй Еўропе. Насельніцтва — каля 19,5 мільёна чалавек, тэрыторыя — каля 238,4 тысяч км$^2$. Займае 59-е месца ў свеце па колькасці насельніцтва і 78-е па тэрыторыі. Сталіца — Бухарэст. Дзяржаўная валюта — лей. Афіцыйная мова — румынская. Румынія — прэзідэнцка-парламенцкая рэспубліка. Дзейны прэзідэнт — Клаўс Ёганіс. Член НАТО з 2004 і член ЕС з 2007 года. Не ўваходзіць у шэнгенскую зону, але беларусы маюць права заязджаць у Румынію па шэнгенскай візе.




SHUTTERSTOCK.COM, BY PETER HERMES FURIAN

у нас гэтыя машыны сталі мегапапулярныя).

Дакі, фракійскае племя, доўгі час былі незалежнай дзяржавай са сталіцай у Сармізегутузе, але ў II стагоддзі нашай эры іх заваявалі рымляне. Сёння Сармізегутуза, як і некалькі іншых крэпасцяў у гарах Арэшціе, знаходзіцца ў румынскім спісе спадчыны ЮНЕСКА. Агулам у гэтым спісе 7 пунктаў супраць 4-х у Беларусі.

Рымскае мінулае пакінула вялікі адбітак нават на жыцці сённяшняй Румыніі. Фактычна ў кожным вялікім горадзе можна знайсці помнік «капіталійскай ваўчыцы». А сучасная румынская мова — гэта такі своеасаблівы трасяначны варыянт мовы рымлян, што прыйшлі на гэтую тэрыторыю. Так званая «народная латынь» змяшалася з мовай дакаў, а потым усё гэта змацавалася яшчэ славянскімі і грэцкімі ўстаўкамі.

Больш за тое, ці не кожны румын раскажа вам, што назва ягонай краіны ўтварылася ад слова «рымскі». Мабыць, як ніхто іншы ў Еўропе, румыны цэняць і культывуюць сваё рымскае паходжанне.

## Раздзеленая на тры рэгіёны

Недзе ў VI стагоддзі на землі сучаснай Румыніі прыйшлі славяне, а землі ўвайшлі ў склад славянскай дзяржавы Вялікая Маравія. З гэтага часу тут пачаўся распаўсюд хрысціянства. Сёння роля праваслаўя ў Румыніі вялізная. Нават у будні цэрквы запаўняюцца вернікамі — а што тады казаць пра выхадныя, калі туды цяжка прабіцца. Праваслаўная царква тут, вядома, аўтакефальная. У румынаў ёсць свой патрыярх Даніл.

У Сярэднявеччы ўзніклі тры незалежныя рэгіёны, якія ў сярэдзіне XIX стагоддзя і ўтварылі Вялікую Румынію: Малдова, Валахія і Трансільванія. Гэтым тэрыторыям удавалася больш-менш захоўваць аўтаномію ў складзе Асманскай імперыі, але гаворкі пра незалежнасць не было. Румыны неаднаразова падымалі паўстанні, імкнуліся да стварэння незалежнай дзяржавы.

Адно паўстанне супраць туркаў падняў Тудар Уладзімірэску. Калі пачалася расійска-турэцкая вайна, то ён пайшоў добраахвотнікам ваяваць супраць Турцыі. Па вяртанні з вайны рыхтаваў на радзіме паўстанне, што ўспыхнула ў 1821 годзе. Аднак у выніку Уладзімірэску быў абвінавачаны ў змове з туркамі і расстраляны грэчаскімі саюзнікамі. Смерць папулярнага румынскага лідара пазбавіла паўстанне падтрымкі мясцовага насельніцтва.

У хуткім часе Валахія і Малдова сталі пратэктаратам Расіі, а таксама знаходзіліся ў васальнай залежнасці ад туркаў. Трансільванія ж была пад Аўстра-Венгрыяй. Паўстанне 1848-га туркам і рускім сумесна зноў атрымалася задушыць, але яно дало спадзяванні, што незалежная дзяржава будзе ўтвораная вельмі хутка. У адрозненне ад суседніх балгараў, румыны рэдка шукалі падтрымкі ў Расіі, заўсёды арыентаваліся на Францыю. У Румыніі няма ніякага сантыменту да Расіі і сёння. Толькі часова яны станавіліся саюзнікамі, каб дабіцца сваіх мэтаў. Так было падчас вайны за незалежнасць у 1877–1878 гадах. З таго часу Румынія застаецца незалежнай дзяржавай. У выніку развалу Аўстра-Венгрыі да краіны ў 1918 годзе была далучаная і Трансільванія.



SHUTTERSTOCK.COM, BY ALBERTO GIRON PHOTOGRAPHY

Сігішаара — гэта нейкі амаль ідэальны сярэднявечны нямецкі гарадок. Яго ад даўніх часоў засялялі саксонцы. Дарэчы, у Румыніі цяпер прэзідэнт-немец — вельмі паважаны, яго пераабралі на другі тэрмін. **У Сігішаары шмат брукаваных вуліц, старых дамоў, паху торфу і адчування адарванасці ад часу.**



**Аднапавярховая Румынія** — нібы пагружаешся ў першую палову XX стагоддзя.

## Як дабрацца?

Тут можна даць волю фантазіі. Румынія — гэта суседка нашага суседа. Напрыклад, можна даехаць да Львова, тусавацца ў мясцовых кавярнях, адтуль да Чарнаўцоў. Букавіна, дарэчы, была часткай Румыніі з 1918 да 1940 года. Ад Чарнаўцоў Румынія — ужо цераз плот. У такім выпадку знаёмства з Румыніяй можна лёгка пачаць з драўляных цэркваў Марамурэша ці цэркваў гістарычнай вобласці Малдова (у склад Румыніі ўваходзіць сёння заходняя яе частка, а большая частка ўсходняй — незалежная дзяржава). Яны знаходзяцца на невялікай адлегласці.

Многія прыязджаюць у Румынію на ўласным аўтамабілі. Гэта ўвогуле ніяк не абмяжоўвае перамяшчэнні ўнутры краіны. Дарогі тут неблагія, так што праблем з такім варыянтам паўстаць не мусіць — хіба што трэба мець добры запас часу.

Ну і, канечне, лаўкосты. Іх у Румынію лятае дастаткова шмат. Напрыклад, *Ryanair* здзяйсняе рэйсы ў Бухарэст, Клуж, Арадзю і Тымішаару. А з дапамогай *Wizz Air* можна прыляцець у Бухарэст, Бакэў, Клуж, Канстанцу, Краёву, Сату-Марэ, Сібіў, Сучаву, Тымішаару, Тыргу-Мурэш, Ясы. Такі багаты выбар робіць ваша падарожжа па Румыніі больш камфортным. Можна лёгка прыляцець у Клуж ці Тымішаару, а назад паляцець з курорта Канстанцы ці Бухарэста, тым самым аб'ехаўшы ўсю краіну.

Даляцець з Літвы ці Польшчы да Румыніі можна і за 40 еўра, але пры гэта варта помніць, што прамых рэйсаў з Вільні ці Варшавы не будзе, і ляцець давядзецца з перасадкай. Мы ляцелі туды праз Данію, а назад праз Італію.

Акрамя таго, варта памятаць пра арганізаваны турызм. На пляжы Чорнага мора ў Румынію возяць не так часта, як у Балгарыю, але такая магчымасць таксама ёсць.

Адзначым, што пры ўездзе ў Румынію не абавязкова мець нацыянальную візу — вас пусцяць і па шматразовым шэнгене. Нас, праўда, даволі доўга пратрымалі ў аэрапорце Клужа, з усіх бакоў вывучаючы беларускія пашпарты. Але ўсё скончылася ўдала.



**Румыны ганарацца прыналежнасцю да лацінскай сям'і.** У кожным вялікім горадзе Румыніі знойдзеце помнік «капіталійскай ваўчыцы». На фота: Клуж-Напока.

## Чым перасоўвацца?

Румынскі транспарт як спорт: тут перамагаюць спрытныя і трывалыя. Калі мы пачулі, што мясцовыя найчасцей перасоўваюцца паміж гарадамі Румыніі самалётамі, то здзівіліся: краіна па плошчы не нашмат большая за Беларусь. Але паездзіўшы па зямлі, зразумелі іх цалкам.

У Румыніі з нармальнай частатой курсіруюць самалёты мясцовага лаўкостара *Blue Air*. А вось цягнікі і аўтобусы нават па запатрабаваных маршрутах там ездзяць пару разоў на суткі і вельмі павольна: у многіх гарыстых мясцінах чыгунка аднакалейная, сярэдняя хуткасць цягніка — 60 км/г. Але каб паехаць хаця б такім транспартам, трэба прайсці досыць складаны квэст.

На дзяржаўныя цягнікі білеты часта раскупленыя задоўга да ▶



SHUTTERSTOCK.COM, BY MIKADUN

**Прысутнасць Бога амаль фізічна адчуваеш каля старых румынскіх цэркваў у Карпатах**, за гэтымі векавымі каменнымі агароджамі. На фота: Грошый-Ной каля Арада.

адпраўлення, але, на шчасце, ёсць у Румыніі цягнікі прыватныя. Квіткі на іх прадаюць у інтэрнэце, а таксама праваднікі падчас рэйса. Такім чынам, можна ўявіць, колькі людзей і ў якіх позах перасоўваюцца такім транспартам. Для румынаў гэта ўжо звыклая практыка, а для нас досвед быў новы. У цягніку з Брашова ў Бухарэст мы правялі амаль тры гадзіны. Але нам пашчасціла: знайшлося сядзячае месца... хоць на падлозе пад столікам, але ў многіх і таго не было. Падобны досвед дазваляе лепей адчуць краіну і пазнаёміцца з мясцовымі жыхарамі.

Румыны — надзвычай прыветныя, спагадлівыя і добразычлівыя людзі. Калі турыст завісае ў няведанні, куды ісці або на які транспарт сесці, ён можа ні да каго не звяртацца: мясцовыя самі спяшаюцца дапамагчы, падказаць. Нават кантралёры ў транспарце не выключэнне. Вялікая колькасць гараджан можа размаўляць па-англійску, а хто не можа, усё роўна дапамагае.




**Каб збудаваць гэты палац, Чаўшэску знёс цэлы квартал. Цяпер гэта Дом парламента**, але турысты ахвотна наведваюць яго, каб пагрузіцца ў атмасферу «камуністычнай пампезнасці».

У першы дзень вандроўкі, калі ў нас перастала працаваць праграма-выручалка *Maps.me*, крыху запанікавалі. Але неўзабаве пабачылі, што нам проста не дадуць тут згубіцца, і мелі рацыю.

Ва ўсіх вялікіх румынскіх гарадах ёсць таксама таксі *Uber*. Каштуе ён тут нядорага, ніякую адмысловую праграмку ўсталёўваць не трэба, можна карыстацца беларускай.

## Дзе жыць?

За ноч у гасцініцах румынскіх гарадоў трэба будзе заплаціць на «Букінгу» каля 20 еўра на дваіх. Калі трапяцца нейкія акцыі і купоны, то можна яшчэ танней. Цэны тут зусім не кусачыя.

У горадзе Сігішаары мы здымалі пакой у катэджы мясцовага немца Клаўса. Гаспадар не толькі пасяліў нас у вялізным нумары, але нават на сняданак прыгатаваў яечню, а на вячэру пачаставаў сваімі наліўкамі. Клаўс на дзівоснай нямецка-румынска-рускай трасянцы быў ахвочы размаўляць пра ўсё на свеце.

У Бухарэсце ж мы спыніліся ў беларускага гісторыка Віталя Быля, якога знайшлі на сайце *Couchsurfing*. Не таму, што не дазвалялі грошы, а проста было цікава паглядзець на горад знутры, паслухаць аповеды чалавека, які там жыве, тым больш па-беларуску. Віталь у Бухарэсце пісаў работу пра беларускіх вядзьмарак.



**Брашоў.** І не падумаеш, што ў гэтым горадзе ўсяго 30 гадоў таму рабочыя біліся з агентамі «сэкурытатэ». Першыя масавыя пратэсты супраць дыктатуры Чаўшэску адбыліся акурат тут.

## Якія там грошы?

Румынская валюта называецца лей. Утварылася назва ад лацінскага слова *leo*, гэта значыць «леў». Так жа называецца валюта і ў Малдове. За адзін беларускі рубель цяпер даюць 1,55 лея. З махлярамі ў абменніках сутыкацца не даводзілася.

Грошы тут асаблівыя: яны не папяровыя, як у нас, а пластыкавыя. Таксама дадатковы турыстычны атракцыён. У адрозненне ад Македоніі ці Албаніі, праблем з карыстаннем



**Салдаты вядуць затрыманых дэманстрантаў у Тымішаары за тыдзень да перамогі рэвалюцыі, якая праз пару дзён перакінецца на сталіцу.**

карткай тут няма ніякіх — амаль паўсюль можна разлічыцца.

## Што есці?

Канечне, пры першай згадцы кухні Румыніі кожны ўспамінае мамалыгу. Гэта такая крута звараная кукурузная каша. Яна мае трывалую форму, як пірог, а рэжацца адмысловай ніткай. Мамалыга — ідэальны гарнір да любога мяса, скварачак, гародніны. Яе можна есці і са смятанай, яйкамі, грыбамі. Карацей, мамалыга — гэта як бульба ў беларусаў. Румыны ведаюць сотні рэцэптаў, як яе згатаваць. Калі вам з першага разу мамалыга не зайшла, то гэта не значыць, што трэба спыніць свае пошукі. У наступны раз ад міскі з мамалыгай вас, магчыма, будзе за вушы не адарваць.

Калі будзеце ў Бухарэсце, то абавязкова трэба схадзіць у кавярню *Caru’ cu bere* («Куфаль з півам»). Адно з самых атмасферных кафэ горада. Адкрылася яно яшчэ напрыканцы XIX стагоддзя, а інтэр’ер з вітражамі, балкончыкамі, вінтавымі лесвіцамі, жырандолямі, свечкамі вас пераносіць нібыта ў часы Аўстра-Венгрыі. Пры гэтым *Caru’ cu bere* — гэта нацыянальная румынская кухня. Тут абсалютна шыкоўныя і недарагія абедзенныя меню з чатырох страў. А запіць усё можна маладым румынскім вінам.

У астатнім румынская кухня знаходзіцца пад моцным уплывам турэцкай і балканскай. Гэта і традыцыйны для рэгіёна суп чорба, шматлікія мясныя стравы, каўбаскі, фаршыраваныя перцы, баклажаны. У Румыніі шмат сваіх авечых сыроў, якія таксама абавязкова варта каштаваць. Галодным у гэтай краіне застацца цяжка.

А яшчэ румыны проста абажаюць свежую выпечку. Ва ўсіх гарадах краіны, дзе нам даводзілася быць, выстройваліся цэлыя чэргі ў крамкі-пякарні. Булачкамі тут перакусваюць студэнты, офісныя работнікі, пенсіянеры — усе.

## Ці баяцца цыганоў?

Яшчэ адзін стэрэатып пра Румынію, які не адпавядае рэчаіснасці. Так, калі параўнаць з Беларуссю, то цыганоў у Румыніі ўсё ж болей. Але, скажам, на вуліцах Будапешта ці Браціславы пабачыць цыганоў-жабракоў нашмат прасцей, чым тут. Толькі аднойчы мы трапілі пад шчыльную атаку цыганкі і яе дзяцей у Сігішаары, але і там атрымалася хутка адбіцца.

Уплыў цыганоў на Румынію — вялікае перабольшанне.

## Што паглядзець?

Усю Румынію аб’ехаць не ўдалося. Спынімся толькі на тых месцах, што бачылі самі. Румынія — разнастайная. Быццам у адну дзяржаву ўціснулі некалькі самастойных краін.

Разнастайнасць тут — і этнічная, і архітэктурная, і кліматычная. Кожны рэгіён Румыніі — Валахія, Малдова і Трансільванія — выглядае не падобна да іншага ▶



WIKIMEDIA COMMONS

**Румынскі салдат паказвае знак V, перамога, праз тыдзень пасля падзення Чаўшэску.** Менавіта армія, якая перайшла на бок пратэстоўцаў, стала вырашальнай сілай рэвалюцыі.

за кошт унікальных рэльефаў і архітэктурных рашэнняў. У розныя часы тут уносілі свае ўплывы як румыны, так і венгры, саксоны, габрэі ды цыганы. Па сёння Румынія вылучаецца сваёй этнакультурнай разнастайнасцю: амаль 20% насельніцтва Трансільваніі складаюць венгры, а сучасны прэзідэнт Клаўс Ёганіс (яго пераабралі на другі тэрмін) — выхадзец з трансільванскіх немцаў.

Прырода Румыніі — гэта таксама кантрасты. Тут цалкам натуральна сесці на цягнік у горадзе, дзе +20°, майкі, шорты ды сонечныя акуляры, а праз гадзіну апынуцца ў гарах, дзе дзеці лепяць снегавікоў, а пасажыры заходзяць у цягнік у футрах і мехавых шапках.

## Бухарэст

Сваімі кантрастамі асабліва ўражвае сталіца Румыніі Бухарэст: тут некалькі вуліц запар можна сузіраць усходнія караван-сараі, велічныя збудаванні ў французскім стылі базар, а пасля выйсці на цэнтральны праспект — і ўжо ўспомніць: дакладна, тут жа панаваў сацыялізм. І пакінуў нашчадкам сацыялістычную спадчыну на чале з вядомым велізарным палацам Нікалае Чаўшэску, дагэтуль так і не дабудаваным.

У Бухарэсце мала паштовачных відаў і славутасцяў, ад якіх займае дух. Усё гэта не ўсходнееўрапейскі Парыж і не Рым. Тут свая атмасфера. Скарбы Бухарэста — у невялікіх праваслаўных цэрквах, што хаваюцца за шэрымі шматпавярховікамі, ва ўтульных парках і старэнькіх кінатэатрах. У гэтым горадзе вы знойдзеце ўсяго ўсялякага: і палац Дракулы-Цэпеша, і палац Дракулы-Чаўшэску.

Бухарэст круты і разнастайны — жывы горад, які гудзіць і рухаецца ўсю ноч.

## Клуж-Напока

Гэта студэнцкі цэнтр Румыніі. На вуліцах — вялікая колькасць маладых прыгожых людзей, праз гэта і вялікая колькасць кафэ і фаст-фуду, начных клубаў. Тут паўсюль адчуваецца ўплыў Венгрыі. Калісьці гэты горад называўся па-венгерску Калажвар. На цэнтральнай плошчы стаіць помнік каралю Мацьяшу І Корвіну, побач з ім ляжаць кветкі з венгерскімі сцягамі. У Клужы захаваўся дом, дзе ў XV стагоддзі нарадзіўся кароль. Над ім сёння лунаюць сцягі Румыніі і Еўрасаюза.

Таксама на цэнтральнай плошчы вялізны гатычны касцёл Святога Міхаіла — яшчэ адзін напамін пра Венгрыю. Але гэта проста турыстычны атракцыён — сапраўднае жыццё ля праваслаўнага кафедральнага сабора. І гэта доказ, што тут трывала і надзейна Румынія. Насупраць сабора стаіць помнік Аўраму Янку, трансільванскаму Каліноўскаму.

Калі не маеце магчымасці з'ездзіць у румынскія вёскі, то наведайце адмысловы парк


SHUTTERSTOCK.COM. BY GRISHA BRUEV

**Мегаўдалая і мегапапулярная ў Беларусі «Рэно Дастэр» — распрацоўка румынскай «Дачыі», якую ў 1999-м купіла «Рэно».**

Насуперак нечыім стэрэатыпам, інтэграцыя Румыніі ў Еўрасаюз не толькі не забіла «Дачыі», а надала ёй новае жыццё. На сёння «Дачыя» — гэта самая прыбытковая румынская кампанія, на долю якой прыпадае 8% румынскага экспарту. (У Беларусі лідары экспарту — гэта сыравінны «Беларуськалій» і нафтазаводы.)

«Дачыю» ў 1966 годзе пабудавалі з дапамогай «Рэно». Гэта была частка курсу Георгіу-Дэжа і Чаўшэску па мадэрнізацыі краіны з дапамогай заходніх тэхналогій.

У 1999-м заняпалую, неэфектыўную «Дачыю» прадалі французам за смешныя 50 млн долараў. (Французы цэліліся на чэшскую «Шкоду», але там перабіў «Фольксваген».) Цяпер «Дачыя» — гэта зноў гігант з гадавым абаротам пад 7 млрд долараў.

**На фота: «Дастэр» на начным беразе пад Гомелем.**

у Клужы — з традыцыйнымі румынскімі цэрквамі, хаткамі, хлявамі. Нешта накшталт нашых Строчыц ці шведскага Скансэна.

Яшчэ ў Клужы прыгожы, сучасны стадыён. А мясцовая каманда рэгулярна гуляе ў групавых стадыях еўракубкаў, перамагаючы моцныя еўрапейскія клубы.

### Саліна Турда

За пятнаццаць кіламетраў ад Клужа ёсць гарадок Турда, але едуць турысты туды дзеля саляной шахты — адной з самых незвычайных славутасцяў Румыніі. Соль тут здабывалі яшчэ да прыходу рымлян. Гэта была адна з галоўных шахтаў Аўстра-Венгерскай імперыі. У 1932 годзе здабычу солі тут закрылі. А ў пачатку 1990-х шахту Турды зноў адкрылі для турыстаў.

З дапамогай Еўрасаюза ў Турдзе змаглі абсталяваць паўнавартасную забаўку: з міні-гольфам, коламі агляду і більярдам. Нічога асаблівага, каб не разуменне, што адбываецца гэта глыбока пад зямлёй. За 15 лей можна нават пакатацца на лодачцы па саляным возеры. Адназначна варта наведвання.

### Што пачытаць пра Румынію?

- Лівіу Рэбрану «Іон» (кніга сугучная з «Новай зямлёй» Якуба Коласа, пра жаданне простага селяніна займець свой кавалачак зямлі)
- Мірча Эліядэ «Дзеўка Хрысціна» (а таксама іншыя раманы гэтага аўтара)
- Герта Мюлер «Арэлі дыхання» (а таксама іншыя кнігі гэтай аўтаркі)
- Чэзар Пятрэску «Крушэнне»
- Брэм Стокер «Дракула»



UVISITROMANIA.COM

**Марскія пляжы Румыніі вакол Канстанцы** па клімаце блізкія да Затокі. Але румынскае ўзбярэжжа — гэта ўжо субтропікі, і, акрамя таго, усё тут мае непаўторны румынскі стыль.

### Сігішаара

Сігішаара — гэта нейкі амаль ідэальны сярэднявечны нямецкі гарадок. У тыя часы там якраз і жылі саксонцы, таму здзіўляцца няма з чаго. Пра прэзідэнта-немца мы ўжо гаварылі, а яшчэ ў Румыніі нарадзілася нобелеўская лаўрэатка па літаратуры Герта Мюлер. У Сігішаары шмат брукаваных вуліц, старых дамоў, паху торфу і адчування адарванасці ад часу.

У Сігішаары прыйшоў на свет той самы Улад Цэпеш, якога ўвесь свет сёння ведае як графа Дракулу. І нават дом захаваўся, дзе жыў Дракула... цяпер там рэстаран са спецыфічным меню і трунoй для вампіра. А вось замак Бран, які часта падносяць як «дом Дракулы», ніякага дачынення да гаспадара Валахіі не меў. Проста гэты замак быў абраны як самы змрочны сярод румынскіх, таму яго і сталі раскручваць.

### Брашоў

Калі вы хочаце пабачыць «кананічную» Трансільванію, то Брашоў –якраз ідэальнае для гэтага месца. Вялізны касцёл Святой Марыі на цэнтральнай плошчы пабудавалі немцы ў XIV стагоддзі. Праз пару стагоддзяў адбыўся вялікі пажар, і сцены храма пацямнелі. Ад гэтага яго сталі называць «чорнай царквой». Выгляд сапраўды змрочны, асабліва на фоне трансільванскіх гор, што акружаюць горад.

У Брашове вы знойдзеце адну з самых вузкіх вулак у Еўропе — *Strada Sforii* (вуліца Вяровачная). Тут ёсць старажытныя брамы, бастыёны, цікавая канатная дарога. А за 12 кіламетраў ад горада Паяна Брашоў — папулярны гарналыжны курорт.

Румынія ўсё яшчэ застаецца недаацэненай краінай, якая толькі імкнецца ламаць стэрэатыпы пра сябе ў свеце. Калі вы дасцё шанец гэтай краіне, то — амаль дакладна — будзеце задаволеныя пабачаным і адчутым у падарожжы. ◆

# Беларускае жалеза

## Росквіт і заняпад нашай чорнай металургіі ў XIX стагоддзі

**Быў час, калі беларускія металургічныя прадпрыемствы былі больш канкурэнтныя за ўральскія. Але ён трываў зусім нядоўга. Піша кандыдат гістарычных навук Андрэй Кіштымаў.**

Жалеза — адзін з самых распаўсюджаных хімічных элементаў: зямная кара ўтрымлівае яго каля 5%. Але толькі саракавая частка гэтых запасаў сканцэнтраваная так, каб іх можна было здабыць чалавеку.

Нашы продкі ўмелі здабываць жалеза ўжо ў VII–VI стагоддзях да нашай эры. Пачынаючы з эпохі жалезнага веку і ажно да канца XIX стагоддзя яны рабілі гэта пераважна з балотнай руды, якая не была ў Беларусі ў дэфіцыце. Як, дарэчы, і драўняны вугаль, неабходны для металургічнай вытворчасці мінулых часоў.




**Нажы позняга жалезнага веку**, знойдзеныя ў Беларусі. Жалеза для іх выраблялі з крыцы сырадутным спосабам.

### Эвалюцыя тэхналогіі

Старажытныя металургі выкарыстоўвалі для атрымання жалеза горны і сырое (халоднае) паветра, такі спосаб завецца сырадутным. Тэхналогія там такая: паветра падаецца ў распалены да 900°С горан, а вуглякіслы газ, які ўтвараецца ад гарэння драўнянага вугалю, забірае ў руднага жалезнага вокісу кісларод і аднаўляе жалеза. На выхадзе ўтвараецца крыца — кавалак металу, насычаны шлакам, які трэба выбіваць уручную.

Сырадутная вытворчасць была эканамічна затратнай, давала малы выхад гатовага прадукту, а якасць яго пакідала жадаць лепшага. Але што было рабіць: іншага спосабу здабычы жалеза нашы продкі доўга прыдумаць не маглі.

Усё змянілася, калі Еўропа ў сярэдзіне XIV стагоддзя навучылася будаваць домны — спецыяльныя печы, у якіх руда награвалася да 1500°С, цалкам расплаўлялася, а вокісы жалеза, насычаныя вугляродам, ператвараліся не ў паўфабрыкат-крыцу, а ў чыгун. За гэтым ішла яшчэ адна апрацоўка, пасля якой колькасць вугляроду змяншалася і ўтваралася высакаякасная сталь.

**Крыца** — кавалак металу, насычаны шлакам, які трэба выбіваць уручную.




**Крыца XI–XIII стагоддзя,** знойдзеная на Верхнім замку ў Полацку. Экспанат Полацкага краязнаўчага музея.

Росквіт беларускай чорнай металургіі прыпаў на мяжу XVIII і XIX стагоддзяў. Заняў ён усяго некалькі дзесяцігоддзяў, але пры гэтым зрабіўся значнай з'явай айчыннай эканамічнай гісторыі. Металургічныя заводы таго часу былі магутнымі прамысловымі прадпрыемствамі.

Сярод іх колькасцю рабочых і аб'ёмамі вытворчасці заўважна вылучаліся Вішнеўскі завод Храптовіча, Старынкаўскі завод Бенкендорфа, Чарняўскі завод Раманава і Налібацкі завод Вітгенштэйна.

### Зброя для паўстанцаў

Самым старым з гэтых прадпрыемстваў быў Вішнеўскі

завод, заснаваны яшчэ ў часы Рэчы Паспалітай графам Яўхімам Храптовічам (1729–1812), вядомым рэфарматарам і дзеячам эпохі Асветніцтва.

Менавіта тут, у мястэчку Вішнева цяперашняга Валожынскага раёна, у 1780 годзе пабудавалі першую ў Беларусі доменную печ. Яна была вышынёй каля 8 метраў і абслугоўвалася майстрам ды двума плавільшчыкамі. Яшчэ двое рабочых займаліся падрыхтоўкай шыхты — сумесі для пераплаўкі. Выпуск чыгуну праводзіўся двойчы на суткі. Асноўная яго маса далей перараблялася ў коўкае жалеза, але рабілі на заводзе і ўласна чыгунныя рэчы: посуд, катлы, дэталі для млыноў і іншае.

Пры гэтым завод працаваў звычайна толькі 40 тыдняў, а пасля было неабходна спыніць работы, каб замяніць унутранае пакрыццё домны, якое з часам разбуралася. Спачатку для гэтага пакрыцця выкарыстоўваўся вогнетрывалы натуральны камень (яго прывозілі з Польшчы), а пазней пачалі высцілаць печ шамотнай (шамот — гэта вогнетрывалая гліна) цэглай.

У 1794 годзе Вішнеўскі завод падтрымаў паўстанне Тадэвуша Касцюшкі, выраблячы зброю для паўстанцаў. Але гэта не прывяло да спынення вытворчасці пры Расійскай імперыі. Наадварот, маштабы і аб'ёмы толькі павялічыліся ўслед за патрэбамі новага рынку. Гэта можна прасачыць як па колькасці доменных печаў (іх пастунова стала 4), так і па колькасці рабочых. У 1814-м на Вішнеўскім заводзе працавала 69 чалавек (з якіх толькі 11 былі наёмнымі, астатнія — прыгонныя), у 1828-м — 119, у 1853-м — больш за 200 чалавек.

Тэхналогію вырабу жалеза з балотнай руды сырадутным спосабам можна прагледзець па спасылцы



## Завод, які зрабіў усіх

Але найбуйнейшым сярод беларускіх металургічных заводаў тых часоў быў не Вішнеўскі, а Старынкаўскі, які пастаўляў метал для Чарнаморскага флоту і шмат куды яшчэ.

Перадгісторыя завода пачалася ў 1813 годзе, калі надворны саветнік Дзмітрый Яншын, уласнік маёнтка ў Чэрыкаўскім павеце, пабудаваў у вёсцы Старынка (цяперашні Слаўгарадскі раён Магілёўскай вобласці) невялікі медзеплавільны заводзік. Пасля яго смерці праз другія рукі маёнтак разам з заводзікам набыў адстаўны паручнік Аляксандр Іванавіч Бенкендорф. У выніку Старынкаўскі завод паўтарыў «вялікую» гісторыю: спачатку перажыў медную эпоху, а пасля — жалезную.

Прычым медная завяршылася даволі хутка. У Беларусі няма сваіх радовішчаў меднай руды, таму на такой вытворчасці можна было толькі пераплаўляць лом ды рабіць посуд ці абсталяванне для вінакурняў. Вытворчасць жа жалеза адкрывала зусім іншыя гарызонты, дазваляла зарабляць іншыя грошы.

«Жалезны век» на Старынкаўскім заводзе пачаўся з будаўніцтва ў 1835 годзе вагранкі — печы для пераплаўкі жалезнага лому. Пабудавалі і домну, але няўдала — менш чым праз год яна згарэла.

Магчыма, разам з пажарышчам пагасла б і прадпрымальніцкая настойлівасць Бенкендорфа, калі б у 1839 годзе ён не атрымаў буйную дзяржаўную замову на пастаўку медных лістоў для Чарнаморскага флоту. Заводы Урала і цэнтральных расійскіх губерняў былі далёка ад асноўных караблебудаўнічых цэнтраў Чорнага мора, ды і не мелі з імі воднага злучэння, самага зручнага ў той час.

А завод у Старынцы знаходзіўся ўсяго за некалькі кіламетраў ▶



**Старынка, дзе быў найбуйнейшы з нашых металургічных заводаў**, пацярпела ад чарнобыльскай катастрофы. Паселішча выселілі, будынкі знеслі. Але вось такія выхады металургічнага шлаку нагадваюць пра колішнюю вытворчасць там жалеза.

ФОТА АНДРЭЯ КІШТЫМАВА

ад буйнога прытока Дняпра — ракі Сож, па якім праходзіў наладжаны шлях на поўдзень. Другой прычынай атрымання такога выгаднага кантракта магло быць удалае сваяцтва ўласніка завода. Бо іншы, куды больш вядомы ў гісторыі Бенкендорф, Аляксандр Хрыстафоравіч, быў тады начальнікам корпуса жандараў у Пецярбургу і карыстаўся вялікім даверам імператара Мікалая І.

Як бы там ні было, справы хутка пайшлі ўгару. Следам за замовай для Мікалаеўскага марскога арсенала Старынкаўскі завод пачаў пастаўкі для Кіеўскага, Грузінскага і Бранскага арсеналаў, парахавога завода ў Шостцы, Каўказскай арміі, Марскога і Артылерыйскага ведамстваў і Міністэрства шляхоў зносін.

Тады ж вярнуліся і да ідэі атрымліваць метал з мясцовай жалезнай руды. Яе пробы накіравалі на аналіз у Горы-Горацкі земляробчы і Пецярбургскі тэхналагічны інстытуты. Выявілася, што руда змяшчае амаль 45% жалеза. Справа аказалася вельмі прыбытковай, паколькі сама руда каштавала заводу капейкі, а доменныя мяхі працавалі з дапамогай вадзяных колаў, і толькі ў час недахопу вады на рацэ ўключалі паравы рухавік.

Даволі хутка невялікі заводзік у Старынцы перарос у прамысловую махіну, якая размяшчалася ў 5 мураваных карпусах і 10 драўляных пабудовах. Завод меў 6 мураваных сушылак, трохпавярховы мураваны склад-краму. Была і ўласная чыгунка, якая злучала розныя цэхі і порт на рацэ Сож. Больш за тое, прадпрымства мела нават уласныя медныя грошы, якімі разлічваліся з рабочымі. Такія ўнутраныя медзякі прымалі ў заводскай крамцы.

Самыя буйныя замовы пачалі прыходзіць на завод з 1847 года, калі тут наладзілі вытворчасць вайсковых вазоў, лафетаў і крэпасцевых платформаў. Але было безліч і невайсковых кантрактаў. Напрыклад, менавіта ў Старынцы вырабілі ўсё жалезнае начынне, неабходнае для пабудовы першага моста цераз Дняпро ў Магілёве. Выконваў завод і прыватныя дробныя замовы для землеўласнікаў і прадпрымальнікаў.

Свайго найбольшага росквіту Старынкаўскі завод дасягнуў на мяжы 1850–1860-х гадоў. Напрыклад, у 1859 годзе ён вырабіў прадукцыі на 240 тысяч рублёў, у той час як усе 122 прадпрыемствы Магілёва выпусцілі тавару толькі на 215 тысяч.

Завод у Старынцы быў адзіным за ўсю гісторыю металургічным прадпрыемствам у Беларусі з завершаным вытворчым працэсам: ад здабычы жалезнай руды да машынабудавання.

А самая галоўная адметнасць завода ў Старынцы палягала ў тым, што гэта была адзіная прамысловасць у Беларусі такога кшталту з завершаным вытворчым цыклам: ад здабычы жалезнай руды і выплаўкі металу да машынабудавання. Больш у нашай краіне за ўсю гісторыю яе эканомікі такіх прадпрыемстваў не было.

### Радзівілаўскі стартап

Чыгунаплавільны і жалезаробчы завод ва ўрочышчы Чарняўка Барысаўскага павета заснаваў у сярэдзіне 1850-х князь Леан Радзівіл (чытайце пра яго артыкул Андрэя Блінца ў №7/2020 «Нашай гісторыі»). Завод быў куды меншы па аб'ёмах прадукцыі ў параўнанні са Старынкаўскім, тым больш што разгарнуцца як след ён не паспеў. Ужо ў 1857 годзе завод у складзе вялізнага маёнтка Барысаўшчына адышоў царскаму родзічу, вялікаму князю Мікалаю Раманаву, пасля чаго некаторы

**Прамысловыя памяшканні, што засталіся па першым беларускім металургічным заводзе** ў Вішневе, Валожынскі раён.


VEDA.BY



Сучасны працэс пераплаўкі жалеза выглядае так. **Доменная печ на Беларускім металургічным заводзе.**

METALINFO.RU

час не працаваў. Наноў Чарняўскі завод запусцілі ў 1863-м, і ён нават пачаў хутка развівацца, але доўжылася гэта не больш за дзесяцігоддзе.

### Камбінат у Налібаках

Камбінатам прадпрыемства Льва Вітгенштэйна ў Налібаках цяперашняга Стаўбцоўскага раёна з'яўлялася таму, што складалася фактычна з двух заводаў: чыгуналіцейнага і жалезаапрацоўчага. Будаваўся камбінат у пачатку 1850-х, і пра размах гэтага будаўніцтва гаворыць тое, што на ім адначасова было задзейнічана больш за 1 000 рабочых — як прыгонных, так і вольнанаёмных.

Пуск гэтага завода амаль супаў з пачаткам Крымскай вайны 1853–1856 гадоў, калі рэзка павысіўся попыт на жалеза. Гэта дазволіла ўжо ў першыя гады працы дасягнуць праектнай магутнасці. Праўда, як толькі ваенныя замовы спыніліся, для налібацкай прамысловасці пачаліся цяжкія часы, якія абцяжарваліся адменай прыгоннага права (цяпер прыходзілася плаціць рабочым за працу, а не толькі карміць іх) і збядненнем навакольных лясоў, з якіх працягвалі здабываць драўняны вугаль.

### Жалезны заняпад

Нягледзячы на несумненныя поспехі XIX стагоддзя, чорная металургія Беларусі ў новых умовах не мела эканамічных перспектыў. Адмена прыгоннага права пазбавіла землеўласнікаў таннай рабочай сілы. У галіну прыйшлі новыя тэхналогіі, а здабыча балотнай руды стала яўным анахранізмам у параўнанні з працай горназдабывальнай прамысловасці. Да таго ж на змену драўнянаму вугалю прыйшоў прадукт перапрацоўкі вугалю каменнага — кокс. Трацiў значэнне і водны транспарт: чыгункі звязалі беларускія губерні з Уралам і Украінай, і нашы заводы канчаткова перасталі вытрымліваць канкурэнцыю з танным металам адтуль.

Канец 1860-х і 1870-я гады сталі гібельнымі для мясцовых металургічных прадпрыемстваў. Праіснаваўшы не адзін дзясятак гадоў, яны паразвальваліся літаральна за год-два. У 1872-м зачыніўся раней такі паспяховы Старынкаўскі завод. Апошнія весткі пра Вішнеўскі завод з амаль 100-гадовай гісторыяй адносяцца да 1870-га. Цяпер пра яго нагадвае толькі невялікая капліца ў Вішневе, складзеная з кавалкаў металургічнага шлаку, ды некаторыя захаваныя вытворчыя пабудовы.

Крыху больш пажыў Чарняўскі металургічны завод, дзякуючы пратэкцыі яго ўласніка, брата імператара. Але менавіта што «крыху»: ужо ў 1876-м пра завод пішуць як пра былы, хоць канчатковае яго закрыццё супала з годам забойства Аляксандра II (1881-ы).

**Прадпрыемствы, якія праіснавалі не адзін дзясятак гадоў, развалiліся літаральна за год-два**

Налібацкі завод па інерцыі праіснаваў да канца XIX стагоддзя, але з тых жа 1870-х ён не выходзіў з крызісу і працаваў па 3–9 месяцаў на год. У 1881 годзе там закрыліся 2 з 3 доменных печаў, ды і тая апошняя працавала ў няпоўную сілу. Неўзабаве ўсялякія згадкі пра металургічны камбінат знікаюць з архіўных дакументаў.

У выніку да канца пазамінулага стагоддзя беларуская чорная металургія перастала існаваць. А аднавілася яе гісторыя толькі праз стагоддзе, калі ў 1984 годзе першую прадукцыю даў Беларускі металургічны завод у Жлобіне. ◆

**У наш час з'явілася ўнікальная платформа — форумы на сайтах і сацыяльныя сеткі. Тут аматары абмяркоўваюць навуковыя адкрыцці са спецыялістамі, а навукоўцы могуць разняволіцца, выказаць смелыя здагадкі і падзяліцца знаходкамі. У гэтай рубрыцы — пераказ некаторых цікавых запісаў і дыскусій на гістарычныя тэмы ў інтэрнэце.**

## Ці былі вікінгі бландзінамі?

Падаецца, генетыкам і археолагам супольнымі высілкамі ўдалося разбіць міф пра тое, што вікінгі былі блакітнавокімі бландзінамі. Насамрэч, яны далёка не заўсёды былі нават чыстакроўнымі скандынавамі. Вынікі аднаго цікавага даследавання апублікаваныя ў верасnёвым выпуску брытанскага часопіса «*Nature*».

Шэсць гадоў навукоўцы Кембрыджскага і Капенгагенскага ўніверсітэтаў вывучалі гены парэшткаў 442 насельнікаў Паўночнай Еўропы. Гэтыя людзі жылі паміж 2400 годам да н. э. і 1600 годам н. э., але пераважная іх частка жыла менавіта ў эру вікінгаў (750–1050 гады).

Гены вікінгаў параўналі з генамі сучасных людзей, а таксама амаль 2000 старажытных, якія ўжо былі ў генетычнай базе навукоўцаў. Аказалася, што вікінгі не былі чыстым працягам скандынаваў эпохі жалезнага веку. Іх гены былі памяшаныя з іншымі еўрапейцамі (у тым ліку паўднёвымі, то-бок з супрацьлеглай часткі кантынента) і нават азіятамі. І многія з вікінгаў былі якраз шатэнамі, а не бландзінамі, як звычайна ўяўляюць.

Што яшчэ адметна (і лагічна): тыя парэшткі, што належалі жыхарам узбярэжжаў, мелі больш мяшаныя гены, чым парэшткі жыхароў аддаленых ад мора тэрыторый.



**Каштоўны для этнографаў кадр, падзяліўся ім у Фэйсбуку фотакалекцыянер Сяргей Лескець.** Ён піша: «Пашчасціла знайсці здымак бортніка за працай. Ды з дымком! 50-я гады мінулага стагоддзя. Слонімшчына. Чаму картачка рэдкая, тлумачыць сучасны бортнік, старшыня "Братэрства босых бортнікаў" Іван Осіпаў: "Такія здымкі трапляюцца вельмі рэдка і па некалькіх прычынах. Першая — гэта падаткі ў БССР, якія прымусілі паліць калоды цэлымі вёскамі, і была забарона тыя калоды ў лесе размяшчаць. Але самая прычына — традыцыйны светагляд: не свой не можа падыходзіць да калод. Ды і мала ў каго былі фотаапараты"».




**Апошняя знойдзеная берасцяная грамата.**

Ну і яшчэ адна выснова, якую пацвердзілі навукоўцы генетычна, даследуючы пахаванні па ўсёй Еўропе і Скандынавіі. Вікінгі пэўнай мясцовасці звычайна выпраўляліся ў свае ваяўнічыя і дыпламатычна-гандлёвыя рэйды ў адзін традыцыйны бок. Што гэта за кірунак, залежала ад месца жыхарства ваяра. Вікінгі сучаснай Даніі звычайна плавалі ў Англію. Продкі нарвежцаў кіраваліся ў Ірландыю, Ісландыю, Грэнландыю і востраў Мэн. Ну, а ў Балтыку і да нас прыязджалі продкі шведаў.

## Старажытны мэсэнджар

Расійскія археолагі зусім нядаўна знайшлі ў Ноўгарадзе берасцяную грамату XIV стагоддзя з выразным тэкстам на ёй.

Такая знаходка для самога Ноўгарада не сенсацыя. Толькі ў гэтым археалагічным сезоне гэта ўжо дзясятая грамата, а ўсяго за гісторыю раскопак на наўгародскіх землях адшукалі больш за тысячу такіх помнікаў пісьменства.

Аднак у цэлым знайсці берасцяную грамату для археолага — вялікая ўдача. Бо хоць яны і былі распаўсюджаныя, як лічыцца, па ўсёй Русі, аднак захаваліся мала дзе. Напрыклад, у Беларусі выяўленыя толькі тры берасцяныя граматы (адна ў Віцебску, дзве ў Мсціславе), ды ў 2014 годзе ў Мсціславе адкапалі невялікі фрагмент чацвёртай. Ва Украіне вядомая толькі адна берасцяная грамата. Прычына надзвычайнага багацця ў гэтым плане Ноўгарада хаваецца, хутчэй за ўсё, у складзе тамтэйшай глебы, якая дазваляе добра захоўваць такі тып арганічнага матэрыялу.



**Супрацоўнік Купалаўскага музея Павел Каралёў размясціў у сябе на старонцы ў Фэйсбуку гэты скан і каментар да яго:** «Як хлусілі за савецкім часам. У выданні “Помнікі гісторыі і культуры Беларусі” (1979, №1) адзначалася, што прыгожы фарны касцёл у Клецку “быў разбураны гітлераўцамі ў гады вайны”. Насамрэч жа ён быў узарваны ў 1950-х гадах. Да нашага часу засталася толькі частка сцяны помніка».



**Цікавым здымкам падзяліўся ў Фэйсбуку настаўнік з Кармы на Гомельшчыне Валер Варганаў.** «100 гадоў таму, 14 верасня 1920 года, у Менску адкрыўся Беларускі дзяржаўны тэатр (цяпер Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы). На фота трупа акцёраў Купалаўскага тэатра выпраўляецца на гастролі, 1920-я гады» — піша Валер. Цікава, а коні лічыліся часткай трупы? :)

Што яшчэ цікава: самая старажытная з берасцяных грамат, таксама наўгародская, напісана жыхаром сучаснай Беларусі — палачанінам ці віцяблянінам. Датуецца яна XI стагоддзем.

Берасцяныя граматы — гэта запіскі, лісты і дакументы на кавалках бяросты. Літары выводзіліся спецыяльным вострым прадметам (пісалам) па тым баку бярозавай кары, што прылягае да камля. Усе берасцяныя граматы надзвычай цэняцца найперш лінгвістамі, бо даюць уяўленне пра пісьмовую і гутарковую мову ўсходнеславянскага Сярэднявечча. ◆





































## Калі часопіса не засталося ў «Саюздруках» і на поштах, пытайцеся яго ў кнігарнях

**Мінск**

«Мой модны кут» (Цэнтр «Маскоўска-Венскі», павільён 333 — гэта каля ЦУМа, метро «Плошча Якуба Коласа», пр. Незалежнасці, 58)

«Акадэмкніга» (пр.Незалежнасці, 72, метро «Акадэмія навук»)

Філіял «Акадэмкнігі» на вул. Багдановіча, 46

Гандлёвы цэнтр «Купалаўскі» (пад Кастрычніцкай плошчай), крамы 37, 41–42 і 44–45

«Галіяфы» (вул. Няміга, 3, крама № 47 на цокальным паверсе)

«Рагна» (вул. Сухая, 4, метро «Фрунзенская»)

Кніжны кірмаш па вул. Даўмана, 23 (субота 00.00–14.00), месца 786

«Кніжная шафа» (пр. Дзяржынскага, 9)

«Светач» (пр. Пераможцаў, 11)

«Цэнтральная кнігарня» (пр. Незалежнасці, 19)

«Кнігі і кніжачкі» (пр. Незалежнасці, 14)

«Эўрыка» (вул. Куйбышава, 75)

**Поштай ці з дастаўкай на дом** вы можаце яго замовіць праз Halijafy.by, Knihi.by, Kniger.by, Akademkniga.by, kniganosha.by

**Гродна**

«Цудоўня» (вул. Кірава, 3).

«Кругагляд» (б-р Ленінскага камсамола, 29а)

«Раніца» (вул. Маставая, 33)

**Брэст**

«Князь Вітаўт», Kniaz.by

«Асвета» (пр. Машэрава, 57)

«Дружба»(б-р Касманаўтаў, 120)

«Іскра» (вул. Пушкінская, 4)

**Гомель**

«Кніжны свет» (пр. Леніна, 45)

**Віцебск**

«Светач» (вул. Кірава, 10)

«Глобус» (вул. Замкавая, 21–30)

**Магілёў**

«Гасцінец» (Віцебскі праспект, 48)

**Бабруйск**

«Крыніца ведаў» (вул. Горкага, 31)

**Баранавічы**

«Кнігі» (вул. Савецкая, 73)

**Маладзечна**

«Спадчына» (вул. Прытыцкага, 7)

**Ліда**

«Кніжны свет» (пр. Перамогі, 33)

**Наваполацк**

«Дом кнігі» (вул. Маладзёжная, 145)

«Усход» (вул. Кірава, 4)

Акрамя таго, праз сайт **ARCHE.BY** часопіс можна купіць у ПДФ, у электроннай версіі.